зам з кадравымі войскамі перагарадзілі ім шлях, і Ленінград ім не аддадуць.

Ленінградцы, вядома, у той час не ведалі пра сакрэтны загад Гітлера, датаваны 29 верасня 1941 года, у якім гаварылася: «Пецярбург (Ленінград) сцерці з твару зямлі. Прапануецца шчыльна блакіраваць яго шляхам абстрэлу з артылерыі ўсіх калібраў, няспыннай бамбёжкай з паветра зраўняць яго з зямлёй...»

Але яны і так ведалі, што нясуць з сабою фашысты, і ўсе сілы збіралі для адпору ворагу. У радах абаронцаў знаходзіліся і тыя ветэраны, якія слухалі У. І. Леніна ў дні абароны сталіцы маладой рэспублікі Саветаў.

...Не прайшло і паўгадзіны, як вылецеў Правасудаў, а на стаянцы ўжо пачалася беганіна.

— Што здарылася? — пытаю ў Святлічнага.

— Радыст перадаў, што правы матор не працуе,— адказаў той.— Экіпаж вяртаецца. Лётчык стараўся зайсці на пасадку на адным маторы, але яму гэта не ўдалося...

А тут зямля...

«Усё скончана...» — пранеслася ў галаве. Крыўдна было, што лётчык на адным маторы давёў падбіты самалёт да аэрадрома, а пасадзіць яго не здолеў.

Страчаны апошні вопытны экіпаж. Жывы застаўся толькі Георгі Правасудаў, але і яго становішча было вельмі цяжкае.

Адразу прыгадалася, як гэты бясстрашны экіпаж — лётчык Разанцаў, штурман Правасудаў, стралок-радыст Шахлін і тэхнік Святлічны — на досвітку 22 чэрвеня 1941 года па баявой трывозе з палявога аэрадрома ў Заходняй Беларусі ўзняліся і бамбілі фашысцкія танкі і механізаваныя калоны, што перайшлі нашу заходнюю граніцу.

Георгі Правасудаў з экіпажам пасля першага вылету пехатою дабіраўся да запаснога аэрадрома. Зноў яго самалёт у паветры, і зноў яго збіваюць... Пехатою Георгі дабіраецца ў свой полк. Але ўжо тут былі пустыя стаянкі, і штурман крочыць у Бабруйск, дзе жыла яго маці і дзве сястры. З'явілася думка: «У Бабруйску знаходзіліся жонкі лётчыкаў, і магчыма ў іх удасца ўдакладніць, куды адправіліся іх мужыкі».

Кароткая сустрэча з маткай. Георгі адчуў, што доўга яму тут затрымлівацца нельга — вораг быў блізка ля Бабруйска, і ён, пераапрануўшыся ў цывільную вопратку, накіроўваецца на ўсход, каб дагнаць родны полк. Як ён мог растлумачыць маці, што яму трэба спяшацца, што ў яго наперадзе вялікія справы!..

...Рознымі дарогамі рухаліся людзі гэтага палка. У канцы ліпеня 1941 года яны зноў сустрэліся ў Казані. Сярод іх быў і беларус Георгі Правасудаў. Тут 125-ы бамбардзіровачны полк атрымаў новую тэхніку — пікіруючыя бамбардзіроўшчыкі «Петлякоў-2» пад камандаваннем маёра Сандалава былі накіраваны на ленінградскі фронт, дзе вырашаўся лёс горада.

Пад Ленінградам, у верасноўскіх баях, Георгі Правасудаў часта паяўляўся над станцыямі Акцябрскай чыгункі, граміў варожыя эшалоны з тэхнікай, якая накіроўвалася на Волхаўскі фронт. У адным з вылетаў яго самалёт зноў быў падбіты і загарэўся. Давялося членам экіпажа прызямліцца на парашутах у варожым тыле.

Пяць дзён па дрыгвяністых балотах, ляснымі сцежкамі Георгі прабіраўся з варожага тылу. Перайшоўшы лінію фронту, бясстрашны штурман зноў апынуўся сярод сваіх... «Бясконны», Правасудаў больш месяца прасядзеў у штабе, сумуючы па палётах.

У хуткім часе надарыўся выпадак, каб зноў узляцець...

У студзені 1942 года трэба было перагнаць адноўлены ПЕ-2 з Волхаўскага фронту да блакіраванага Ленінграда, на аэрадром, дзе базіраваўся асноўны склад палка.

У непагадзь, пры нізкай воблачнасці і дрэннай бачнасці Георгі з лётчыкам Разанцавым, стралком-радыстам і тэхнікам на брыючым палёце накіраваліся праз Ладагу. Калі прыляцелі, камандзір палка маёр Сандалаў, паказаўшы на загнутыя канцы лопасцей вінтоў, сказаў да Правасудава:

— Што гэта такое?

Штурман пераглянуўся з лётчыкам, і яны паціснулі плячамі — сказаць штосьці пэўнае не маглі.

— На якой вышыні ляцелі над Ладагай? — строга спытаў камандзір.

— Ды так, на брыючым. Магчыма, метраў дваццаць...— адказаў лётчык.

— Нябось вашы росписы і цяпер упрыгожваюць лёд. Мастакі!

Усе збянтэжана маўчалі. А тэхнік Святлічны ўпэўнена заявіў:

— Усё будзе ў парадку, таварыш камандзір. Да раніцы наша машына будзе ў страі...

* * *

Два тыдні Георгі Правасудаў прабыў ў шпіталі. За гэты час на аэрадроме амаль нічога не змянілася. На аэрадром ён вярнуўся, нібы ў родны дом. Ля каманднага пункта яго сябры сустрэлі дружнымі поціскамі рук.

— Як жывяце? — спытаў ён лётчыкаў і штурманаў, якія акружылі яго.

— Лётаем,— адказалі тыя, што стаялі бліжэй да яго.

— Я бачу сярод вас і папаўненне...

— Ёсць новенькія...

У групе былі лётчык Віталь Грыгор'еў і штурман Павел Лісіненкаў. Яны не так даўно прыбылі з самалётам ПЕ-2 на ўкамплектаванне разведвальнай эскадрыллі.

Праз дні два-тры Георгі выказаў жаданне ісці са мною на дальнюю разведку. Я быў рады паляцець з такім вопытным штурманам і цудоўным паветраным байцом і адразу ж сказаў:

— Калі і куды будзем вылятаць?

— Зараз удакладню заданне і падрыхтую палётную карту,— дзелавіта сказаў Правасудаў.— А ты пакуль прымай самалёт...

Заняты падрыхтоўкай самалёта да баявога вылету, я не меў часу назіраць за паветрам. Але да майго слыху выразна данесліся крыкі: «Месеры! Месеры!» Пакуль я разабраўся, што там такое, пара нямецкіх знішчальнікаў пераходзіла ўжо ў пікіраванне на нашу стаянку.

Паблізу аказаўся вялізны валун. Я прылёг за яго, і адразу ж чэргі куль паўзрывалі зямлю побач. А тыя, што траплялі ў камень, з віскам рыкашэцілі. Я выглянуў з-за каменя. Бачу, што пара зноў разварнулася і зноў пікіруе... Мне здалося, што вядучы пары бачыць мяне, і я хутка аббег валун і яшчэ мацней прыціснуўся да яго. «Эх, памерці гэтак—крыўдна...» — пранеслася думка. Але цяпер кулі кладліся далей, чэрцячы дарожкі на зямлі...

Гэты кароткі штурм нашага аэрадрома яскрава напамінаў, што лётчыкі паміраюць не толькі ў паветраных баях, але і на зямлі. Аказалася, што асноўны налёт быў на суседні аэрадром, які знаходзіўся за тры-чатыры кіламетры. Мы ж трапілі ў поле зроку гэтай пары знішчальнікаў так, паміж справай.

Фашысцкай авіяцыі было шмат, і іх лётчыкі паспявалі ўсюды. Гэта быў 1942 год.

Правасудаў, які падскочыў да мяне, спытаў:

— Ну як, не прыбіла цябе?

— Як бачыш,— адказаў я, атрасаючыся. І пацікавіўся ў сваю чаргу: — Як там астатнія нашы?

— Нікога не зачапіла, — адказаў Правасудаў і, нібы здагадваючыся, пра што я думаю, дадаў: — Нічога, Саша. Яшчэ мы з імі палічымся. Вось пабачыш!..

* * *

Як сказаў мне Правасудаў, мы павінны ляцець для назірання аэрадромных і чыгуначных вузлоў у Пскоўскай, Наўгародскай абласцях і ў Эстоніі. Гэта было адказнае заданне.



Капітан Георгі Правасудаў. Студзень 1943 года.

Тэхнік Генадзь Мамаеў далажыў:

— Самалёт, зброя і радыёстанцыя апрабаваны. Да палёту ўсё гатова.

Мы на сваіх месцах. Маторы запушчаны. Засталося праверыць самалётна-перагаворны апарат і адстраляць кулямёты...

Нарэшце — мы ў паветры. У кожнага — свае абавязкі.

— Бяры курс 270 градусаў, кіруйся да берагоў Эстоніі,— сказаў Правасудаў, а сам тым часам пачаў пільна ўзірацца ў паўднёвы бераг Фінскага заліва, над якім мы ляцелі. Вось ужо і лінія фронту мінула. Вышыня — больш шасці тысяч метраў. Падбіраемся да варожага аэрадрома. Азіраюся і пытаю:

— Штурман! Стралок! Як абстаноўка?

— Нічога не бачу,— адказвае стралок.

— Правей ад нас і ніжэй метраў на восемсот чатыры знішчальнікі,— паведамляе штурман.

— Чуеш, стралок? — крычу я.— Знішчальнікі справа, на адлегласці пяць-шэсць кіламетраў.

— Зразумеў, таварыш камандзір!

Пытаю ў штурмана:

— Знішчальнікі нас заўважылі?

— Здаецца, што так. Разварочваюцца ў наш бок...

Загадваю стралку:

— Назірай за знішчальнікамі. Яны ідуць наперарэз.— І тут жа напамінаю штурману: — Аэрадром. Уключай фотаапараты...

Але штурман і сам ужо іх уключыў. Ён тут жа паведамляе:

— Разварот у бок Тарту. Набірай вышыню і выходзь на сонца...

Адчуваючы, што набліжаецца бой, увесь сціскаешся, нібы спружына.

— Камандзір! — даносіцца голас стралка-радыста.— Знішчальнікі за намі!

Але што я мог зрабіць? Наш ПЕ-2 на вышыні сем тысяч метраў мог даць 380—400 кіламетраў у гадзіну, а МЕ-109Е развівалі хуткасць да пяцісот кіламетраў. Яны, вядома, былі ў больш выгадным становішчы.

Лета 1942 года. Экіпаж перад вылетам: лётчык Ткачэнка, штурман Правасудаў і стралок-радыст Разанаў.

Зараз усё залежала ад таго, ці здолеем мы адарвацца ад знішчальнікаў. Таму мы ідзём у бок сонца.

Тартускі і Пскоўскі аэрадромы былі забіты варожымі бамбардзіроўшчыкамі. Усе яны трапілі ў аб'ектыў нашых аэрафотаапаратаў. Над аэрадромамі нас сустракалі выбухі зенітак, яны нам асабліва не пагражалі, але дапамагалі наводзіць знішчальнікаў. Гэта ўжо была большая пагроза. І тут трэба было глядзець, як кажуць, ва ўсе шасцёра вачэй.

З зямлі і ў паветры лётчыкі-знішчальнікі бачаць нас па белым шлейфе, які ПЕ-2 цягне за сабой, ідучы на гэтай вышыні. Па гэтай перыстай стужцы нас лёгка знаходзяць. Давялося неадкладна пазбавіцца ад гэтага хваста — змяніць вышыню палёту.

Над аэрадромным вузлом, у якім знаходзіліся тры аэрадромы, нас сустрэлі толькі рэдкія зенітныя стрэлы. Правасудаў і стралок-радыст заняліся перадачай суміраваных дадзеных разведкі, а мяне чамусьці пачало абдаваць халодным потам, хаця тэрмометр паказваў 45 градусаў ніжэй нуля. Я амаль што не бачу стрэлкі на прыборнай дошцы: яна расплываецца ў нейкую пляму, у руках з'явілася нейкая слабасць, мне цяжка гаварыць. Здаецца, я трачу прытомнасць.

— Штурман!..

— Слухаю, Саша.

— Не, нічога... Мне здалося...

— Што з табою? — пытае Правасудаў.

— Трэба зніжацца,— і левая рука машынальна пацягнула сектары газу на сябе.

— Саша! Зніжацца нельга,— закрычаў штурман.

— У мяне, здаецца, кончыўся кісларод,— ледзь сабраўшыся з сіламі, сказаў я і зноў упаў у забыццё. Праз нейкае імгненне апрытомнеў. Сэрца стукае ў грудзях, нібы малаток. Дыхаць цяжка, і я прагна глытаю жыватворны струмень кіслароду проста са шланга кіслароднага прыбора, які мне ткнуў у рот штурман. Я паглядзеў з удзячнасцю на сябра. Правасудаў быў без кіслароднай маскі і клапатліва ўвіхаўся ля мяне. Мая кіслародная маска валялася недзе на падлозе, а мы па чарзе прыпадалі да шланга штурмана.

— Ці надоўга нам хопіць тваёго кіслароду? — пытаю ў Георгія.— Да лініі фронту яшчэ кіламетраў паўтараста...

— Хопіць. Не турбуйся!

— А мы ж збіраліся яшчэ завітаць... памятаеш? — пытаюся.

— Зойдзем абавязкова,— адказвае Георгі.

Ужо на гарызонце паказаўся горад.

— Саша... Курс! — чую голас Правасудава.— Не адхіляйся ад курсу...

Сапраўды, я адхіляюся ўправа. Ужо адхіліўся на тры градусы. Гэта не выпадкова... Мяне нешта адштурхоўвае ад гэтага горада. Там заўсёды на аэрадроме базіруецца звыш ста знішчыльнікаў. Тут мы ўжо згубілі лепшых сваіх разведчыкаў. Даварочваю ўлева. «Як мы будзем карыстацца кіслародам, калі надарыцца бой?» — праносіцца трывожная думка.

Аэрадром ужо блізка, і Правасудаў пацягнуўся да прыбора — уключаць аэрафотаапараты. Мы фатаграфуем



аэрадром з ходу, але нас заўважылі. Усе мы бачылі, як у розных месцах, на розных вышынях з'явіліся варожыя знішчальнікі. Нам патрэбна была дапамога. Хто нам дапаможа, мы і самі не ведалі...

Смірноў ужо ўбачыў, як набліжаліся два «месеры». Правасудаў заўважыў, што нам наперарэз набіралі вышыню яшчэ дзве пары. Кола вакол нас сціскалася.

З невялікім зніжэннем вышыні мы бярэм курс не на поўнач, да Ленінграда, а на ўсход, туды, дзе знаходзіліся нашы знішчальнікі прыкрыцця.

Цяпер шланг кіслароднага прыбора знаходзіўся ў мяне ў правай руцэ, і я ўжо дырыжыраваў, каму і калі прыкладвацца да яго...

Чацвёрка немцаў нашага манеўру не зразумела, а вось пара, што следавала за намі, ужо над горадам Тосна дагнала і атакавала нас. Рэзкі манеўр, і мы ўжо на вышыні пяць тысяч метраў.

Атакі следавалі адна за другой. Справа і злева на плоскасцях бачны прабоіны ад куль і снарадаў, у разбіты шкляны каўпак кабіны лётчыка ўрываліся моцныя струмені паветра і перашкаджалі назіранню. Сумесь вады, масла і бензіна з прабітых бакаў расцякалася каля правага матора, але самалёт яшчэ не гарэў.

І тут да нас прыйшла дапамога. Група «якаў» перахапіла немцаў і завязала бой. Па пазыўных і голасе, якім кіраваўся гэты паветраны бой, мы зразумелі, што братэрскую руку дапамогі працягваў Мікалай Зеляноў (цяпер Герой Савецкага Саюза). Мы былі вельмі ўдзячны. Параненую «пешку» я стараўся давесці да якоганебудзь аэрадрома.

Мы ішлі на зніжэнне. Вакол нашага самалёта ўтвараліся шчыльныя пласты цёмна-шэрых выбухаў, затым пеляна белых шапак, а з вышыні тры тысячы метраў пачалі з'яўляцца цёмна-чырвоныя букеты.

Нас атакавала спачатку буйная, а затым сярэдняя і дробнакаліберная зенітная артылерыя. Шчыльнасць агню была такая моцная, што не хапала сілы як-небудзь выбрацца на нашай параненай «пешцы». Праўда, плоскасць ужо была прашыта снарадам навылёт. Моцна трэсла ў маторах. Здавалася, яны вось-вось захлынуцца...

І ўсё ж нам удалося прызямліцца. Заданне было выканана поўнасцю.

* * *

У канцы мая 1942 года мая група ў складзе лётчыкаў Грыгор'ева і Валашэнкі накіраваліся па новыя машыны, і мы з Правасудавым рассталіся.

Абстаноўка ў эскадрыллі складвалася такім чынам, што на баявое заданне павінны былі накіроўвацца толькі што прыбыўшыя тры маладыя лётчыкі — сяржанты Харузін, Сяргееў і Ягораў. Яны, як кажуць, яшчэ і зенітнага разрыву не бачылі, не тое каб удзельнічаць у паветраных баях. Ім трэба было дасканала вывучыць раён, у які трэба было рабіць палёты. А дзе ўзяць час?

Выхад знайшоў штурман эскадрыллі — капітан Правасудаў. Па чарзе лятаючы з маладымі лётчыкамі, ён, як кажуць, «уводзіў іх у строй».

Пасля чарговага палёту навічкі звычайна дзяліліся ўражаннямі, расказвалі пра тое, як ішлі паветраныя баі.

— Разумееш,— спяшаўся выказацца Міхаіл Харузін,— як гэта ў капітана Правасудава хапае вытрымкі назіраць за снапамі кулямётных трас, якія ляцяць яму ў вочы ў час паветранага бою? Калі накрэсліваюцца вогненныя лініі і з'яўляюцца ў мяне недзе ззаду, я ўвесь сціскаюся, а галава сама прыліпае да бронеспінкі...

— А я бачыў, як капітан адбіваў атакі знішчальнікаў,— заўважыў Валянцін Сяргееў.— Яго кулямёт стаяў на ўпоры, і як толькі я давярнуў кулямёт, ён адразу адкрыў агонь...

...Вярнуўшыся з камандзіроўкі, мы дазналіся пра падзеі, што адбыліся за гэты час. Мы неяк разгаварыліся, і капітан Правасудаў расказаў пра тое, як ён разам з маладымі лётчыкамі лятаў у разведку над аэрадромнымі вузламі.

— Ты ж, Саша, ведаеш, якой цаною адзначана паветраная дарога да гэтых праклятых вузлоў,— нагадаў Георгі.

— Ведаю, Жора, ведаю...

А Георгі працягваў, уздыхнуўшы:

— Нам удалося немцаў абхітрыць, і аэрадром мы ўсё ж сфатаграфавалі. А далей як быццам нас хто намагнічваў. Жаданне ўсіх было такое і паглынала ўсю нашу ўвагу, што мы не адчувалі скорасці палёту. Мы не заўважылі, як нас на вышыні 6 000 метраў атакавалі дзве пары «месераў». Не ведаю, ці паспеў нават стралок-радыст перадаць пра гэта на «НП». Першыя атакі мы адбілі ўдала, але хутка ніжні кулямёт змоўк. Стралок невядома ці быў жывы. Атакі даймалі знізу і ззаду. Ужо пацягнуўся шлейф дыму з-пад правай мотагандолы...

Валянцін Сяргееў намагаўся, зніжаючыся, дацягнуцца на прыморскі плацдарм, але немцы разгадалі наш намер і абрушыліся ўраганным агнём. Пры адбіцці адной з атак змоўк і мой кулямёт. Клубы едкага дыму запаўнялі кабіну. Немцы з шалёнай праг-

насцю накінуліся на нашу безабаронную машыну. Неўзабаве загарэўся і левы матор. Ніякія манеўры Сяргеева не давалі рады. У кабіну аднекуль знізу ўварваўся агонь, загарэлася вопратка. І мы пакінулі самалёт, ратуючыся на парашутах. Мы прызямліліся недалёка адзін ад другога.

Я апынуўся на ўзлеску, а Валянцін пляснуўся ў жыта, на вачах немцаў... У лесе хавацца было цяжка, ныла абпаленая рука і мацней боль у назе. Блукаючы па лесе, набрыў на двух рускіх мужчын, якія нарыхтоўвалі дровы.

Яны расказалі, як мне лягчэй патрапіць да сваіх, далі цывільную вопратку...

— І як гэта табе, Жора, удалося столькі блукаць па самой лініі фронту і цябе не заўважылі немцы? — нецярпліва дапытваліся мы, уражаныя расказам гэтага мужнага чалавека.

— Давялося поўзаць і лазіць па зямлі,— працягваў усхвалявана Георгі Правасудаў.— Аднойчы, шукаючы выхаду, каб перабрацца праз фронт, я наткнуўся на двух нямецкіх аўтаматчыкаў. Што рабіць? Я проста прысеў за бервяно, якое перад гэтым нёс, маскіруючыся. Немцы звярнулі на мяне ўвагу. Можа падумалі: «Што,— мауляў,— робіць тут гэты рускі мужык?» Мне прыйшла ў галаву раптоўная думка, і немцы, напэўна, здагадаліся, бо адразу адвярнуліся...

Далей Георгі расказаў, як ён набрыў на адзінокую зямлянку, ад якой цягнулася лагчына. Па гэтай канаве яму ўдалося дайсці да драцяной загароды. Пераадолеўшы яе, папоўз метр за метрам па дрыгве.

Настаў змрок. Георгі апынуўся на паляне. Напэўна, гэта была нейтральная паласа. Зрэдку то справа, то злева з шыпеннем шлёпаліся асколкі. Вызначыўшы напрамак, Георгі прыйшоў да думкі, куды трэба кіравацца. Улучыўшы момант, ён кінуўся, каб перабегчы. Першыя крокаў трыццаць-сорак зрабіў удала, а потым грымнуў выбух, і яго ўзрыўной хваляй кінула на зямлю. Рэзкі боль у другой назе — «значыць, яшчэ раненне...»

Ён, аказваецца, пераходзіў праз мініраванае поле. Але другога выхаду не было, і ён, перавязаўшы нагу, рухаўся толькі наперад. Пачалася страляніна. Міны кляліся з розных бакоў, наперадзе і ззаду, размініруючы яму дарогу.

Калі нашы перадавыя пасты заўважылі перабежчыка, яны адразу ж выклікалі агонь для падаўлення нямецкіх мінамётаў. Тым часам разведчыкі стралковай дывізіі ішлі насустрач і дапамаглі лётчыку хутчэй дабрацца да медсанбата.

...Вестка пра тое, што праз шэсць сутак вярнуўся Георгі Правасудаў, маланкай абляцела ўсіх лётчыкаў. Усе былі рады, што іх баявы таварыш жывы. Дазнаўшыся, што Правасудаў паранены ў абедзве нагі і знаходзіцца ў лазарэце, хлопцы пачалі збірацца да яго. Але ён сам спяшаўся на аэрадром. Крыху ачуняўшы, ён прыехаў і затым кожную раніцу прыязджаў да сяброў. Дзве раны на нагах не зусім зарубцаваліся, і Георгі хадзіў, кульгаючы.

...І цяпер, выйшаўшы з варожага тылу, капітан расказваў сябрам пра ўсё, што бачыў там сваімі вачамі. Неяк, паслухаўшы гутарку Георгія Правасудава аб перажытым і ўбачаным, камісар эскадрыллі Міхаіл Мурашоў параіў штурману выступіць у друку. Так у франтавой газеце 5 снежня 1942 года з'явіўся артыкул Георгія Правасудава «Жыць, каб помсціць».

«У неверагодных умовах я перапаўзаў лінію фронту і рухаўся да сваіх з адной думкай,— пісаў ён,—помсціць нямецка-фашысцкім вылюдкам за тыя жудасныя пакуты, якія яны прынеслі нашым сем'ям, майму народу, маёй Радзіме. І цяпер я гэту помсту ўкладваю ў кожны свой баявы вылет».

Пры палётах над пярэднім краем ці па тылах ворага Георгі Правасудаў ніколі не забываў падвесіць пад плоскасцямі дзве стокілаграмовыя бомбы і скідваў іх на варожыя аб'екты. Прыкладу бясстрашнага штурмана следавалі ўсе лётчыкі эскадрыллі. У студзені 1943 года, да дня прарыву блакады Ленінграда, Георгі Правасудаў атрымаў чарговую высокую ўзнагароду — другі ордэн баявога Чырвонага Сцяга. На яго рахунку было ўжо 160 баявых вылетаў і не адзін дзесятак паветраных баёў.

Баявая слава капітана Георгія Правасудава перайшла межы Ленінградскага фронту. Нягледзячы на забарону ўрачоў, Георгі зноў паяўляўся на паветраных трасах. Ён скарыстоўваў кожную мажлівасць, каб паляцець на баявое заданне. Часта здаралася так, што ў дні, калі трэба было рабіць два палёты, Георгі з маім заўсёдным штурманам Абрамам Рэзнікам дзяліліся, каму з іх даставалася чарга на палёт.

28 лютага 1943 года. Георгі паляцеў у экіпажы Барыса Валашэнкі. З гэтага палёту яны не вярнуліся. Радыё данесла, што яны вядуць бой з чатырма знішчальнікамі над Гатчынай. Пад вечар лётчыкі, якія прыкрывалі Ленінград, паведамілі, што ў раёне Стрэльны бачылі, як падаў, ахоплены агнём, ПЕ-2.

Прайшлі ўсе гадзіны чакання, а з экіпажа так ніхто і не вярнуўся.



Амаль праз год нам стала вядома, што лётчык Барыс Валашэнка жывы, і ў хуткім часе чакалі яго прыезду ў часць. І сапраўды, неўзабаве Барыс прыбыў. Ён выглядаў стомлены і нейкі панылы. На ўсе нашы пытанні аб лёсе астатніх членаў экіпажа адказваў неахвотна і коратка. А нам з боку здавалася, што, напэўна, усе гэтыя роспыты яму проста надакучылі. Барыс хутка папраўляўся, і да яго вярталіся бадзёрасць і сіла.

Аднойчы, разгаварыўшыся, Барыс расказаў пра той палёт 28 лютага.

Была пастаўлена задача — засведчыць перавозкі па чыгунцы варожай артылерыі, якая рухалася з Усходняй Прусіі пад Ленінград. Зрабіўшы здымкі на зададзеным участку, экіпаж амаль што выканаў сваё заданне. Заставалася разведаць яшчэ адзін аэрадром. Тут іх і атакавала чацвёрка «месершмідтаў».

Завязаўся жорсткі бой. Спачатку Правасудаў, а потым стралок-радыст Якіменка збілі па адным «месеры», але іх атакавала яшчэ чацвёрка. Спынілася страляніна, і змоўк Якіменка. «Месеры» расстралялі ПЕ-2 ва ўпор і запалілі яго.

Правасудаўскі кулямёт яшчэ страляў. Зірнуўшы на Правасудава, Барыс заўважыў, што вопратка на ім загарэлася. Ён быў паранены і прысеў на падлогу. Барыс дапамог яму ўстаць на ногі і сарваў каўпак — усе апынуліся ў полымі. Ужо пад купалам парашута Барыс убачыў, як ўспыхнуў парашут над Правасудавым.

...Як толькі Барыс прызямліўся, яго ўжо чакалі два матацыклы з аўтаматчыкамі, і ён апынуўся ў палоне.

Пра лёс свайго штурмана Барыс Валашэнка дазнаўся на наступны дзень, калі яго дапытвалі ў штабе перасыльнага лагера для палонных рускіх лётчыкаў. На стале ў нямецкага капітана Барыс заўважыў рэчы і фота Георгія Правасудава.

— Это... есть храбры лётчык,— на ламанай рускай мове прамовіў немецафіцэр.

— Шлях для вас адзін,— тлумачыў словы нямецкага афіцэра перакладчык.— Смерць у балоце ці жыццё ў палоне.— Ён паказаў на здымак Правасудава і сказаў: — Учора мы збілі гэтага храбрага лётчыка. Мы яго пахавалі — бачыце ягоны канец. Запэўняем, што і ваш сябар Ткачэнка будзе разам з вамі ці захлынецца ў багне...

Выйшаўшы на двор лагера, Барыс зірнуў у неба. Там, на вялікай вышыні, пачуліся хлапкі — ірваліся зенітныя снарады. Яны адразу паказалі, што ПЕ-2 праходзіў над аэрадромам. Неўзабаве шлейф, які цягнуўся за самалётам, знік, а самалёт выкіраваўся ўправа, на ўсход.

— Жывы яшчэ Ткачэнка,—з палёгкай уздыхнуў Барыс.— Лёгкі хлопец на ўспамін... Гэта яго почырк...

Барыс Валашэнка разам з 26 лётчыкамі потым разламалі дзверы таварняка і саскочылі на хаду з эшалона. Так ён вярнуўся ў родную сям'ю лётчыкаў на Ленінградскі фронт.

...Мне застаецца яшчэ дадаць некалькі штрыхоў з вогненнай біяграфіі майго баявога таварыша, які загінуў, калі яму было 24 гады.

Георгі Правасудаў нарадзіўся і вырас у рабочай сям'і ў горадзе Рагачове. Сярэднюю школу ён скончыў у Бабруйску. У пятнаццаць год уступіў у рады ВЛКСМ. У 1938 годзе з выдатнай камсамольскай характарыстыкай паступіў у Маскоўскі інстытут інжынераў сувязі. У 1940 годзе Георгі Правасудаў з адзнакай скончыў ваеннае вучылішча штурманаў і атрымаў прызначэнне ў Беларускую ваенную акругу, дзе яго і застала вайна.

Страта такіх сыноў, як Георгі Правасудаў, у мацярынскіх сэрцах пакідае незажываючыя раны. Маці Георгія, якая жыве ў Бабруйску, можа ганарыцца сваім сынам. Гэта — сапраўдны герой і цудоўны чалавек. Яго кароткае і гераічнае жыццё нагадвае святло маяка, які паказвае шлях для многіх, каму выпадзе такі ж лёс.

■ ■ ■

Дзень *сённяшні* — *дзень* заўтрашні



# ДАЛЁКА АД МІНСКА

**Фотарэпартаж Валянціна Ждановіча**

Пад крылом, куды ні глянь, вада і вада. Балоты, як азёры, лес таксама затоплены. Дзе-нідзе вытыркнецца выспа і на ёй вёска, ля ганкаў чаўны прывязаны. Веснавое палескае разводдзе!..

Дык што ж рабіць на затопленых абшарах, як сеяць, дзе пасвіць скаціну, калі самы надзейны транспарт — човен, і нават на камсамольскія сходы хлопцы і дзяўчаты плывуць па вадзе?

Такое Палессе, калі пазіраеш з самалёта.

Акрамя балота, яшчэ дзве адвечныя стыхіі пануюць на Палессі: лес і пяскі. Палешукі лес паважаюць і шануюць. Лес — багацце. Лес — абаронца.

Заціснуты паміж гэтымі стыхіямі паляшук спрадвеку сеяў на пясках. За трактарам толькі пыл курыць, і сеялкі не ўбачыш. Падзьме моцны вецер — глядзі, каб не выдзьмула ўсё насенне з раллі. Такі малюнак можна было назіраць і ў калгасе імя Калініна на Піншчыне.

На Палессі не звялася б галеча, не вылезлі б палешукі з лапцяў, каб не Кастрычнік. Савецкая ўлада не толькі дала сялянам зямлю, але і навучыла ёю карыстацца. У гэтым сэнсе вялікі плён прынесла асушэнне балот.

У калгасе імя Калініна асушана сваімі сіламі семсот гектараў тарфянікаў. Чорная, тлустая зямля не курыць услед за сеялкай, і жыта на ёй расце сцяной. Васемнаццаць цэнтнераў з гектара замест 8—10! Выдатна растуць на тарфяніках авёс, цукровыя



Хоць Давыду Хвядосавічу Чарнякоўскаму і восемдзесят гадоў, ды не заседжваецца ён у хаце. Рупіць яму ў грамаду, каб гадзіну-дзве разам з усімі папрацаваць на полі.



Пасля працы люба пасядзець ля агню, прыгадаць былыя партызанскія паходы, параіцца пра справы сённяшнія. Калгаснік Уладзімір Канстанцінавіч Ляўша партызаніў у атрадзе Фёдарава, потым — у Каўпака. Баявую характарыстыку яму падпісваў Вяршыгара, а там сказана, што Ляўша пусціў пад адхон дзевяць эшалонаў і патапіў адзін параход. Заслужаная ўзнагарода — ордэн Чырвонай Зоркі на грудзях патрыёта.

# ЦУДОЎНЫ ПУШКІНСКІ ДЗЕНЬ

З высокага ўзгорка глядзіш не наглядзішся... Туманнай дымкай засланы зялёныя лугі. Пакручастыя сцяжынкі як быццам крадуцца да навакольных вёсак. Шырыня залацістых палёў... Срэбраная стужка ракі...

Той, каму давялося наведаць гэтыя мясціны, не забудзе ніколі іх чароўнага хараства.

Люби зелёный скат холмов,
Луга, измятые моей бродящей ленью,
Прохладу лип и клёнов шумный кров —
Они знакомы вдохновенью.

Гэта — Пушкін. Пра гэтыя мясціны. Пра ваколіцы сяла Міхайлаўскага.

Паўтара стагоддзя таму назад, у ліпені 1817 года, гарэза-выпускнік Царскасельскага ліцэя першы раз прыязджае сюды. Акрылёны сустрэчамі з людзьмі, прыродаю, паданнямі мінуўшчыны, талент юнака набірае сілы, сталее. Тут пазней давялося яму перажыць шмат радасцей і шмат гора. У Міхайлаўскае ж быў сасланы паэт, каб перажыць «горыч выгнання». Згодна волі самога Пушкіна, тут ён пахаваны.

Да гэтага часу стаяць нямыя сведкі жыцця паэта. Дом, дзе ён жыў; флігель, дзе ён столькі пачуў ад сваёй нянькі, сяброўкі дзён яго суровых. Паркі суседніх маёнткаў. Руіны старажытнага гарадзішча...

Трэба пабываць тут, як робяць гэта тысячы і тысячы прыхільнікаў вялікага паэта нашай краіны і ўсіх краін свету, каб зноў адчуць, як і пры чытанні яго твораў, хвіліны незабыўнай блізкасці да цудоўнага чалавека, перажыць хвалюючую радасць яднання з паэзіяй.

Кожны год, пачынаючы з сёлетняга, у Міхайлаўскае на традыцыйны Дзень паэзіі будуць з'язджацца паэты і чытальнікі вершаў. Тут, пад небам Пушкіна, пад кронамі дубоў і елак, што чулі некалі голас самога паэта, прагучаць новыя вершы, паэмы на мовах усіх народаў краіны Саветаў. Прагучаць і пушкінскія бессмяротныя радкі.

«Дзень паэзіі» на свяшчэннай зямлі вялікага народнага паэта! Гэта — даніна павагі і выяўленне лепшых пачуццяў народных да вялікага песняра, да ўсемагутнага слова, што выкрасае агонь з душы чалавечай.



Рака Сораць.

Пскоўшчына. Тут хадзіў Пушкін. Фота А. Дзітлава.

Домік няні.





Іван Юдзянок. Бярозкі.



Міхась Чэпік. Юнацтва.



Калекцыя рускіх манет, якую сабраў мастак Павел Казей.

Дарункі Кактэбеля. З калекцыі пісьменніка Аляксандра Міронава.
Фота В. Ждановіча.





Эканаміст — новая ў вёсцы прафесія. Васіль Жадзінец дастойны яе прадстаўнік. Спытайцеся ў яго і ён з гонарам паведаміць: у юбілейным годзе калгас дасць дзяржаве 470 тон мяса і звыш 13 000 літраў малака.

буракі. Сёлета калінінцы ўпершыню пасеялі яравую пшаніцу.

Цяпер, калі наступ на балоты павяла дзяржава, калінінцы атрымаюць пятнаццаць тысяч гектараў асушаных зямель. Рабочай сілы хапае: у калгасе пяць вёсак па 200—300 двароў, апрача таго, людзі з горада едуць сюды, каб знайсці сабе заробак.

Моладзь у калгасе не сумуе. Калгас трымае ганаровы сцяг Рэспубліканскага савета саюза спартыўных таварыстваў за поспехі на ніве фізкультуры і спорту. Валейбол, лёгкая атлетыка, баскетбол, настольны тэніс, кулявая стральба, футбол — вось чым тут захапляюцца маладыя. Ёсць свая дзіцячая спартыўная школа з аддзяленнем у кожнай брыгадзе. Кіруе ўсёй гэтай справай Уладзімір Хаміцэвіч, калгасны інструктар вытворчай гімнастыкі. Памагаюць яму лепшыя спартсмены-разраднікі. Іх толькі за апошні час падрыхтавана больш за сотню. Калгасных стралкоў трэніруе сам старшыня Аляксей Сцяпанавіч Старыкаў.

Тут усталяваліся свае цікавыя традыцыі. Хораша адзначаецца нараджэнне чалавека, а шлюбныя цырымоніі адбываюцца не горш, як у сталічным Палацы шлюбаў. Кожны год праводзіцца Свята маладога хлебароба. Хлопцаў і дзяўчат, якія пачынаюць працоўную дзейнасць, вітаюць ветэраны калгаса. Свята з песнямі, з танцамі, са спартыўнымі спаборніцтвамі — на ўвесь дзень.

На калгасным цагельным заводзе сёлета робяць пліты для тратуараў. Хутка па вёсцы можна будзе шпацыраваць на шпільках...

Далёка ад Мінска калгас імя Калініна. Сотні кіламетраў балот і лясоў аддзяляюць яго ад сталіцы рэспублікі. Але ў жыцці тых, каго раней зняважліва называлі палешукамі, штодзень адбываюцца вялікія зрухі. Расце дабрабыт, няспынна ўздымаецца культура вёскі.



Тацяна Кібак — даярка. Вясновы настрой спадарожнічае ёй заўсёды.

Калгасная футбольная каманда «Колас» удзельнічае ў чэмпіянаце рэспублікі. Два гады запар яна заваёўвала прызы «Сельскай газеты» і сваёй абласной газеты. Уся каманда працуе на цагельным заводзе, а яе капітан Уладзімір Шумарын — дырэктар гэтага прадпрыемства.



Круглы стол «Маладосць»

# МЫ СТАНОВІМСЯ ДАРОСЛЫМІ

Перада мной анкеты, запісы гутарак, школьныя сачыненні. Гэта матэрыялы сацыялагічнага даследавання аб маральным ідэале нашай моладзі — моладзі краіны Саветаў, якая ўступіла ў свой юбілейны, пяцідзесяты год. Гавораць і пішуць маладыя рабочыя, калгаснікі, студэнты, вучні школ, навучэнцы вучылішчаў. Іх запісы — гэта ўсхваляваная споведзь юнакоў і дзяўчат 60-х гадоў. Яны вырашаюць нялёгкае пытанне «зрабіць жыццё з каго».

Сапраўды, не лёгка вырашыць, дзе той узор, якому варта следаваць, за які трэба змагацца. А магчыма, і наогул не патрэбны ніякія ідэалы? Дваццацігадовы малады чалавек піша: «У мяне няма ідэалаў. І думаю, што яны не патрэбны, бо ідэал — гэта нешта далёкае і нязбытнае, а я чалавек зямны». Ці так гэта? Давайце разбярэмся.

Ідэал — ад грэчаскага слова «ідэя», «вобраз», «уяўленне». Сацыяльны ідэал — гэта ўзор грамадскага ладу, які найбольш пажаданы для людзей. Для нас і для працоўных усяго свету такім ідэалам з'яўляецца камунізм, які з вялікім натхненнем будуюць савецкія людзі. Камунізм з'яўляецца найвышэйшым здабыткам, бо пры ім ствараюцца ўмовы для ўсебаковага развіцця людзей, для поўнага задавальнення ўсіх разумных іх патрэб. Вобраз чалавека, які гарманічна спалучае ў сабе духоўнае багацце, маральную чысціню і фізічную дасканаласць, і ёсць камуністычны маральны ідэал.

Наш ідэал прынцыпова адрозніваецца ад усіх «узвышаных» ідэалаў, якія высоўваюцца буржуазнымі тэарэтыкамі і прадстаўнікамі рэлігіі.

Камуністы не пацяшаюць людзей казкамі аб «незямным раі», а робяць усё для таго, каб ужо цяпер чалавек меў як мага лепшыя ўмовы для творчай працы, вучобы, адпачынку. Імена ў такіх умовах і адбываецца ўдасканаленне асобы.

У нашай краіне выхоўваецца новы чалавек. Сярод нас працуюць людзі, якія паказваюць высокія ўзоры служэння Радзіме, свайму народу. На XXIII з'ездзе партыі гаварылася, што гэта — перш за ўсё наватары, перадавікі вытворчасці. Гэта звычайныя савецкія людзі, але яны вылучаюцца тым, што дасканала авалодалі тэхнікай, свядома служаць грамадству, праяўляюць высокія маральныя якасці. Значыць, маральны ідэал — гэта ўзор чалавечай асобы і яе паводзін у грамадстве. Ён зусім рэальны, дасягальны, гэта тое, што ўжо ёсць, але яшчэ не атрымала ўсеагульнага пашырэння. Гэта як бы рэальнасць заўтрашняга дня, якая абавязкова будзе, таму што яна непарыўна звязана з сённяшнім днём, вынікае з яго. Зусім зразумела, што ідэал — гэта не застылы, акасцянелы эталон для пераймання, а заўсёды зменлівы, жывы ўзор, які апярэджвае развіццё чалавечага грамадства, яго прагрэс. Але заўсёдная зменлівасць ідэалу не толькі не тармозіць, а, наадварот, стымулюе духоўную дасканаласць чалавека. Тым больш, што ідэал, асвятляючы чалавеку жыццёвы шлях, не супадае, як правіла, толькі

з адным якім-небудзь вобразам, а ўяўляе сабою спалучэнне ўсяго лепшага, узятага не толькі з цяперашняга, але і з мінулага, і нават з жаданага будучага.

«Мне цяжка адказаць на пытанне, з каго я бяру прыклад у жыцці, — піша студэнтка Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага Святлана Крэпская, — таму што вакол мяне шмат цудоўных людзей, у кожнага з якіх я стараюся пераняць лепшае. У мой ідэал уваходзіць усё каштоўнае, аб чым я чытаю, бачу ў кіно, чую ад іншых».

Юнакі і дзяўчаты з вялікай цеплынёю гавораць аб людзях старэйшага пакалення. «Ніколі я не забуду сваю першую настаўніцу Алену Рыгораўну, якая была нам як бы другой маткай», — піша Людміла Сак. Але сустракаліся і такія выказванні: «Па-моему нам няма чаго вучыцца ў людзей старэйшага пакалення, таму што людзі гэтага пакалення скалечаныя кар'ерызмам і бюракратызмам, крывадушнасцю і падхалімствам. А таму мае адносіны да «бацькоў» адмоўныя».

Канечне, у некаторых людзей старэйшага веку ёсць іншы раз недахопы. А скажыце, паважаны нігіліст, хіба не бывае іх у маладых? Хіба можна на аснове недахопаў, якія ўласцівы асобным людзям, кідаць папрок і рабіць няправільны вывад аб усім пакаленні? Тым пакаленні савецкіх людзей, якія здзейснілі Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю, якія на сваіх плячах неслі ўсе нягоды грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў і якія пабудавалі ў нашай краіне сацыялізм.

Такія выказванні сустракаюцца не часта, але яны зараз жа падхопліваюцца нашымі зласліўцамі за рубяжом, якія істэрычна крычаць аб «канфлікце» і «непаразуменнях» паміж рознымі пакаленнямі савецкіх людзей. Што ж, ворагі ёсць ворагі. Ім вельмі хочацца выдаць жаданае за сапраўднае. Але як бы яны ні пнуліся, ім не ўдасца пасеяць разлад, пахіснуць маналітную згуртаванасць усіх пакаленняў савецкіх людзей. І гэта зразумела. У людзей розных узростаў нашай краіны адзіная мэта — пабудова камунізма.

Характэрная прыкмета пакалення 60-х гадоў — бурны інтэлектуальны рост, прага ведаў. Моладзь цікавіцца алгарытмамі і біёнікай, карцінамі Пікасо і творамі Хемінгуэя, а вось мамы, — скардзяцца некаторыя з маладых, — не ведаюць пра гэта, з імі нельга параіцца. У выніку ў сына-«інтэлектуала» з'яўляецца гэтакі высакамерны тон, пачуццё ўласнай перавагі над «старымі», якія нібы не здольныя яго зразумець. Нярэдка з вуснаў зрываюцца вельмі крыўдныя словы ў адрас «адсталых» бацькоў, аб-

# МУДРАСЦЬ ВУЧЫЦЬ

**⊙ ...Калі мы гаворым, што задавальненне ёсць канчатковая мэта, мы маем на ўвазе не задавальненні распуснікаў і не задавальненні, якія толькі ў пачуццёвай асалодзе... Мы маем на ўвазе свабоду ад цялесных пакут і ад душэўных трывог...**

**Эпікур.**

**⊙ Страсці складаюць сутнасць чалавека і неабходны для яго, яны ёсць дабро для яго і карысныя, калі прыносяць радасць і шчасце. Але страсці з'яўляюцца для чалавека злом і наносяць яму шкоду, калі яны парушаюць парадак яго жыцця, калі яны звязаны з асалодай, што разбурае яго здароўе і шчасце.**

**Поль Гольбах.**

**⊙ Нават будучы невядомай, нявернасць заўсёды ёсць найвялікшае няшчасце, таму што яна разбурае пачуццё кахання...**

**Поль Гольбах.**

**⊙ Найвялікшая павага, якой можа дасягнуць жаночы пол, грунтуецца на захаванні яго прадстаўніцамі вернасці.**

**Давід Юм.**

**⊙ Разлука забівае слабое пачуццё і распаляе моцную страсць, накшталт таго, як вецер гасіць свечкі і раздзьмухвае вогнішча.**

**Франсуа дэ Лярошфуко.**

**⊙ Першае каханне несапсаванага юнацтва накіравана заўсёды на ўзвышанае. Прырода як быццам бы хоча, каб адзін пол пачуццёва ўспрымаў у другім добрае і цудоўнае.**

**Вольфганг Гётэ.**

**⊙ Добрае каханне, якое шукаў; яшчэ лепшае — народжанае без пошукаў.**

**Уільям Шэкспір.**

**⊙ Кахаць — гэта значыць глядзець не адзін на другога, а глядзець разам у адным кірунку.**

**Антуан Сэнт-Экзюперы.**

**⊙ ...Каханне... каштуе роўна столькі, колькі каштуе ча-**



вінавачванне ў мяшчанстве... І не разумеюць такія «інтэлектуалы», што калі яго маці не можа разабрацца ў стылях і манерах некаторых сучасных мастакоў, а бацька не можа зразумець, у чым «жалезная сіла» Хемінгуэя, то тут яшчэ не мяшчанства. Мяшчанства хутчэй якраз у той прасталінейнай катэгарычнасці «прыгавораў» «перадавога» чалавека, які не можа зразумець людзей, што вакол яго. Мяшчанства — гэта перш за ўсё свет вузка абмежаванага «я» — у чым бы яно не выяўлялася: у эгацэнтрызме і самадавольнасці ці ў пагардзе да «простых» людзей. Мешчанін — гэта чалавек, які нічога не бачыць далей свайго носа.

У наш час дзеці, бывае, сапраўды пераганяюць сваіх бацькоў па культурнаму развіццю, адукацыі. І гэта зусім заканамерна, гэта прызнак нашага веку, людзям якога адкрываюцца ўсё новыя гарызонты. Трэба памятаць, што нашы бацькі не мелі такіх умоў для вучобы і свайго развіцця. Але іменна іх працай пабудаваны сацыялізм, які стварыў гэтыя цудоўныя магчымасці для развіцця навукі і культуры, для росквіту мастацтва.

Людзі старэйшага пакалення звычайна шчыра дзеляцца з моладдзю сваім вялікім багаццем — жыццёвым вопытам. У сваю чаргу і маладыя абавязаны падзяліцца са старэйшымі той радасцю, усім тым новым, што яны атрымліваюць ад жыцця.

Дзеці павінны не толькі браць, але і аддаваць. І ўмець адказваць за свае ўчынкі, не імкнучыся спіхнуць усю адказнасць на бацькоў. А то іншы раз даходзіць да смешнага. Дваццацігадовы малады чалавек, які ўмее пра ўсё меркаваць «самастойна», адразу раптам робіцца бездапаможным, калі яму даводзіцца несці адказнасць за свае ўчынкі і промахі. Пачынаюцца апраўданні: «Не ведаў... Не навучылі бацькі, школа...» Вінаваты, бачыце, усе, але толькі не ён.

У нашай краіне, з кожным днём расце свабода людзей. Але другім бокам пашырэння свабоды з'яўляецца ўзрастанне адказнасці чалавека за свае дзеянні, за ўчынкі перад грамадствам. На жаль, у нас асобныя маладыя людзі іменна гэта і забываюць. Ад дзяржавы яны патрабуюць як мага больш (маўляў, у нас найбольш перадавы і гуманны лад на зямлі), а самі імкнуцца прайсці бокам ад кіпучага жыцця народа. Такія людзі, звычайна, любяць разважаць аб сваіх правах, але забываюць аб сваіх абавязках, аб сваёй адказнасці перад грамадствам, дзяржавай, перад школай, сям'ёй.

У наш час узрост вымяраецца не пражы-

**лавек, які яго адчувае. Усё чыстае ў чыстых людзей.**

**Рамэн Ралан.**

**⊙ Каханне нагадвае дрэва: яно расце само сабою, глыбока запускаючы ў нас свае карэнні, і нярэдка працягвае зелянець нават у апустошаным сэрцы.**

**Віктор Гюго.**

**⊙ Для кожнага цяжка перажыць першае расчараванне; але для душы шчырай, якая не жадае ашукваць сябе, вольнай ад легкадумнасці і перабольшання, яно амаль няісчэрпнае.**

**Іван Тургенеў.**

**⊙ Дзяўчаты часта мараць высакароднымі, цудоўнымі вобразамі, нейкімі ідэальнымі істотамі, і галовы іхнія набіты туманнымі ўяўленнямі аб людзях, пачуццях, святле; потым яны ў прастаце душы надзяляюць самага пасрэднага чалавека тымі дасканаласцямі, пра якія марылі, і давяраюць яму: яны любяць у сваім выбранніку ўяўнае стварэнне, а ўрэшце, калі позна ўжо адвесці ад сябе бяду, зманлівая прывабнасць, якой яны надзялілі свой кумір, ператвараецца ў жудасны прывід.**

**Анарэ дэ Бальзак.**

**⊙ Калі кахаеш, такое багацце адкрываеш у сабе, столькі пяшчотнасці, ласкавасці, нават не верыцца, што так умееш кахаць.**

**Антон Чэхаў.**

**⊙ Зразумець жыццё і палюбіць яго ў другой істоце — у гэтым задача чалавека і ў гэтым яго талент: і кожны можа прысвяціць сябе цалкам толькі аднаму чалавеку.**

**Анры Барбюс.**

**⊙ Чым мацнейшы ў чалавека характар, тым менш схільны ён да зменлівасці ў каханні.**

**Стэндаль.**

**⊙ Цэлыя натоўпы жанчын прайшлі і праходзяць перад маімі вачамі, але ці змагла хоць адна-адзіная пахіснуць непахіснае пачуццё? Ні разу... Не будзем страшыцца жыццёвых сустрэч і хваляванняў — яны будуць, яны павінны быць. Справа і небяспека не ў іх саміх, а ў нас — як ацэнім іх, як паста-**

тымі гадамі, а мерай адказнасці, якою надзелены чалавек. Іменна таму побач з дваццацігадовымі Пятрамі Іванавічамі жывуць саракагадовыя Пецькі і Ванькі, і ў падначаленні вучня-вячэрніка часам працуюць дыпламаваныя недарaслі. І гэта пачуццё адказнасці, якое патрабуецца ад савецкага чалавека, увесь час расце і пашыраецца. Наш чалавек — гэта гаспадар, творца свайго жыцця, і яму да ўсяго ёсць справа. Ён адказвае не толькі за сябе і за сваіх блізкіх, але і за ўсё грамадства, за лёс свету.

Амаль што паўгода маладзёжная рэспубліканская газета «Знамя юности» вядзе размову аб мэце жыцця, аб выбары прафесіі. Непасрэднай прычынай дыскусіі з'явілася пісьмо студэнткі трэцяга курса Ашмянскага сельскагаспадарчага тэхнікума Кацярыны Апочкінай. Дзяўчына кажа, што расчаравалася ў сваёй будучай прафесіі «бухгалтара калгаса ці саўгаса», што згубіла «мэту свайго жыцця» і просіць рэдакцыю дапамагчы ёй знайсці «ніць» да «вяршыні», «па якой трэба ісці». Ёй адказваюць многія. Адны гнеўна асуджаюць, другія шкадуюць, трэція спрабуюць зразумець... Што ж, усякае бывае, асабліва ў маладосці, якая і характарызуецца заўсёдным пошукам свайго месца ў жыцці. Тут могуць быць і памылкі і нават расчараванні, на якіх людзі вучацца. Аднак у пісьме Кацярыны абурае іншае. За няўдалы выбар прафесіі яна поўнасцю віну ўскладае на сваю маці. «Пасля заканчэння школы, — піша К. Апочкіна, — маці сказала: паступай, дачка, у Ашмяны. Я так і зрабіла». Хочацца спытаць у Кацярыны, а дзе ж была яе ўласная думка, куды падзелася яе самастойнасць? У семнаццаць год ужо час і самой думаць і ўмець адказваць за свае учынкі.

Дарэчы, пытанне аб выбары прафесіі, аб паступленні ў навучальныя ўстановы не простае, аб ім шмат гавораць і пішуць, але пакуль што мала робіцца для яго вырашэння. Яно павінна вырашацца ўсімі: і тымі, хто паступае ў ВНУ ці тэхнікумы (у першую чаргу!), і бацькамі, і школай. Але хочацца сказаць пра іншае. Наспела неабходнасць спагнаць з тых, хто легкадумна адносіцца да выбару прафесіі, паступае туды, дзе «меншы конкурс», а потым усяляк адлыньвае ад работы па спецыяльнасці. Дзяржава — не залатое цяля, якое можна даіць, не даючы нічога на замену.

...Бываюць спрэчкі і выпадкі непаразуменняў паміж людзьмі розных узростаў. Гэта заканамернасць жыцця, але зусім не «канфлікт» і «разрыў» пакаленняў, як аб гэтым часам можна пачуць. Даследаванні паказваюць, што маладыя людзі 60-х га-

**вімся да іх, ці адчуем своечасова тую мяжу, за якую не трэба пераступаць, за якую пераступіўшы, мы разбіваем каштоўнейшы сасуд кахання нашага.**

**Дзмітры Фурманаў.**

**⊙ Найбольш шчаслівымі і найбольш устойлівымі, якія вытрымліваюць выпрабаванне часам, бываюць шлюбы, што натуральна (па ходу самога жыцця) склаліся з юнацкага сяброўства, сяброўства, якое носіць або з самага пачатку рамантычны характар, або ператвараецца ў рамантычнае праз некаторы час, але сяброўства невыпадковага...**

**Аляксандр Фадзееў.**

## З ЧЭШСКАГА ГУМАРУ



**Дзве прыяцелькі гутараць за кубкам кавы:**
**— Некалі і ў мяне быў свой ідэал...**
**— Што ж з ім сталася?**
**— Я выйшла за яго замуж.**



**Колькі адзінокіх мужчын мараць пра добрую жонку. І — колькі жанатых!..**



доў у нашай краіне — дастойныя наследнікі славы бацькоў, прадаўжальнікі выдатных рэвалюцыйных, баявых і працоўных традыцый савецкага народа.

У якасці сваіх любімых герояў, на якіх хочацца раўняцца, з якіх намерваюцца «рабіць жыццё» сваё, юнакі і дзяўчаты называюць Леніна і Дзяржынскага, Паўку Карчагіна і маладагвардзейцаў, Гагарына і наватараў працы. Каля палавіны з 358 вучняў розных школ нашай рэспублікі, якія пісалі сачыненне на тэму «На каго б ты хацеў быць падобным у жыцці і што ты робіш для таго, каб дасягнуць свайго ідэалу?», назвалі сваім героем Паўку Карчагіна.

«Мікалай Астроўскі! — ускліквае Галя Левіна. — Калі б ты ведаў, як ты дарагі і блізкі нам! Я хачу быць падобнай на цябе і твайго Паўку Карчагіна. Вы дарагія мне за вашу любоў да людзей, бяспрыкладную мужнасць, чэснасць, непрымірымасць да ўсякага зла». І яшчэ адно выказванне: «Калі ў маім жыцці здараюцца цяжкія хвіліны, я заўсёды думаю, а як бы на маім месцы зрабіў Паўка Карчагін».

Але вось вучаніца 10-га класа Сюзана Г. лічыць, што Паўка Карчагін не можа быць ідэалам для нашай моладзі. «Мне падабаецца ў Паўкі, — піша Сюзана, — яго сумленнасць, жыццерадаснасць, стойкасць, уменне не пасаваць перад цяжкасцямі. Але мяне расчароўваюць у ім яго адносіны да блізкіх, да любімай дзяўчыны». Некаторыя адзначаюць, што ў нашы дні непрыймальны аскетызм, самаабмежаванне Паўкі.

Дык хто ж разважае правільна? Няўжо памыляюцца ўсе тыя, хто піша, што Паўка будзе заўсёды асвятляць ім шлях, дапамагаючы на крутых паваротах жыцця? Цяжка сказаць, што іменна не спадабалася Сюзане ў адносінах Паўкі Карчагіна да сваіх блізкіх і, у асаблівасці, да любімай дзяўчыны. Гэтыя адносіны былі поўнасцю падпарадкаваны рэвалюцыі, абавязку перад рабочым класам, да якога Паўка належаў сам. Але хочацца згадзіцца з Сюзанай у іншым. Сапраўды, наша моладзь жыве ў іншы час і ёй няма патрэбы ў новых умовах, пры вырашэнні новых задач капіраваць герояў мінулага, усе іх учынкі. Трэба не капіраваць герояў мінулага, а пераймаць сутнасць іх загартаваных характараў, іх рэвалюцыйную страснасць, гарачую адданасць Радзіме і партыі, пераняць агнявы рамантызм лепшых людзей старэйшага пакалення, іх нянавісць да ворагаў рэвалюцыі — пераймаць і скарыстаць усё гэта пры вырашэнні шматгранных задач будаўніцтва камуні-

## ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ

**У сям'і расце дачка. Расце і паступова змяняецца. Пачынаючы з дзесяці-адзінаццаці год у яе рухах знікае вуглаватасць, акругляецца форма цела, крыху мяняецца голас.**

**Перыяд палавога паспявання — працяглы працэс, які заканчваецца пад 18—20 гадоў, калі арганізм сфарміроўваецца фізічна, разумовая дзейнасць дасягае сталасці, і дзяўчына можа стаць жанчынай, маці.**

**Асаблівасці жыццедзейнасці дзяўчыны ў гэтым узросце характарызуюцца шэрагам біялагічных працэсаў, якія ідуць то на ўздым, то на спад і вызначаюць далейшы рост і развіццё арганізма. Гэта надзвычай адказны перыяд, і захаванне правіл асабістай гігіены таму вельмі важна. Харчаванне павінна быць паўнацэнным, дастатковым па каларыйнасці і мець усе неабходныя спажыўныя рэчывы, асабліва вітаміны. З другога боку, празмернасць у харчаванні, якая вядзе да агульнага атлусцення, таксама часам адмоўна ўплывае на палавое развіццё арганізма.**

**Неабходна клапаціцца, каб дзяўчаты шмат часу былі на свежым паветры, займаліся лёгкімі відамі спорту і фізкультурай, не перастамляліся фізічна і разумова. Наша працоўнае заканадаўства абмяжоўвае працу падлеткаў, прадугледжвае для іх самы кароткі рабочы дзень, вызваляе ад начных работ, патрабуе правядзення аздараўленчых мерапрыемстваў.**

**Надзвычай важна папярэдзіць розныя захворванні дзяўчынкі ў перыяд палавога паспявання. Інфекцыйныя хваробы сур'ёзна парушаюць дзейнасць эндакрынных залоз, што затрымлівае развіццё і нармальную функцыю жаночых палавых залоз.**

**Важным момантам гігіены з'яўляецца чысціня ўсяго цела. Дзяўчына яшчэ з малых год павінна быць прывучана да агульнагігіенічных правілаў.**

**У перыяд палавога паспя-**

зма, што стаяць перад намі сёння. І ў гэтым, бясспрэчна, Сюзана мае рацыю. Сляпое капіраванне ўчынкаў другіх людзей прыводзіць да смешнага становішча. Сюзана піша, што яе ідэал складаецца з рысаў і якасцей, якія яна назірае ў многіх людзей: у сваёй мамы, у піяніста Святаслава Рыхтара і ў іншых. Моладзі імпануюць, як правіла, найбольш яркія якасці таго чалавека, якога яна бярэ сабе за ўзор. Адзін дваццацітрохгадовы механізатар, напрыклад, піша, што ён не можа грунтоўна расказаць, чаму яго любімым вобразам з'яўляецца Гамлет. Ён удакладняе: «Проста вельмі хочацца быць падобным на яго і быць такім, як ён, як бы жыццё ні кідала...»

Значыцца, калі гаворка ідзе аб ідэале, то тут зусім не маецца на ўвазе капіраванне ўчынкаў, рыс характару таго ці іншага чалавека. Справа ў тым, каб пераняць галоўнае, і ў гэтым сэнсе Паўка Карчагін з яго нязломнай воляй, аптымізмам, гатоўнасцю да самаахвяравання застаецца нашым сучаснікам. Паўка з'яўляецца ідэалам чалавека, які ішоў у нагу з векам, знаходзіўся ў самых пярэдніх шарэнгах моладзі. Гэтаму ўменню быць наперадзе і вучымся мы сёння ў Паўкі Карчагіна.

«А як жа быць з аскетызмам, самаабмежаваннем сваіх патрэб?» — пытаюць некаторыя.

Так, Паўка свядома абмяжоўваў свае патрэбы. Чалавек абавязку, ён быў аскетам, таму што любіў жыццё, таму што змагаўся за радасць і ўрачыстасць жыцця. Так рабілі ўсе рэвалюцыянеры. Хіба такая ўжо раскоша была для іх сядзець у турмах, адбываць ссылкі? Але яны не скардзіліся на цяжкасці, таму што ведалі — толькі праз цяжкасці ляжаў шлях да тых зямных радасцей, якія адчуваюць нашы людзі сёння. Але Карчагін, каб ён жыў у наш час, бясспрэчна, як разумны, гібкі рэвалюцыянер, сам бы асудзіў самаабмежаванне, аскетызм, аднабаковасць, усё тое, што перашкаджае развіццю чалавека — змагара за камунізм, не дазваляючы яму стаць упоравень з векам.

Варта адзначыць, што ў нашы дні такая рыса, як гатоўнасць да самаабмежавання, калі гэтага вымагаюць абставіны, застаецца лепшай і неабходнай якасцю чалавека.

Некаторыя пішуць, што нельга ў наш час спаць усё жыццё на цвіках, як гэта рабіў Рахметаў. Гэта зусім правільна. Але трэба ўмець пераносіць і боль і іншыя цяжкасці, калі гэта выклікана асобымі ўмовамі. І таму зразумела меркаванне тых, хто лічыць усё ж сваім ідэалам Рахметава. Ясна, што ў гэтым вобразе моладзь прываблівае не тое, што ён спаў на цвіках, а ўменне пераадольваць цяжкасці ў імя служэння людзям. Рахметаў, Карчагін, Марэсьеў, маладагвардзейцы — усё гэта вобразы перадавых людзей свайго часу. Усіх іх аб'ядноўвае сумленнае служэнне свайму народу, Радзіме. Усе яны з'яўляюцца ўзорам для пераймання.

З вобразаў, якія створаны ў літаратуры і мастацтве нашых дзён, часцей іншых у якасці любімых герояў былі названы Валодзя Усціменка з трылогіі Ю. Германа, Сокалаў з апавядання М. Шолахава, Гусеў — галоўны герой кінафільма «Дзевяць дзён аднаго года». У іх юнакоў і дзяўчат прыцягваюць якраз тыя рысы, якія найбольш уласцівы самой нашай моладзі: мужнасць і адданасць абавязку, самаадданасць і гатоўнасць да самаахвяравання, неўтаймаваная прага да ведаў, мэтанакіраванасць, аптымізм.

Маральны ідэал — гэта кіруючы пачатак у паводзінах чалавека. Максім Горкі назваў ідэал кіем, які дала чалавеку прырода, калі ён перастаў хадзіць на чацвярэньках. Ідэал дапамагае людзям зрабіць правільны выбар у самых складаных сітуацыях. Нават людзі з моцнай воляй, калі ў іх няма цвёрдага светаўспрымання, разумення таго, што добра, а што дрэнна, праяўляюць нерашучасць і хістанні. І з гэтым звязаны іншы раз і няправільныя крокі.

Дрэнна, калі той узор, на які арыентуецца чалавек у сваіх паводзінах, складзены толькі па кніжках, адарваны ад жыцця. Яшчэ горш, калі асобныя людзі трапляюць пад уплыў чужых нам буржуазных, рэлігійных ідэалаў. «Мой ідэал — грошы, як мага больш грошай. Матэрыяльны дастатак — гэта ўсё». «Мэта майго жыцця — пракапціць неба». «Прытрымлівацца залатога правіла: цішэй едзеш — далей будзеш». «Асцярожнасць і разважлівасць — вось мой дэвіз».

Такія і падобныя нездаровыя настроі чуліся і ў выступленнях на дыспуце аб мэце жыцця, які нядаўна быў праведзены ў Мінску.

Гэтыя выказванні прамы вынік уздзеяння буржуазнай прапаганды, па якой чалавечая годнасць, сумленне, гонар — усё вымяраецца грашыма.

Вядома, такія выказванні адзіночныя і, у прыватнасці, на дыспуце яны былі сурова асуджаны. Выступаючыя правільна адзначалі, што мэта нашага жыцця — будаўніцтва камуністычнага грамадства, якое зробіць адносіны паміж людзьмі сапраўды чалавечымі, прасякнутымі сапраўднай высакароднасцю і прыгажосцю.

У наш час, калі сацыялізм заваёўвае

**вання змяняецца душэўнае жыццё і схільнасці дзяўчыны. Ужо менш цікавяць розныя гульні і забавы, паяўляецца павышаная ўвага да свайго выгляду, какетлівасць. Адначасова можна адзначыць няўстойлівасць настрою, якая праяўляецца падчас у раптоўным пераходзе ад бурнай, беспрычыннай весялосці да панурасці, прыгнечанасці. Зрэдку ў дзяўчыны праяўляецца эгаізм, варожасць да тых, хто побач з ёю, нават неабдуманыя ўчынкі.**

**Нельга апраўдваць такія ўчынкі пераходным узростам. Дзяўчына можа і павінна стрымліваць свае эмоцыі, каб заўсёды быць ветлівай, абаяльнай.**

**Паяўленне менструацый — найбольш выражаная прыкмета палавога паспявання. Яна ўказвае на тое, што ў арганізме дзяўчыны пачаліся цыклічныя працэсы ў яечніках, паспяваюць палавыя клеткі і ў дастатковай колькасці выдзяляюцца жаночыя палавыя гармоны.**

**Калі дзяўчынка ўжо з ранняга ўзроступератамляецца разумова або фізічна, дрэнна харчуецца, то менструацыі ў яе могуць пачынацца пазней і ўвесь працэс палавога паспявання затрымліваецца. Менструацыі звычайна праходзяць рэгулярна праз адпаведныя прамежкі часу: ад 21 да 35 дзён. У кожнай дзяўчыны ўстанаўліваецца адпаведны цыкл (часцей за ўсё чатырохтыднёвы — праз 28 дзён), які і застаецца такім на працягу ўсяго жыцця.**

**Здаровая дзяўчына і жанчына не адчувае асаблівых цяжкасцей пры менструацыі і ў гэты перыяд паспяхова выконвае звычайную работу, пазбягаючы толькі празмернага напружання іператамлення. Калі ж менструацыі суправаджаюцца моцнай знясіленасцю, вялікім кровацячэннем або іншымі ненармальнасцямі, трэба звярнуцца да ўрача. Магчыма, спатрэбіцца перамена звычайнага рэжыму.**

**Кожная дзяўчына павінна добра ведаць, што паяўленне менструацыі яшчэ не азначае палавой спеласці. Гэта сведчыць толькі пра тое, што ў яечніках пачалі паспяваць яйцаклеткі і магчыма цяжарнасць. Але гэта зусім не азначае, што арганізм дзяўчыны падрыхтаваны да нармальнага выношвання цяжарнасці, бо поўнай спеласці дзяўчына дасягае пад 18 — 20 гадоў.**

**Ранні пачатак палавога жыцця і асабліва наступленне цяжарнасці ў дзяўчыны, якая не дасягнула поўнай палавой спеласці, прыводзіць да затрымкі далейшага росту і развіцця, узнікнення цяжкіх ускладненняў, бо арганізм яшчэ не гатовы да нармальнага выканання функцый мацярынства. Дзеці, якія нараджаюцца ў такіх мацярэй, часта хваравітыя і слабыя.**

**Урачэбная практыка паказвае, што палавое жыццё, як правіла, пачынаецца не раней 18—20 гадоў і толькі пасля ўступлення ў шлюб. Пазашлюбныя і раннія палавыя сувязі не апраўданы ні з фізіялагічнага, ні з маральнага пункту гледжання. Толькі ў шлюбе, калі дзяўчына дасягае поўнага развіцця і росквіту, палавое жыццё і дзетанараджэнне не шкодзяць здароўю, а наадварот, садзейнічаюць росквіту ўсіх яе жыццёвых функцый, маральнаму задавальненню і радасці мацярынства.**

**Як прыемна глядзець на здаровую, жыццерадасную стройную дзяўчыну. Здароўе і свежасць — гэта не толькі дарунак прыроды, але і вынік настойлівага захавання правільнага гігіенічнага рэжыму. Вельмі важна, каб час сну, адпачынку, прыёму стравы заўсёды былі адны і тыя ж.**

**Ранак у дзяўчыны, як правіла, павінен пачынацца з гігіенічнай гімнастыкі. Гімнастыку трэба заканчваць абціраннем усяго цела халоднай вадой. Пасля гімнастыкі кроў прылівае да паверхні скуры, а халодная вада выклікае скарачэнне крывяносных сасудаў. У выніку кроў перамяшчаецца да ўнутраных органаў і садзейнічае паляпшэнню абмену рэчываў у арганізме. Потым трэба памыцца, пачысціць зубы і выканаць спецыяльны туалет. Усё гэта стварае пачуццё бадзёрасці, свежасці.**

**Знаходжанне на свежым па-**

ўсё новыя перамогі, імперыялісты асабліва надзею ўскладваюць на ідэалагічную дыверсію сярод моладзі, разлічваючы нястойкіх у ідэйных адносінах маладых людзей заразіць бацыламі буржуазных ідэалаў, калі, вядома, толькі ўсё тое, што яны прапаведуюць, можна назваць ідэаламі. Яны сур'ёзна заклапочаны ідэйнай перакананасцю нашай, савецкай моладзі, яе верай у справу камунізма. «Клопатным фактарам з'яўляецца тое, — з трывогай піша Мілуокскі бюлетэнь Асацыяцыі маладых хрысціян (ЗША), — што ў моладзі другой часткі свету існуе цвёрдая перакананасць... У камуністычнай моладзі энтузіязм у дасягненні сваёй задачы не мае сабе роўнага». Такім траянскім канём, з дапамогай якога імперыялісты стараюцца пахіснуць камуністычную ідэйную перакананасць нашай моладзі, і з'яўляецца ўзмоцненая прапаганда буржуазных ідэй. Дыпламаваныя служкі капіталу на прыкладзе сваіх краін добра бачаць, да чаго прыходзіць моладзь, калі кіруецца «ідэямі» нажывы, бізнесу, «прыгожым рэстаранным жыццём».

Так, па звестках, што прадстаўлены спецыяльнай камісіяй для вывучэння злачыннасці пры дзяржэпартаменце ЗША, толькі ў сталіцы Амерыкі — Вашынгтоне ў перыяд з 1959 па 1965 год лік сур'ёзных злачынстваў павялічыўся на 116 працэнтаў. Пры гэтым, 36 працэнтаў арыштаваных за грабяжы з узломам — падросткі ва ўзросце пятнаццаці гадоў ці маладзей. Злачынствы, якія робяцца прадстаўнікамі «страчанага пакалення» — як называецца моладзь у амерыканскім друку — растуць з дня на дзень. Так, напрыклад, нядаўна, як паведамляла агенцтва Рэйтэр, у горадзе Орандж (штат Тэхас) чатырнаццацігадовы хлапчук забіў бацьку, бабулю і яшчэ адну жанчыну.

Імена на гэтую разбэшчваючую душы маладых людзей сілу і разлічваюць ідэолагі і псіхолагі буржуазіі, якія праз усемагчымыя каналы — друк, радыё, тэлебачанне, кіно, асабістыя кантакты — расхвальваюць «спосаб жыцця» моладзі буржуазнага свету.

На жаль, некаторыя юнакі і дзяўчаты ў нашай краіне трапляюць у гэтыя хітра расстаўленыя пасткі. І тут справа, як бачым, не ў перавазе і прывабнасці буржуазных ідэй, а ў тым, што ў гэтых людзей, якія падпадаюць пад чужы ўплыў, няма цвёрдай камуністычнай перакананасці, яшчэ не сфарміравўся правільны маральны ідэал. Цалкам пакладаючыся на праўдзівасць і праваты нашых ідэалаў, мы не заўсёды праяўляем патрэбныя клопаты аб

ветры, гульні, прагулкі, лёгкія экскурсіі садзейнічаюць умацаванню мускулаў, узмацненню апетыту, добрай вентыляцыі легкіх і правільнаму кровазвароту. Разумна арганізаваная фізічная праца садзейнічае рознабаковаму, гарманічнаму развіццю арганізма, які расце, з'яўляецца разам з тым і важнейшым элементам загартоўкі, умацавання здароўя.

Адзенне дзяўчыны павінна быць прыгожае, элегантнае, але і абавязкова гігіенічнае і зручнае, якое не замінае рухам. Не раіцца дзяўчатам насіць панчохі з круглымі падвязкамі. Пры перацягванні ног парушаецца правільны кровазварот, што вядзе да застою крыві і далейшага расшырэння вен. Калі тугія круглыя гумавыя падвязкі насіць доўгі час, дык на нагах застаюцца глыбокія папярочныя баразны. Гэта робіць нагу непрыгожай. Падвязкі трэба насіць з поясам, які не павінен быць тугім, каб не парушаць нармальнай функцыі кішэчніка.

Сваё здароўе трэба берагчы змоладу. Многае вы можаце зрабіць самі. Але памятайце, дзяўчаты, што вашым лепшым сябрам і настаўнікам з'яўляецца ўрач. Не саромцеся своечасова звяртацца да яго, каб параіцца загадзя аб усім, што вы заўважыце ў сабе незвычайнае ці ненармальнае.

**Павел КАСЬКО,**
**дацэнт.**

## З ЧЭШСКАГА ГУМАРУ



**Маладыя людзі заручыліся. Маці дзяўчыны расхвальвае сваю дачку перад маткай юнака:**

**— Наша Вера танцуе, як балерына, водзіць аўтамабіль, як сапраўдны шафёр, і ездзіць на кані, як амазонка...**

**— Нічога страшнага. Мой сын, на шчасце, умее добра гатаваць ежу.**



тым, у якой форме яны даносяцца да людзей. Усё вышэй узнімаецца культурна-эстэтычны ўзровень нашай моладзі, разнастаяцца яе густы. Таму вельмі важна, каб усё, што разлічана на масавае ўздзеянне, было б не толькі правільнае па зместу, але і цікавае, захапляючае, пазбаўленае ад банальнасці і штампаў, каб дыяпазоны выхаваўчай работы адпавядалі ўзроўню чалавечага ўспрымання. Многае тут могуць зрабіць камсамол, сама моладзь.

Фарміраванне ідэалаў у моладзі адбываецца ў працэсе творчай дзейнасці, у школе, у сям'і, у працоўным калектыве. Але няправільна думаць, што калі хлопец працуе ля станка, то ён ужо тым самым і выхоўваецца. Гэтага далёка не дастаткова, бо сам вытворчы працэс без мэтанакіраванай выхаваўчай работы будзе нейтральны да выхавання.

Правільна сфармаваны камуністычны ідэал — гэта вялікая сіла, якая дапамагае чалавеку стаць карысным для свайго грамадства. Яго добрыя ўчынкі, сапраўдная чалавечнасць праяўляцца імена ў канкрэтных справах: у адносінах да працы, да калектыву, да дзяўчыны, да сям'і. Грамадства мяркуе аб чалавеку не па яго словах, не па тым, што сам чалавек пра сябе думае, а па яго справах. І гэта правільна, бо часам самыя непрыгожыя ўчынкі спрабуюць апраўдаць спасылкамі на «добрыя намеры». Вядома, пры ацэнцы паводзін таго ці іншага чалавека ўлічваюцца матывы яго ўчынкаў, але ж гэтыя матывы нельга інакш выявіць, як праз вынікі ўчынку, канкрэтныя справы.

У нас сустракаюцца яшчэ такія аматары прыгожых слоў: яны на трыбуне, б'ючы сябе ў грудзі, прыгожа гавораць аб ідэалах, аб мэце жыцця, аб камунізме, а самі працуюць абы з рук, ці зусім ухіляюцца ад грамадска-карыснай працы. Ёсць і такія, што, «бічуючы» недахопы, праяўляючы «высокую» прынцыповасць да маральнага аблічча другіх, самі робяць амаральныя і хуліганскія ўчынкі і злачынствы. Ступень удзелу чалавека ў працы на карысць грамадства, характар яго адносін да камуністычнага будаўніцтва і ёсць той пробны камень, якім вымяраецца годнасць кожнага савецкага чалавека, яго каштоўнасць для грамадства.

Камсамольцы, уся савецкая моладзь пацвярджаюць адданасць рэвалюцыйным ідэалам бацькоў сваімі канкрэтнымі, паўсядзённымі справамі. Савецкая моладзь, актыўна ўдзельнічаючы ў будаўніцтве камунізма, здзяйсняе свой маральны ідэал, які, нібы палымянае сэрца Данка, асвятляе жыццёвую дарогу мільёнам юнакоў і дзяўчат, дапамагаючы ім знайсці сваё месца ў грамадстве.

**Міхаіл БАРОЎСКІ,**
**аспірант Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук БССР.**




# ПРАГНУЧЫ ВЫШЫНІ

**Вера ВЯРБА. Белыя пісьмы. Лірыка. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1967**

Многія паэты набываюць сваю шырокую вядомасць нечакана, адным вершам, які трапляе на вусны мільёнаў. Так было калісьці з Міхаілам Святловым, калі з'явілася яго неўміручая «Гранада». Так было з Адамам Русаком, якога як паэта мы абавязкова звязваем з яго песняй «Бывайце здаровы». Такі верш ёсць і ў Веры Вярбы. Яе «Ручнікі» адразу ж пайшлі ў народ мілагучнай лірычнай песняй.

Выключны поспех «Ручнікоў» вывеў імя Веры Вярбы на арбіту здабытай у творчых пошуках сталасці як паэтэсы выразнага лірычнага накірунку. Новы, другі па ліку зборнік яе лірыкі «Белыя пісьмы» сведчыць пра тое, што выхад гэты быў не заўчасны, што ён мае сваім грунтам зямлю і ўсё зямное. Вось чаму і свет паэтэсы такі канкрэтны, такі рэальны ў дэталях, схопленых яе пільным зрокам у наваколлі. Ці яна піша пра вячэрні, начны горад, які «заснежаны гасіць агеньчыкі, нібы хто ў рэчку шпурляе каменьчыкі», ці ўспамінае сваю бабулю, у якой «свірэпка на босых нагах», ці прыгадвае карову Лыску, якая ў свой смяротны час «глядзіць у вочы блізка-блізка, а слёзы коцяцца, як боб», — прыкметны перш за ўсё добрыя турботы пра адчувальнасць вобраза, пра тую «заземленасць», што надае вершу важкасць.

Вера Вярба не гоніцца ў пошуках вобраза за штучна-дэкаратыўнымі ўпрыгожваннямі, яна ідзе ад ёю самою сфармуляванага крэда:

Ад песні гэтае народнай
Усё пачынаецца на свеце.
Напеў душы яе свабодны
Разносіць, як насенне, вецер.

І хай гэта сказана пра канкрэтную песню-калыханку, але думка вядзе нас да вытокаў паэтычнага натхнення Веры Вярбы, да народнай песні. У ёй не толькі незлічоныя скарбы мудрасці жыцця, але і той жыватворчы струмень, які жывіць мысленне паэтэсы, дае пачатак шчырым пачуццям, што ідуць з самых глыбінь сэрца.

Сэрца Веры Вярбы не тоіць ні радасцей, ні гора, ні шчасця, ні крыўд. Яно адкрыта для самай суровай праверкі жыццём, насустрач самым моцным вятрам нашых дзён. У яе паэтычным успрыняцці кожны дзень повен багатага плёну стваральнай дзейнасці чалавека.

Дзень канчаецца,
Цяплынь якая!
Трава разгладжвае
маршчыны,
Сонца
ад дзяцей
за гароды ўцякае,
Зачапілася за воблака,
лёгкае,
як імя жанчыны.
Смага.
Стома,
Далоні ад працы —
Як кішэнныя люстэркі.
Калі ўглядацца —
У іх
увесь дзень
адлюстраваны.

І самім рытмам верша, і інструментоўкай кожнага радка Вера Вярба як бы памнажае выказаную словам інфармацыю пра напружанасць працоўнага летняга дня. Складаная, тонкая гукавая гульня, якая, аднак, не выстаўлена наўмысна напаказ, ідзе за сэнсам і памагае раскрыццю думкі. Плаўная, нейкая млявая фраза «Трава разгладжвае маршчыны», пастаўленая ўсутыч з кароткім, амаль імгненным «уцякае», нібы падрыхтоўвае той імпульсіўны, напружаны рытм, які не толькі адпавядае ўкладзенаму ў наступныя радкі («Смага. Стома. Далоні ад працы...») сэнсу, але і найлепшым чынам рэалізуе гэты сэнс.

Думка, сагрэтая шчырым пачуццём — радасць гэта ці туга, усмешка ці боль, вызначае характар усяго зборніка «Белыя пісьмы». Белы колер, светлы настрой, чыстыя летуценні і добрыя спадзяванні пераважаюць у вершах, хоць шмат тут яшчэ і гора, і трывог. Лірычныя вершы, аб'яднаныя ў адзін цыкл «Белыя пісьмы», выказваюць думкі і трывогі пакалення, да якога належыць Вера Вярба, трывогі пра тое, каб у вялікіх турботах заўтрашняга, кібернетычнага, веку не ачарсцвелі людзі:

Я не з тых,
што шукаюць імгнення —
Апляваць непатрэбнымі словамі.
Не выступаю з трыбуны,
Але думаю
пра нашчадкаў далёкіх:
Што з імі будзе
На планетах лёгкіх?
Наіўнае маё старанне
Перадаць трывогу тым людзям:
«Людзі!
Не забудзьце каханне!
Хай
яно
будзе».

Пра каханне, пра чыстую і шчырую дружбу ў паэтэсы шмат вершаў. Адны з іх эмацыянальна насычаныя, паўнакроўныя («Вяртанне», «Сакавік», «Пялёсткі кволыя сціскаюцца», «Тоненькая Тоня...»), другія па-сапраўднаму публіцыстычныя («Не любіце жанчын па міласці», «Калі пачынаецца каханне?»), а іншыя разважлівыя, рацыяналістычныя («За ўдзячнасць гэтае сустрэчы...»).

Даўно лічаць паэтаў майстрамі думкі. Іменна майстрамі, г. зн. людзьмі, якія здольны думку сагрэць душэўна, зрабіць яе паэтычнай. Для таго, каб думка святкавала перамогу, паэт павінен увасобіць яе ў вобраз. Так узнікае ў вершы музыка, так зліваюцца ў адно ідэйны, пластычны і музычны пачаткі ў вершы. А над усім гэтым — думка. У большасці вершаў Вера Вярба паказала, што яна стаіць на гэтым самым плённым шляху, на якім думка набывае рэальную канкрэтную жыццёвасць.

Ёсць у кахання паслядоўнасць,
І глыбіня, і вышыня,
А мы так любім павярхоўна
У турботах сённяшняга дня.

Здавалася б, банальна, агульнавядома. Так, калі вырваць адну страфу з кантэксту ўсяго верша, заключным акордам у якім гучыць суровая праўда жыцця, праўда страху памыліцца ў каханні. Але страх гэты паказан не фатальным, безвыходным, а неадменным, нават жаданым, «бо шчасце з горам даражэй».

Веры Вярбе не ўласціва прыхарошванне жыцця. Яна імкнецца бачыць яго ў мнагастайнасці праяў, у радасцях і нягодах, у поспехах і няўдачах. І абавязкова ў руху, у імклівай скіраванасці да вышыні. Прычым, вышыня гэтая зноў-такі па зямному канкрэтная, як дарога,

Што ўзвілася да самых зор.
Туды, дзе арлы гняздзяцца горныя
І хмары хаваюцца ад гарачыні,
Сэрца ляціць маё непакорнае,
Прагнучы вышыні.

Але будзем шчырыя і заўважым, што ў зборніку «Белыя пісьмы» Вера Вярба ў пагоні за модай быць сучаснай часам адрываецца ці ў думках, ці ў пачуц-

цях ад зямнога грунту. І тады з'яўляецца гэткая не перажытая, не вынашаная, узятая на пракат і таму ўяўная філасафічнасць, за якой адно — інфантыльнасць думкі і банальнасць пачуццяў. Так з'явіліся альбомны верш «Ружы» і беспрасветны смутак па тым маладым алені, які «ўранку плакаў» недзе ў «багатых ружамі далінах». І сум па моры, і смутак па алені, і туга па ружах — усё гэта чужое, далёкае і ніяк не стасуецца да тых уражлівых, запамінальных дэталей, што пачуты пільным слыхам («Тонкіх сняжынак чуецца звон» або «слухаеш, як кропля кроплю гукае...»), убачаны вострым зрокам («Рунь зямлю на світанні свідруе» ці «Антонаўка на ўслонку, жоўтая, печаная, летам мечаная...»), адчуты далікатным дотыкам («І кроплі колюцца, як голкі»). Толькі там, дзе думка сагрэта глыбінным пачуццём сэрца, дзе эмоцыя апладнёна напружанай работай мозгу, узнікаюць у Веры Вярбы асацыяцыі-вобразы аднолькава нечаканыя, як і натуральныя («Сон замёрз на аконнай раме», «Пялёсткі кволыя сціскаюцца ў кулачкі вільготныя. Цюльпаны ўноч абараняюцца, душу хаваючы пяшчотную», «Восень у чаравічках крыштальных»).

Поспех чакае паэтэсу, па яе ж шчырым прызнанні, на тых дарогах, якія

...пачынаюцца з самага важнага,
З нечага прыгожага на зямлі...

Многа сходжана людзьмі дарог на зямлі, многа іх было ўжо і ў Веры Вярбы. І калі яна заяўляе, што «толькі ў дарозе шчаслівай была», што «дарога кожная — нібыта доля», дык гэта не дэкларацыя, а падмацаваная творчым плёнам споведзь душы. Сапраўды ж, мабыць, трэба перажыць разруху, неўладкаванасць пасляваенных гадоў, каб сказаць:

Аб ёй адной жылі здаровы
І, як надзею, берaглі
Амаль адзіную карову
На сто двароў, на сто сяліб.

Так з простага назірання, з натуральнага ходу думкі нараджаецца тая ступень грамадзянскай усхваляванасці, у выніку якой толькі і можа ўзнікнуць паэтычны вобраз.

Вера Вярба напісала добрую, светлую, шчырую кніжку вершаў, пацвердзіўшы ў ёй і сваю любасць да роднай зямлі, і сваю спагаду да людзей, што працуюць на ёй, выказаўшы вернасць выхаванаму неспакою душы:

Імкнуся змалку да агню,
Сябрую з гарадамі шумнымі
І ненавіджу цішыню.

Як гэта важна паэту быць заўсёды актыўным — думкай і сэрцам адчуваць новае вакол сябе, імкнуцца растрывожыць душу чалавека так, каб ён быў на ўзроўні гістарычных задач часу. Неправамерна было б патрабаваць ад Веры Вярбы, каб у кожным яе вершы, у кожным радку быў адлюстраваны гэты час. Але ўцешна тое, што ўвесь зборнік «Белыя пісьмы» можа быць вымераны іменна гэтай няшчаднай меркай — меркай часу.

Калі чытаеш такое:

З маленства прывыкшы да страты,
Я слова не ведала «тата»,

дык не памылішся ў вызначэнні, кім і калі гэта напісана.

Нешта надта блізкае для кожнага, хто перажыў ваеннае ліхалецце, ёсць у вершах паэтэсы, якая хацела б спытацца:

— Як жыць?—адкажы мне, тата...

Але, не пачуўшы такога адказу, яна з поўным правам на сталасць, на самастойнасць просіць не лічыць памылак, не шукаць для яе дарог і голасна заяўляе:

Ад лясоў, ад берагоў зялёных
Я прыму і шчасце, і бяду,—
Толькі тыя, што мае да скону,
Толькі тыя, што сама знайду.

Бясспрэчна, што новы творчы плён спаткае Веру Вярбу на тых новых, што «сама знойдзе», дарогах. На вялікіх дарогах вялікага жыцця. І толькі пры той умове, калі, прагнучы вышыні, яна захавае самую моцную сувязь з усім зямным, не адарвецца ад таго трывалага грунту, на якім выраслі яе лепшыя вершы, «што з крыві і хлеба».

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**






# АКНО Ў СЭРЦА

**Ігар ХАДАНОВІЧ. «За акном дождж». Апавяданні. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1967**

Ён здаў рукапіс сваёй кніжкі ў выдавецтва, не прадчуваючы, што праз два ці тры тыдні загіне. Як цяпер, бачу перад сабой яго пачырванелы ад збянтэжанасці і радасці твар, яго ўзрушаныя, вільготныя ад пачуцця, што распірала грудзі, вочы. «Ведаеце, Брыль напісаў на маю кніжку станоўчы водгук! Сказалі, што ўключаць у план!..»

Чалавек, надзвычай падуладны настрою, ён хадзіў у тыя дні акрылёны. Удача пайшла ў яго за ўдачай, і ён радасна гэтаму здзіўляўся.

...Раніцай мы павінны былі гаварыць з ім пра артыкул, факты і назіранні для якога прывёз ён з камандзіроўкі на Палессе. Ён збіраўся паразважаць пра слаўную даўніну Палесся і пра тое, як часам нашчадкі да яе абыякавыя — абыякавасць гэтая вельмі яго хвалявала і абурала.

Размовы не адбылося. Напярэдадні лёс сутыкнуў Ігара з кампаніяй хуліганаў, і яны ўзнялі на яго злачынную руку.

І вось — кніга. Першая кніга аўтара... «За акном дождж». Гэта па назве апавядання.

Пра Ігара Хадановіча, як пра здольнага пачынаючага празаіка, пачалі гаварыць пасля таго, як у часопісе «Маладосць» з'явілася апавяданне «Раннія яблыкі». Перачытваючы цяпер апавяданне ў зборніку, разумееш, чаму яно не засталося незаўважаным. Вечная тэма — першае пачуццё, цнатлівае каханне юных. Колькі пра гэта пісалася, пішацца і будзе напісана! Але як у кожнага чалавека яно — непаўторнае, так кожны сапраўдны пісьменнік знаходзіць свае фарбы, свае словы, каб пра яго расказаць.

У «Ранніх яблыках» — трапяткая чысціня. Інтанацыя апавядання як бы бруіцца празрыстым крынічным ручайком. І шчодры россып непрыдуманых трапных дэталей, натуральная чалавечая гаворка.

«Пры калёсах корпаецца дзядзька Ігнат. Ссунуў кола і шчодра і клапатліва, нібы масла на хлеб, намазвае на вось каланіцу.

Алесь прыпыняецца, ківае на людзей:

— Зарана нешта сёння...

— А,— стрымана адказвае Ігнат,— дождж будзе.

— Скуль ведаеце?

— Радыё абяцала.

— А раса вунь была — чысты боб...»

Гэтае спалучэнне спрадвечнага «раса — чысты боб» і куды як сучаснага «радыё абяцала» — якое яно характэрнае для сённяшняй вёскі і як выгадна адрозніваецца ад стылізаванага «вясковага» дыялога ў творах некаторых далёка ўжо не пачынаючых.

Вельмі шкада, што выдавецтва і ўкладальнікі зборніка не паставілі пад творамі Ігара Хадановіча даты іх напісання. Устанавіць кожную з іх было нескладана, а чытач мог бы навочна прасачыць, як сталела яго грамадзянскае і літаратурнае аблічча, як багацелі, рабіліся складанейшымі і ў той жа час яснейшымі думкі і разважанні.

Апавяданне «Апошняя спроба» пісалася яшчэ недзе ў студэнцкія гады. І «Труднае заданне». І «Ганніна шчасце». І «Полем ідзе чалавек». І гэта яшчэ як бы лабараторныя творы. Ігар Хадановіч невыпадкова сам не ўсе іх уключыў у кніжку (пра гэта мы даведваемся з усхваляванай, прасякнутай стрыманым пачуццём болю і горычы прадмовы Анатоля Вярцінска-

га). Калі малады пісьменнік узмужнеў, калі ён уласным сэрцам зразумеў, што брацца за апавяданне трэба толькі тады, калі наспела ўнутраная неабходнасць, калі не можаш не выказаць у мастацкім творы таго, што не дае спакою, — яго ўжо не маглі задаволіць апавяданні, напісаныя проста таму, што захацелася, няхай вельмі захацелася, напісаць апавяданне, а ў галаву якраз стрэліў сюжэт…

У гэтых першых апавяданнях — часам няхітрая газетная зададзенасць, схематызм задумы. Па маладосці ўзросту і нясталасці творчага мыслення аўтар, здараецца, называе апавяданнем звычайную карэспандэнцыю, толькі таму, што персанажы яе не існуюць у сапраўднасці, а народжаны фантазіяй. Але ўжо тут — настойлівае імкненне да псіхалагічнага абгрунтавання кожнага ўчынку героя і наогул большая цікавасць да ўнутранага жыцця чалавека, чым да знешніх, фабульных падзей. Каштоўная, не такая ўжо частая якасць у пачынаючага пісьменніка! Якасць сапраўднай літаратуры.

«Напішыце некалькі апавяданняў з самымі простымі сюжэтамі, або зусім без сюжэтаў, — раіў аднаму з пачынаючых літаратараў Эмануіл Казакевіч. — Без сюжэтаў, але з людзьмі. І няхай гэтыя людзі жывуць, радуюцца, пакутуюць, імкнуцца. І няхай гэтыя людзі гавораць рэальныя словы і робяць рэальныя рэчы. І гэтага будзе дастаткова. Сюжэт прыйдзе сам сабой. Не пішыце на гатовыя, загадзя прыдуманыя сюжэты. Сюжэт у апавяданні — рэч не кепская, але тады і толькі тады, калі за ім б'ецца сапраўднае жыццё і дзейнічаюць сапраўдныя людзі. Я гатовы аддаць сто вострасюжэтных апавяданняў О'Генры за адно бессюжэтнае апавяданне накшталт «Архерэя» Чэхава…»

Пераказаць змест апавядання Ігара Хадановіча «За акном дождж» можна адным-двума сказамі. Не захацеў калгаснік выйсці на нядзельнік, а потым заела сумленне. Але пераказаць — значыць ніяк не перадаць апавядання. Бо гэты твор — з апавяданняў «без сюжэта, але з чалавекам», як заўважыў Э. Казакевіч. З тых апавяданняў, дзе «смак» не ў тым, **што** адбываецца, а ў тым, **як** адбываецца. Старанна, з харошай дэталізацыяй прасочвае аўтар, як шкрабе ў Гарвася на сэрцы, як робіцца яму на печы то мулка, то горача ад таго, што людзі на полі, а ён ляжыць без турбот, без клопатаў.

«Ён успамінае, што ўжо з тыдзень як жонка прасіла яго зрабіць новае чапельна. Гарвась на жываце спаўзае з печы і тупае босымі нагамі ў кут да паліцы. Знімае скрынку з цяслярскім прыладдзем, слініць-мочыць брусок, якім летам мянташыў касу, і пачынае гладзіць па ім лязом і так ужо вострага нажа.

Затым ён ідзе да качарэжніка, доўга шукае, не знаходзіць чапельніка, і нечакана заўважае новы, акуратна выгабляваны. Ён паспеў ужо абсохнуць, але яшчэ прыемна пахне сасной.

— Цьфу ты! — прыкра плюецца Гарвась. — Я ж яго яшчэ заўчора зрабіў…»

Цаны няма такім дэталям і малюнкам! Перафразіруючы таго ж Э. Казакевіча, можна аддаць сто, тысячу апісанняў чалавечага настрою агульнымі, нядоўга і недалёка шуканымі азначэннямі («яму было ніякавата», «не давала спакою сумленне» і да т. п.) за адну такую дасціпную, з любасцю падгледжаную дэталь…

Што далей, то больш адкрываецца Ігару Хадановічу складанасць чалавечага быцця і ўзаемаадносін, больш пачынае ён думаць пра рэчы, пра якія не можа не думаць чалавек, калі ён жыве не адной фізіялогіяй. Чалавек сярод людзей — што гэта такое і навошта? Сэнс жыцця — у чым ён? Дзеля чаго кожны з нас прыходзіць у белы свет?..

Анатоль Вярцінскі ў прадмове да зборніка называе апавяданне «На досвітку» «ў значнай меры аўтабіяграфічным». І кожны, хто ведаў Ігара Хадановіча, не можа з гэтым не пагадзіцца, хоць завуць героя апавядання Малышаў і ён — інжынер, а Ігар быў далёкі ад гэтай прафесіі. Інжынерства Малышава — чыста ўмоўнае. Галоўнае ў апавяданні — пакутлівы шлях героя да яснасці ў імкненнях, да асэнсавання таго, што турбаваць чалавека павінна «зусім не вартасць уласнай справы, а якаясьці неабходнасць яе». А гэта — Ігар. Ігар з яго абвостранай, часам аж да хваравітасці, схільнасцю да псіхааналізу. Ігар з яго, як ён сам піша пра сябе ў прыведзеных у зборніку старонках з запісных кніжак, «душэўнай сарамлівасцю перад большымі, чым сам, людзьмі, якая скоўвае язык, цела, думкі, хаця знешне і трымаешся, нібыта бадзёрчыкам».

Калі ж гаварыць пра чыста літаратурныя якасці апавядання «На досвітку», то перш за ўсё хочацца адзначыць свабоду, раскаванасць, якія прыйшлі да аўтара. Трапнае слова, сакавіты мазок самі па сабе ўжо не займаюць пісьменніка — яны патрэбны толькі ў той ступені, у якой вядуць яго думку, перадаюць душэўны неспакой, якім выклікана з'яўленне твора. Параўнаеш «На досвітку» хоць бы з напісаным даўней «Юзікам», і бачыш, як выгадна адрозніваецца пазнейшае апавяданне ад ранейшага сціслацю, скарыстаннем толькі самых неабходных выяўленчых сродкаў, уменнем выказаць двума-трыма штрыхамі тое, на што раней траціліся старонкі. А гэта ўжо адзнакі майстэрства, надыходу той літаратурнай сталасці, якую сціплы і сарамлівы Ігар Хадановіч так у сабе і не асэнсаваў.

Яго творы набываюць форму ўсхваляванага, цераз край насычанага пачуццямі маналогу. Ён як бы ўжо не думае, як выстраіць, пабудаваць апавяданне, нарыс ці артыкул — яму б толькі выказаць тое, што перапаўняе сэрца. Лебядзіная Ігарава песня — нарыс «Чалавек з маёй біяграфіі» — як бы на адным дыханні выплеснутая гарачая хваля любві і ўдзячнасці настаўніцы, якая ўразіла яго яшчэ некалі ў школьныя гады.

Але на адным дыханні — гэта, вядома ж, не за адзін прыхватак. Пісаць на адным дыханні — значыць захаваць у сабе гэтае дыханне, гэты стан настолькі ж радаснай, як і пакутлівай, у адно скіраванай работы думкі і сэрца на доўгія дні, а то і тыдні, месяцы.

Калі я перачытваў напісанае і цяпер сабранае разам у першую і, на вялікі жаль, адзіную кніжку, я бачыў яе аўтара іменна такім, які рабіў усё захоплена, на поўным дыханні… Вельмі хочацца, каб выразна ўбачыў Ігара Хадановіча кожны, хто будзе чытаць кніжку — акно ў яго сэрца.

**Уладзімір МЕХАЎ.**

**Віталь ЛУЦЭНКА**

# ГАНСКІЯ СШЫТКІ

**«ФУ-ФУ» І ГАВОРАЧЫЯ БАРАБАНЫ.** Раніцай на падыходзе да вёскі Манкаадзе нас сустрэла цэлая флатылія сейнераў, расквечаных сігнальнымі флагамі. Мы таксама ўпрыгожылі флагамі сваё судна і пад эскортам дзесятка рухавых сейнераў і матаботаў накіраваліся да якарнай стаянкі, якая знаходзіцца недалёка ад горада Вінеба.

У гонар прыбыцця нашага судна наладжваецца вялікае свята, на якое прыехаў вярхоўны правадыр і ўся знаць племені. Пра Роберта Акрана, які нарадзіўся ў гэтай вёсцы, дзе і цяпер жывуць яго родныя, мала хто ведаў у яго вялікім племені. Цяпер жа ён, генеральны дырэктар фірмы «Манкаадзе», вядомы на ўсю краіну і далёка за яе межамі. У гонар прыбыцця ў Гану першага вялікага судна для рыбакоў ён і рашыў наладзіць гэтае свята. Не паспелі яшчэ кінуць якары, як у паветра ўзняліся дзесяткі ракет, і наш магутны гудок-сірэна вітаў вялікую колькасць ганцаў, што прыйшлі з Вінебы і суседніх вёсак. Адны стаялі на беразе, другія залезлі ў ваду, трэція ўзабраліся на высокія пальмы, і ўсе радасна махалі нам. Некалькі дзесяткаў рыбацкіх пірог і матаботаў накіраваліся да нашага борта. Яны не маглі дачакацца, каб зблізку паглядзець на беласнежны дызель-электраход.

Аддаўшы якары, мы толькі цяпер маглі ўволю наглядзецца на прыгожыя мясціны сярод гор і пальмавага лесу, дзе была размешчана невялікая вёска патомных рыбакоў. Направа ад вёскі вядомая ўсім ганскім рыбакам гара Аджыасі Манка, у гонар якой названа і наша судна. Ля яе падножжа — пальмавы гай, побач паласа белага пяску. Да самай вады падступаюць стромкія пальмы. На беразе каля вёскі мноства перакуленых уверх дном рыбацкіх пірог. Вада каля берагу такая прыгожая, што цяжка адарваць позірк ад яе. Яна блішчыць, пераліваецца на сонцы, як дарагая парча.

Перад абедам над вёскай сабраліся цяжкія цёмна-фіялетавыя хмары. Раскаты грому скаланулі наваколле, рэхам адгукнуліся ў гарах. Падзьмуў моцны вецер. Мора стала шэрае, пакрылася пеннымі баранчыкамі. Маланка такая яркая і так доўга ззяе, што становішся сляпы і доўга зусім нічога не бачыш. Першыя кроплі дажджу свінцовым поплачам забарабанілі па палубе. І адразу хлынуў трапічны дождж, густы і спорны: вада лілася суцэльнай сцяной. Кіпела мора, бурунамі паднімалася вада на палубе.

Дождж прайшоў хутка. Вымытыя пальмы і гаі сталі яшчэ прыгажэйшыя, пад промнямі сонца нібы памаладзелі старыя хаціны рыбакоў. Вёска, якая ляжыць перад нашымі вачыма, вельмі падобна на тую, якую давodзілася бачыць у кінафільме «Міклуха-Маклай», вось толькі гор там не было.

Да судна падышлі матаботы. Нас прасілі пабываць на ўрачыстасцях, якія будуць працягвацца ў вёсцы некалькі дзён. Моцная прыбойная хваля перашкаджала прыстаць. І толькі некалькі лодак удала выскачылі на бераг.

У вёсцы ўсіх сустрэлі з вялікай пашанай. Вёска ўся дымілася кастрамі, смажыліся на ражнах бараны і бык. Нам паказалі невялікія палі ваяскоўцаў, дзе раслі ананасы, ямс, тонкія сцяблы якога, як ліяны, віліся па ўваткнутых у зямлю жэрдках. Вараныя карэнні ямса вельмі смачныя, сопкія, белага колеру. На адным полі мы бачылі расліны, якія нагадваюць сваім лісцем маленькія пальмы. Гэта маніок, або касава, як яго тут называюць. У яго тоўстыя, доўгія карэнні-плады. Іх таўкуць у вялізных ступах, і з месіва робяць розныя клёцкі. Гэта і ёсць «фу-фу», што замяняе тут хлеб.

Насельніцтва Ганы вельмі дрэнна і аднастайна корміцца. Ганцы амаль зусім не ведаюць, што такое мяса, і ядуць яго толькі на вялікія святы і то не ўсе. Яны не ядуць масла, малака, бо тут яно толькі прывознае. Рыс, макароны, памідоры, агуркі, бульбу, моркву, буракі, яблыкі, грушы і іншыя прадукты, агародніну і фрукты таксама прывозяць з-за акіяна. У сваёй краіне яны амаль нічога не вырошчваюць. Каланізатары на працягу стагоддзяў прымушалі ганцаў вырошчваць толькі тыя расліны і плады, якія ім прыносілі прыбыткі.

На поўначы краіны, у саваннах, дзе выдатная паша, можна разводзіць буйную рагатую жывёлу. Тады мяса і малака хапіла б на ўсю краіну, але ніхто не дбаў пра гэта. Нават і тая жывёла, што была, не прыносіла даходу, бо догляду за ёй амаль не было. На поўдні краіны тысячы жывёлін гінулі і гінуць ад мухі цэцэ. Пакуль няма яшчэ надзейных сродкаў ад гэтай пошасці.

Калі сонца пачало хавацца за сінія горы, нас запрасілі да стала. Уся вёска ўжо была ў зборы. Капітана і іншых нашых камандзіраў адрэкамендавалі правадыру. Сказаны ўрачыстыя прамовы ў гонар савецка-ганскай дружбы, падзякі капітану і камандзе за выдатную работу і хуткую загрузку судна. Гаварыў генеральны дырэктар фірмы Роберт Акран і нават сам правадыр, пажылы сівы негр у нацыянальным адзенні з вялікім залатым ланцугом і медалем на шыі. Звычайна правадыры ніколі не звяртаюцца да народа і гасцей самі, а толькі праз «лінгвіста» — самага даверанага чалавека. Але правадыр быў шчыра ўзрадаваны сустрэчай з савецкімі маракамі і парушыў старую традыцыю. Сказаўшы сваю прамову, ён зняў з шыі залаты ланцуг з медалем і, у знак вышэйшай удзячнасці гасцям, падарыў яе капітану Гладзіліну, сам начапіўшы яго яму на шыю. Людзі радаваліся, грымелі там-тамы. Яшчэ не было выпадку, каб вярхоўны правадыр племені дарыў іншаземцу сімвал магутнасці і ўлады!

Капітан падзякаваў правадыру за падарунак і сказаў, што ў гэтым ён бачыць прызнанне ганцамі сваіх сапраўдных сяброў — савецкіх людзей. Ён прапанаваў тост за дружбу паміж ганскім і савецкім народамі. Усе падтрымалі яго. Пілі шампанскае, рускую гарэлку і пальмавае віно, прыемнае на смак і даволі моцнае...

Вечарам, калі госці ўжо досыць паелі і выпілі, пачаліся песні і танцы. Ярка ўспыхнулі электрычныя лямпачкі. За ўсю гісторыю вёскі тут упершыню загарэліся яны. Гэта з выпадку ўрачыстасці Роберт Акран прывёз сюды перасоўную электрастанцыю. А з карабля феерверкам сыпаліся рознакаляровыя ракеты, бенгальскімі агнямі рассыпаліся фальшфееры, мільгалі развешаныя на мачтах гірлянды рознакаляровых лямпачак.

Грымяць ярка расквечаныя там-тамы. Старажытныя рытмы Афрыкі змяняюцца адзін другім. Музыканты імправізуюць. Раптам увесь ансамбль ударнікаў прыціх, саліравалі толькі два вялізныя барабаны.

— Вы чуеце? — гаворыць задаволены перакладчык. — Яны расказваюць людзям пра рускіх рыбакоў і іх караблі, пра вялікія ўловы.

Аказваецца, барабаны могуць імітаваць многатанальнасць гукаў розных ганскіх моваў. Ганскія музыканты гадзінамі могуць выконваць на «гаворачых» барабанах розныя оды і паэмы ў гонар гасцей, правадыра, розных падзей. Надзвычай добры музыкальны слых афрыканцаў дазваляе ім улоўлі-

Заканчэнне. Гл. № 4 і 5.

ваць самыя тонкія нюансы барабаннага пошчаку. Пры дапамозе такіх барабанаў з паселішча ў паселішча перадаюць розныя паведамленні. Здавён барабан лічыўся незаменнай рэччу ў Афрыцы.

Вядома, зразумець «гаворачыя» барабаны мы не змаглі, але гэта былі незабыўныя гукі. Барабаны то грымелі, як гром, то журчалі, як лясныя ручайкі, то шапацелі, як лісце дрэў у гаі. Салістаў падтрымліваў увесь ансамбль, і тады гэта быў гром вадаспаду.

Новыя рытмы барабанаў данесліся да самых гор. Гэта быў танец толькі для правадыра племені. Там-тамы грымяць усё гучней і гучней, запрашаючы да танца. Правадыр выходзіць у круг з цэлай світай прыбліжаных. Ён ніколі не танцуе свой танец адзін. Пацешна выглядае цяпер гэты паважаны ўсімі і дужы чалавек. Як слабага старога, яго адны з прыбліжаных падтрымліваюць пад рукі, астатнія трымаюць за полы яго раскошнага нацыянальнага адзення — кентэ. Такая традыцыя. Як толькі закончыў танцаваць свой танец правадыр, барабаны загрукаталі новы рытм. Танец для ўсіх. Колькі пластыкі, прыгажосці, грацыі ў руках! Гэта навука прыходзіць з нараджэння. На танцы запрашалі і нашых маракоў. Яны спачатку саромеліся, а потым сёй-той паказаў свае здольнасці.

Да позняй ночы весялілася вёска Манкаадзе.

**ПОРТ ТЭМА — ГОНАР КРАІНЫ.** На досвітку мы падышлі да порта Тэма. Сотні яркіх аранжавых, блакітных, сініх агнёў адлюстроўваюцца ў воднай роўнядзі. Аддаўшы якар, стаім на знешнім рэйдзе. Праз некалькі гадзін мы зможам гуляць па горадзе, які з'яўляецца асноўным цэнтрам апрацоўчай прамысловасці рэспублікі. А зусім жа нядаўна можна было палічыць на пальцах усе прамысловыя прадпрыемствы Ганы. Сярод іх піваварны завод у горадзе Акры. Пабудаваў яго яшчэ ў 1931 годзе швейцарскі дзялок Эрнэст Зорынгер. Ён не памыліўся ў сваіх разліках — мае вялікія прыбыткі.

Тэма — самы малады горад рэспублікі. Хуткімі тэмпамі будуюцца новыя прадпрыемствы, новыя жылыя раёны. У кожным з іх будзе жыць па дзве з палавінай тысячы чалавек. Савецкі Саюз аказвае тэхнічную дапамогу ў гэтым будаўніцтве. Для працоўных, якія зарабляюць менш за пяцьсот фунтаў у год, пачала будавацца дамы дзяржаўная жыллёвая карпарацыя. Для тых, хто зарабляе больш, будуюць асобныя домікі, якія ганцы змогуць набыць на свае зберажэнні.

Марскі порт Тэма, які быў адкрыты афіцыйна ў лютым 1962 года, мае вялікае значэнне для рэспублікі. Штогадовая прапускная здольнасць яго 2 мільёны тон. З цягам часу ў порце будзе дваццаць прычалаў і пяць набярэжных, аснашчаных сучаснай тэхнікай.

Порт прачнуўся. Заварушылася мноства кранаў, адбіваючы паклоны суднам; спяшаюцца аўтамабілі, аўтакары, аўтапагрузчыкі, на вялізнай хуткасці абганяючы адзін аднаго. Многа ганцаў працуе ў порце. Тэмскія докеры зусім нядаўна былі сялянамі ў далёкіх вёсках Ганы.



Як лёгкімі дзьмухаўцамі, з самага світання гавань пакрылася ветразямі розных лодак. Гэта ганскія рыбакі спяшаюцца ў мора: на даўганосых пірогах з балансірамі і без іх па 4—6 чалавек у кожнай. На карме лодак застылі з вялікім вяслом рулявыя. Але не ўсе рыбакі выходзяць у мора пад ветразямі, трэць іх ідзе на вёслах — на ветразі, відаць, яшчэ не зарабілі. Вечарам рыбакі вяртаюцца на бераг, дзе адразу ж прадаюць улоў сваім жонкам-гандляркам (мамі). А мамі ведаюць цану кожнай рыбцы і таргуюцца з рыбакамі заўзята. Сёння вечарам пры свечках яны будуць прадаваць свой тавар на рынку. Я ўпершыню ўбачыў у гэтай краіне, што рынкі па вечарах працуюць вельмі бойка. Каля кожнай палаткі гараць ліхтары, свечкі.

...Па трапе падымаецца ў беласнежных шортах, белых панчохах па калені, сарочцы з кароткімі рукавамі і форменнай фуражцы лоцман-ганец. Выбралі якар, ідзём у порт. Праходзім міма вялізных каменняў шэрага граніту, з якіх складзен хвалярэз, яны яшчэ не паспелі пацямнець, абрасці водарасцямі. Тэма — штучны порт. Тут людзі стварылі молы і бухты. Вялізныя валы хваляrэзаў толькі нядаўна вымураваны людзьмі, каб ушчэнт разбіваць акіянскія хвалі.

Па-майстэрску швартуецца судна да пірса. Канцы да сценкі хутка падаюць на спецыяльным кацеры людзі з каманды швартоўшчыкаў, надзяваюць іх на вялізныя кнехты. Як толькі завялі канцы, тут жа буксір прыцiскае судна да прычальнай сценкі. Уздоўж усёй сценкі пірса сотні вялікіх гумавых падушак-труб, якія нанізаны на ланцугі, як пацеркі. Наш рэфрыжэратар якраз стаў паміж савецкім суднам «Рэпін» і ганскім «Абааба».

Вялікі натоўп ганскіх докераў з захапленнем сустрэў паяўленне нашага беласнежнага рэфрыжэратара. Дзіва што! Гэта ж першае буйнае судна рыбакоў Ганы. Горды, прыгожы, ён увайшоў у гэты порт, як гіганцкі лебедзь.

Кожную машыну грузяць больш за дзесяць чалавек. Каб даць людзям работу, вымушаны браць рабочых больш, чым гэта патрэбна. Усім хоць пакрысе трэба зарабіць сабе на пражыццё. У краіне яшчэ пануе беспрацоўе.

Ганцы з нашага судна шыкуюць перад партовымі грузчыкамі ў новых скураных шапках-вушанках, ватніках, у ботах ці валёнках. У трумах тэмпература мінус васемнаццаць градусаў па Цэльсію. Грузчыкі і гадзіну не вытрымліваюць яе. Яны корчацца ад холаду, вылазяць пагрэцца на сонца і гавораць, паказваючы на трум:

— Там Расія, тут Гана.

Мы гаворым ім, што ў нас на радзіме цяпер зіма і марозы даходзяць да пяцідзесяці градусаў.

— Няўжо можа быць яшчэ халадней, чым у труме? — дзівяцца яны.

Ганцы шчыра рады, што рускі карабель прывёз так многа рыбы. Гэта добра. З таго часу, як рускія пачалі памагаць ім лавіць рыбу, яна стала харчам не толькі выбраных, яе цяпер пачалі ўжываць усе. Яна стала значна танней.

Цяжка яшчэ краіне, цяжка народу.

**ГАНСКІ КІРМАШ.** З доктарам Барысам Фірсавым мы пайшлі ў звальненне ў першы ж дзень стаянкі судна ў порце.

Праходзім па бетанаваных прычалах, па заасфальтаванай тэрыторыі порта. Дзесяткі легкавых аўтамабіляў Заходняй Германіі, Англіі, Амерыкі. А побач з імі савецкія прыгажуны-волаты аўтакраны завода «Краоз», новенькія блакітныя ЗІЛы для палівкі і падмятання вуліц. Крыху далей самае рознае абсталяванне і станкі з маркай «Зроблена ў СССР».

Падышлі да прахадной, дзе выстраіліся ў вялікую калону па адным ганскія докеры і служачыя. Іх адзенне і кішэні абмацваюць работнікі народнай паліцыі пры ўваходзе і выхадзе з порта.



Тэма. Новыя рабочыя кварталы.

— Няўжо і ў нас будуць правярадь? — пытае ў мяне Барыс.

— Хто яго ведае. Паглядзім...

Падышлі да паліцэйскага, паказалі свае пашпарты.

— Саўецік? Пліз, пліз, — усміхаючыся, паказваюць яны на выхад.

Не паспелі мы выйсці за вароты прахадной, як каля дзесятка таксістаў прапанавалі свае паслугі. Да цэнтра горада было блізка, і мы хацелі лепш усё разгледзець. Таму адмовіліся ад таксі, чым выклікалі немалое здзіўленне афрыканцаў: белыя тут рэдка ходзяць пехатою.

Горад Тэма разбіты на некалькі раёнаў: ёсць новая Тэма, дзе жывуць рыбакі; Тэма індустрыяльная — прадпрыемствы горада; Тэма — порт.

У цэнтры горада ўздоўж дарогі выстраіліся новыя будынкі. Зеляніны яшчэ малавата. Маладыя, нядаўна пасаджаныя дрэвы не даюць цяню. Перад кожным домікам акуратна падстрыжаныя агароджы з кустоў.

Дзе б мы ні былі — у порце, на рынку, у гасцініцы, у кафэ ці на вуліцы — усюды бегаюць бяскрыўдныя яшчаркі. Яны шапацяць па сценах і столі дамоў, па тратуарах і вуліцах. На іх ніхто не звяртае ўвагі, акрамя іншаземцаў. Ёсць яшчаркі вельмі яркія па сваёй афарбоўцы. Па дарозе з Акры ў батанічны сад нам некалькі разоў трапляліся даўжэзныя — больш за метр — яшчаркі, якія драмалі на асфальце і ў адзін момант знікалі, як толькі да іх набліжаўся аўтобус.

Вялізны кірмаш у Тэме знаходзіцца ў самым цэнтры горада. Ён разбіты на рады, пляцоўкі і цэлыя вуліцы, дзе прадаюць самыя розныя тавары замежных кампаній і мясцовай вытворчасці.

Гудзе, кіпіць рознагалосы ганскі кірмаш. Але гэта не Сінгапур і не Гібралтар. Гандляры ў Гане надзвычай ветлівыя, карэктныя і зусім не надакучлівыя. Яны не навязваюць вам свой тавар, не тузаюць вас за рукавы і не цягнуць у свае крамы.

Яны гэткія ж вясёлыя і гаваркія, як і ўсе гандляры, і таргуюцца за кожную дробязь з вялікім тэмпераментам і запалам. Мужчын на кірмашы амаль няма, калі не лічыць таго, што яны прадаюць гадзіннікі, мужчынскі абутак, адзенне і розныя замежныя цацкі на перасоўных латках. Усе ж астатнія тавары і прадукты харчавання прадаюць гандляркі (мамі).

Кірмаш у Тэме лічыцца адным з багацейшых у рэспубліцы. Базарныя дні штодзённа. Тут можна купіць усё — ад модных аўтамабіляў, еўрапейскіх касцюмаў і абутку да розных трапічных фруктаў, агародніны, дароў мора, антыкварных старадаўніх



Базар у Тэме.

рэчаў і статуэтак, нацыянальнага адзення і зброі.

Бадай самае ажыўленае месца — рыбныя рады. Рыба ў Гане карыстаецца вялікім попытам і цэніцца даволі высока. Жанчыны-прадаўцы і пакупнікі апрануты ў вельмі стракатыя доўгія адзежыны з кароткімі рукавамі, галовы амаль ва ўсіх пакрыты не менш стракатымі хусткамі. З якім энтузіязмам яны таргуюцца і спрачаюцца за кожны кавалачак рыбы! Справа даходзіць да канфлікту, і гаспадыня, бывае, адыходзіць, зняважаная, ад раз'юшанай мамі. Але паходзіць па рынку і зноў падыходзіць: гандлярка ўжо астыла і забыла на крыўду. Яны зноў пачынаюць таргавацца, размахваючы рукамі, і нарэшце прыходзяць да адзінай цаны. Падзякаваўшы адна адной, усміхаючыся, разыходзяцца, як старыя сяброўкі.

Чаго толькі не прадаюць мамі ў рыбных радах! Вось на нізенькіх дашчатых сталах розная велічыні і розных гатункаў крэветкі, лангусты, вялізныя плаўнікі акулы, розныя ракавінкі ўсіх прыгатаванняў, цэлыя і кавалкамі баракуды, марскія акуні, рыба-матылёк, невялікія тунцы, макрэль усіх парод. Тут могуць вам падсмажыць любы кавалачак па заказу.

Тэмпература паветра каля 35°С, але дзіўная рэч — пры такой гарачыні не чуваць дрэннага паху ў рыбных радах. Ганскія жанчыны — вялікія знаўцы рыбы і ведаюць, якімі зёлкамі трэба прыправіць свой тавар, каб ні адна рыбка не прапала.

Мяса на рынку амаль няма. Толькі ў некалькіх магазінах вы зможаце яго знайсці. Але з-за дарагоўлі ганцы не купляюць яго нават на святы.

Пасля рыбных радоў самыя багатыя і мнагалюдныя — фруктовыя і агародніннгя. Вялікімі гарамі навалены какосавыя арэхі, залацістыя ананасы, апельсіны. На прылаўках раскладзены самыя розныя гатункі бананаў, пачынаючы ад зусім дробных і канчаючы вялізнымі ў некалькі дзесяткаў сантыметраў. Тут — бананы масляністыя, духмяныя, салодкія, дэсертныя...

Цэлы рад мамі з жароўнямі. Тут за дробныя манеты ганцы купляюць румяныя, ачышчаныя сэрцавіны пладоў, якія смажыліся на вуголлі або патэльні ў пальмавым алеі. Смажаныя бананы — гэта ўжо ласунак, але ён даступны ўсім узростам. У гэтым радзе тоўпяцца старыя негры, школьнікі і дашкольнікі.

Кавалачкі цукровага трыснягу тут лічацца таксама ласункам. За дробную манету гандлярка дае некалькі кавалкаў. Яны падобны на бамбук, толькі зялёнага колеру. Абадраўшы зубамі зялёную цвёрдую скурку, ганцы смакуюць сэрцавіну.

Побач з фруктамі навалены цэлыя горы касавы, ямса...

З-за груд ганчарных вырабаў — гаршкоў, чанаў, посуду — не відаць прадаўцоў. Гэта — царства жанчын, яны самі і вырабляюць сваю прадукцыю.

Рад за радам размешчаны невялікія крамы, з якіх чуваць стракатанне швейных машынак усіх фірм свету — ад самых старадаўніх да самых сучасных. Шыюць мужчыны і жанчыны. Майстры не трымаюць у тайне сакрэты вытворчасці. Яны шыюць адзенне на вашых вачах. Хочаце — заказвайце. І калі ў вас ёсць час, можаце пачакаць і паглядзець, як швачка будзе хутка і спрытна спраўляцца. Вы можаце заказаць не толькі адзенне, а і любую мадэль абутку, які вам тут жа пашыюць. Бяда ўся ў тым, што на рынку многа майстроў-краўцоў, шаўцоў, а заказчыкаў мала. Ганцы вельмі бедныя. І нездарма рыбу, бананы, цукар-рафінад, запалкі, тытунь, цыгарэты, соль раскідваюць па штуках, па невялічкіх кучках, звязачках.

А заходнія фірмы праз сваіх пасрэднікаў сапраўды завалілі гэты рынак. Тут японскія дзіцячыя цацкі, транзістары, фотаапараты, нямецкі абутак, англійскія і французскія тканіны, амерыканскія напіткі і жавальныя гумкі, аўтамабілі і халадзільнікі...

Насельніцтва Ганы купляе вялізную колькасць розных стракатых тканін. Усе яны завозіліся здавён з Англіі, Японіі, Францыі. І толькі ў 1964 годзе ў Тэме ўступіла ў строй нацыянальная тэкстыльная фабрыка, але яна не здольна задаволіць нават адной пятай унутранай патрэбы краіны. Вельмі часта можна ўбачыць тут на нацыянальным адзенні мужчын і жанчын партрэты мясцовых лідэраў, розныя лозунгі, пажаданні здароўя, кахання, шчасця. Бізнесмены ўважліва вывучаюць не толькі гандлёвае, але і палітычнае жыццё краіны і на гэтым робяць свой бізнес.

Падоўгу прастойваюць хлапчукі і многія дарослыя, гледзячы на ўмелую работу разбяроў па дрэве. З чорнага прыгожага дрэва яны выразаюць розныя нацыянальныя маскі, жывёл, птушак. Іх вырабы каштуюць даволі дорага, але выкананы яны з такім умельствам, што вы не пашкадуеце, калі купіце які-небудзь памятны сувенір.

На кірмашы вельмі многа дзяцей. Кожная мамі ўсіх сваіх дзяцей бярэ з сабою. Самых маленькіх прывязвае за спіной, а тыя, што ўжо навучыліся крыху поўзаць, лазяць каля яе, старэйшыя ж памагаюць прадаваць няхітры тавар. Некаторыя мамі маюць каля сябе па шэсць-восем дзяцей. Дзеці апрануты як папала, многія з іх бегаюць голыя.

На кожным рагу, на кожнай агароджы і краме — рэкламы «кока-колы» і іншых напіткаў. Піўныя фірмы часта па суботах наладжваюць вялікія танцавальныя вечары-конкурсы.

**ПА ДАРОГАХ РЭСПУБЛІКІ.** Рух у Гане — па левым баку вуліцы, і мы ніяк не маглі да гэтага прывыкнуць. Не адразу прывыкнеш і да таго, што амаль кожны аўтобус, грузавы аўтамабіль, акрамя нумару, мае яшчэ і своеасаблівую назву. «Сцеражыся жанчын!», «Аўрора, каханне маё!», «Я ведаю!», «Згодзен!», «Мне 28!», «О-о-о! Алах!» — крычаць надпісы на аўтамабілях.

Мы едзем у сталіцу рэспублікі Акру. Наш шафёр гоніць свой форд «Я кахаю цябе!» на ўвесь дух. Аўтобус зверам нясецца па бетоне. На спідометры 50—70 міль, і гэта пасля таго, як мы просім Юсуфа ехаць павольна — нам хочацца лепш разгледзець саванны, вёскі, што размешчаны ля самай дарогі. Юсуф злуецца: нас абганяюць нават грузавыя аўтамабілі.

Дарогі ў Гане выдатныя. У асноўным гэта шырокія бетанаваныя аў-



Прыйшлі на базар.

тастрады прыватных фірм. Яны абнесены па баках дротам. За праезд у адзін канец з кожнага аўтамабіля спаганяецца плата ў пяцьдзесят пенсаў. На дарозе абсталяваны спецыяльныя таможні, якія збіраюць плату. Паліцэйскія ахоўваюць касіраў.

Дарогу з Тэмы ў Акру будавала нейкая прыватная фірма задоўга да таго, як быў пабудаваны порт Тэма. Бізнесмены яшчэ тады зразумелі, якія барышы абяцае гэта дарога. І хоць пабудова яе абышлася вельмі дорага, але кажуць, што яна ўжо апраўдала сябе і цяпер прыносіць толькі прыбыткі.

У рэспубліцы аддаюць вялікую ўвагу развіццю транспарту. Цяпер ужо ўзяліся за будаўніцтва міждзяржаўных дарог. Гэта дарога з порта Тэма да граніц Тога, шасейная дарога да рэспублікі Бераг Слановай Косці і іншыя. Пракладваюцца таксама і многія чыгуначныя лініі.

Памылкова думаць, што ў Гане суцэльныя выпаленыя сонцам палі і саванны. Злева і справа ад дарогі зялёныя лугі, многа кустоў, розных

зяляніны. На лугах пасуцца каровы, дакладней—кароўкі, маларослыя, з вялікімі рагамі. Трапляюцца невялікія статкі авечак, коз. У гэтых краях жывёлагадоўля вельмі слаба развіта. Усяму віной муха цэцэ.

Пад'язджаючы да Акры, мы ўбачылі недалёка ад дарогі вялізарны аэрадром, а ўздоўж усёй магістралі плакаты і шчыты рэкламы, якія заклікаюць усіх лятаць толькі на самалётах нацыянальнай авіякампаніі «Гана эйрвейз». У пачатку 1965 года яна мела чатырнаццаць самалётаў. Авіякампанія робіць палёты ў еўрапейскія сталіцы і абслугоўвае авіялініі, якія злучаюць Акру з Рабатам, Каірам, Бейрутам, Хартулам, Адыс-Абебай, Акру з Абіджанам, Фрытаўнам, Канакры, Бамака, Дакарам і Лагосам.

У Акры ўсюды будаўніцтва: будуюць новыя дамы, вуліцы, кварталы і цэлыя раёны, узводзяць заводы і фабрыкі. Сталіца Ганы ўся ў рыштаваннях новабудоўляў.

Праехалі па вуліцах Акры. Былі на плошчы Чорнай зоркі, дзе стаіць помнік салдатам Залатога Берагу, якія ўдзельнічалі ў дзвюх сусветных войнах; бачылі нацыянальны банк, алмазны рынак; былі ва ўніверсітэцкім гарадку ў Лягоне і іншых месцах сталіцы.

Спыніўся наш аўтобус каля савецкага гандлёвага прадстаўніцтва. На скрыжаванні, насупраць яго будынка, пад разгалістай пальмай мамі на вуголлі смажыць бананы. Яна тут сядзіць штодзень, у яе многа пастаянных кліентаў, з якімі яна вітаецца, як са сваімі сябрамі.

Нашых хлопцаў ужо акружылі маладыя дзяўчаты ў сініх спадніцах і белых кофтачках. Гэта студэнткі. Яны даведваюцца, што мы з Савецкага Саюза, і распытваюць нас пра жыццё ў нашай краіне, пра сістэму адукацыі. Мы адказваем на ўсе іх пытанні.

Потым ідзем у дзяржаўны батанічны сад. Дарога вывіваецца сярод гор і цяснін. Яна то рэзка паварочвае ўправа, то ўлева, то крута ўзнімаецца ўверх, то рэзка абрываецца ўніз. Яна чымсьці нагадвае нашу старую трасу ад Ялты да Севастопаля. Горы і цясніны параслі буйнай трапічнай расліннасцю. У гарах нам часцей пачалі трапляцца паселішчы. Абшарпаныя хаціны, складзеныя сяктак з каменю, пакрытыя кавалкамі бляхі, парусіны, пальмавым лісцем і розным рыззём. Бедна апранутыя людзі выклікаюць жаль. Гэта—спадчына, якую пакінулі рэспубліцы імперыялісты.

Уздоўж дарогі часцей пачалі трапляцца бананавыя гаі, ананасавыя плантацыі, дрэвы какао.

Батанічны сад знаходзіцца на горным узвышшы побач з гарадком Абуры, або Эбуры, як гавораць мясцовыя жыхары. Ад самага ўваходу ў глыб парку цягнецца алея стромкіх каралеўскіх пальмаў. Тут прахалода, птушыны гоман, мноства трапічнай зеляніны. Адсюль цудоўна відаць горы. На адкрытай паляне расце гіганцкі баабаб, у яго ценю можна размясціць сотні людзей. Суцэльныя кактусавыя джунглі, праз якія нават птушцы не лёгка прабрацца.

Мы падышлі да апельсінавых дрэў, густа ўвешаных спелымі, буйнымі пладамі.

— Частуйцеся. Яны смачныя ў гэтым годзе,—гаворыць гасцінны ганец, зрываючы апельсіны і падаючы нам. Наш урач Барыс садраў шалупінне і смакуе духмяны, сакавіты плод.

— Вельмі смачна,—гаворыць задаволены гаспадар.—Бярыце яшчэ. Частуйцеся...

Нашу ўвагу прыцягнула група ганцаў, якія займаліся нечым незразумелым для нас. Дарослыя людзі шумелі і стралялі са звычайных рагатак, з якімі гуляюць у нас дзеці.

— Што гэта за людзі?—запыталі мы ў праважатага.

— Паляўнічыя.

Пагутарыўшы аб нечым між сабой, паляўнічыя разышліся па ўмоўленых месцах, нацягнуўшы гумкі сваіх рагатак. Рагаткі гатовы былі стрэліць у любую секунду. Але каго яны сабраліся страляць, нам незразумела. Мы запыталі аб гэтым у ганца.

— А вы зараз самі ўбачыце і зразумееце,—сказаў ён.

Адзін з паляўнічых, штосьці пракрычаўшы ўсім, стрэліў у шырачэзныя скручаныя трубкай лісты пальмы. Лісты затрашчалі, як перасохлая папера, і з іх вылецела чарада кажаноў. Кожны кажан быў велічынёй з добрую вавёрку. Аслепленыя яркім святлом, яны з піскам насіліся над вершалінамі пальмаў. Паляўнічыя не давалі ім садзіцца на дрэвы. Адзін кажан, піскнуўшы, упаў да ног паляўнічых. Пачуўся радасны крык захаплення.

— Кажуць, што яны будуць есці кажаноў. Гэта праўда?

— Так, чоп-чоп,—гаворыць наш гід, высокі, хударлявы малады ганец.—Будзе выдатны абед.

Удосталь нахадзіўшыся па алеях і палянах саду, мы рашылі адпачыць у невялікім бары. Маладзенькія мамі сустрэлі нас вельмі ветліва. Піва было цёплае, а вось «кока-кола» толькі што з халадзільніка.





Вось гэта кактусы!

На развітанне фатаграфуемся з ганцамі—гаспадарамі бара і іх дзецьмі. Яны вельмі рады, што савецкія маракі пажадалі з імі сфатаграфавацца, і дзякуюць нам.

**НА ГРЭБНІ ХВАЛЯЎ**. Шалёна нясецца аўтобус сярод гор і далін. Надвор'е вельмі добрае, і мы добра бачым з вышыні Акру і Тэму з іх дамамі і вуліцамі.

Непадалёку ад Акры праехалі праз Лягонскі ўніверсітэцкі гарадок. Гэта адзін з двух ганскіх універсітэтаў. Размешчаны ён на маляўнічых пагорках, увесь патанае ў трапічнай зяляніне. Жылыя і вучэбныя памяшканні нізкія, але пабудаваны з любоўю і вялікім густам. Кожны будынак вызначаецца сваёй архітэктурай, кветкамі і зелянінай. Да 1961 года Лягонскі ўніверсітэт быў каледжам і з'яўляўся аддзяленнем Лонданскага ўніверсітэта. Лондан прысылаў сюды сваіх прафесароў, зацвярджаў вучэбныя праграмы, выдаваў дыпломы. Лондан таксама стараўся, каб не даць Гане ніводнага інжынера ці доктара, у якіх мела вялікую патрэбу маладая рэспубліка.

З моманту рэарганізацыі каледжаў вышэйшая школа Ганы стала незалежнай ад Англіі і будавала навучанне студэнтаў, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў. Яшчэ і цяпер у Лягонскім універсітэце са 125 выкладчыкаў толькі 17 афрыканцаў.

Частка ганцаў вучыцца за мяжой, атрымліваючы дзяржаўныя стыпендыі. Акрамя таго, 900 ганцаў вучацца на стыпендыі, прадастаўленыя іншымі дзяржавамі.

У 1961 годзе ў рэспубліцы была ўведзена абавязковая пачатковая адукацыя. Пачатковыя школы цяпер даступны ўсім працоўным Ганы. А вось развіццё сярэдняй і вышэйшай адукацыі яшчэ адстае ад патрэб краіны.

Наш шлях цяпер ляжыць уздоўж Гвінейскага заліва. У аўтобусе духата, усіх мучыць смага. А за некалькі дзесяткаў метраў ад дарогі яркабелая паласа залацістага пяску, магутны прыбой акіянскай хвалі, цень пальмаў. Юсуф адгадвае нашы жаданні і паварочвае аўтобус улева, пад пальмы.

— Можаце адпачываць і купацца, колькі вам захочацца,—гаворыць ён.

Усе высыпалі з аўтобуса і амаль бягом накіраваліся да берагу. Многія ўжо скінулі абутак і ходзяць па беразе басанож. Тут свежы ветрык, пахне водарасцямі, ёдам, рыбай. Хлопцы ажыўляюцца, калі даведваюцца, што на гэтым пляжы ёсць спецыяльны домік для рускіх маракоў. Аб гэтым паклапацілася фірма «Манкаадзе». У доміку раздзявалкі, душавыя з прэснай вадой, дошкі для плавання на акіянскай хвалі...

Пераапрануўшыся, мы выбеглі на вільготны бераг. Зайшлі ў ваду па калені. Вялікая хваля адразу збіла нас з ног. У гэтым месцы неглыбока. Можна ісці да пяцідзесяці метраў у глыб заліва і, калі няма хвалі, узровень вады будзе толькі па шыю даросламу чалавеку. Хвалі пеняцца і наступаюць на нас адна за другой. Каб не захліствала вадой, ныраем пад хвалі.

Гледзячы, як ганскія хлопчыкі, стоячы, спрытна імчаць на дошках да берагу, Барыс—у роспачы, што, нават лежачы на жываце, не можа паспець за імі. Яму тлумачаць доўга, паказваюць, як трэба гэта рабіць.

Гэты від спорту называецца серфінг, ім ужо даўно казырае Аўстралія. Ён цяпер вельмі папулярны ў



Гвінейскім заліве і іншых кутках свету, дзе ёсць акіянскія ўзбярэжжы.

Досыць павесяліўшыся на акіянскіх хвалях, выходзім на бераг. Прадбачлівыя ўзялі з сабой валейбольны мяч. Сабраліся ў круг англічане, шведы, рускія, немцы, амерыканцы. Мяч часта ляціць у ваду, але ад гэтага становіцца яшчэ весялей.

Мы заўважылі, што два маладыя ганцы стаяць побач і ніяк не асмеляцца падысці. Запрасілі іх пагуляць разам з намі.

— Прэч, шмаравозы! Рабіць вам тут няма чаго!—з агідай працадзіў сярэдніх год круглатвары англічанін.

Ганцы збянтэжыліся і хацелі былі пайсці, але нашы хлопцы спынілі іх.

— Гуляйце, мяч наш, а каму не падабаецца, могуць ісці!..

Лаючы афрыканцаў, англічане пайшлі ўсе, за імі падаўся адзін амерыканец. Астатнія амерыканцы, шведы і немцы з ГДР засталіся гуляць.

Аматары з фотаапаратамі ганяюцца за ўдалымі кадрамі. Экзатычныя тут мясціны. Недалёка ўткнуўся ў бераг затоплены карабель, ля якога растуць некалькі дзесяткаў пальмаў. Высокія хвалі, што набягаюць на карабель, ушчэнт разбіваюцца і туманам вісяць у паветры. Ярка-сіняе неба, белізна пяску на беразе, белыя і чорныя целы на ім, некалькі мамі з вялізнымі падносамі на галовах не даюць фотааматарам драмаць, і яны носяцца з аднаго кутка ў другі, шчоўкаючы фотакамерамі.

Здзіўляешся, як гэта кволыя, стройныя жанчыны могуць трымаць на галовах такі цяжар і цэлымі днямі хадзіць у такую спёку па пляжы, прапаноўваючы свае тавары. Ззаду амаль у кожнай з іх прывязаны кучаравы малы, які глядзіць немігаючымі вачыма на свет... На судна вярнуліся ўвечары, добра адпачыўшы і многа ўбачыўшы.

**КАВАЛЬ—БАЦЬКА ШАКАЛАДНАГА ДРЭВА.** Гаворачы пра Гану, нельга не расказаць пра какао-боб, галоўную культуру, якую яна вырошчвае. Какао-боб з'яўляецца хлебам надзённым. Але вельмі мала хто з ганскіх дзяцей ведае смак шакаладу, шакаладных цукерак, напітку какао. У Гане шакалад пачалі вырабляць зусім нядаўна, а прывазны быў не кожнаму ганцу па кішэні.

Гана займае першае месца па экспарту какао-бобу і лічыцца каралевай какао. Гэта вельмі патрабавальная і капрызная культура. Яна любіць вільготны клімат і не любіць прамых сонечных промняў. Расце ў цяню іншых дрэў. Пачынае пладанасіць праз чатыры гады. Плады на дрэвах какао паяўляюцца два разы ў год велічынёй з невялікую дыню. Унутры плода каля пяцідзесяці зерняў бобу, яны вельмі горкія. Пасля ферментацыі, пакрыцця бобу на некалькі дзён пальмавым лісцем, горыч знікае.

Урад новай Ганы клапоціцца пра тое, каб палепшыць становішча фермераў, лёс якіх поўнасцю залежыць ад ураджаю какао. Створаны эксперыментальныя станцыі, дзе сяляне змаглі купіць высокаўраджайныя гатункі какао «амазон». За 1955—1962 гады сялянам было раздадзена больш 8,6 мільёна саджанцаў гэтага гатунку. Нядаўна выведзены гібрыдны гатунак, які дае плады праз два гады пасля пасадкі. Ураджай з гэтага гатунку дрэў больш высокі.

Паводле рашэння ўрада, з 1958 года сялян пачалі забяспечваць апаратамі для апырсквання дрэў інсектыцыдамі. Толькі за два гады ім прадалі 48 тысяч механічных і 17,5 тысяч ручных апырсквальнікаў. Нягледзячы на ўсе прынятыя меры, сярэдні збор какао-бобу з аднаго гектара яшчэ невысокі—224 кілаграмы.

Урад незалежнай Ганы для засцярогі фермераў ад самавольства замежнага капіталу і паляпшэння іх матэрыяльнага становішча распрацаваў шэраг мер. У выпадку неўраджаю ці зніжэння сусветных цэн на какао-боб у каланіяльнай Гане ўсе страты клаліся на плечы вытворцаў. Цяпер толькі дзяржаўнае ўпраўленне па збыту какао надзелена паўнамоцтвамі экспартаваць какао. Яно вызначыла цвёрдую закупачную цану, па якой каштоўная сыравіна скупляецца ў фермераў. Каб адпомсціць за гэта, манапалісты ЗША і заходнееўрапейскіх краін, якія перапрацоўваюць какао-боб, адмаўляюцца ўстанавіць на яго цвёрдыя гарантаваныя цэны, яны ідуць на прамую дыверсію цэн.







Бадай няма на зямлі немаўляці, якое абышлося б без такой зручнай соскі — уласнага пальца.

Хоць цяпер Гана і займае першае месца ў свеце па вытворчасці какао-бобу, гэта культура з'яўляецца «іншаземцам» на яе тэрыторыі і наогул у Афрыцы. Радзіма шакаладнага дрэва—Паўднёвая Амерыка. Бацькам афрыканскага какао быў ганскі каваль Тэтэ Каршы. У 1870 годзе ён пераехаў з маленькага гарадка Мампонг на востраў Фернанда По. Папрацаваўшы там некалькі гадоў, вярнуўся дамоў, але, акрамя мяшэчка насення какао, нічога з сабой не прывёз. Пасеяў насенне ў садзе. Яно добра ўзышло, і ўжо праз чатыры гады каваль сабраў першы ўраджай на афрыканскай зямлі. Плады какао ў Еўропе ўжо высока цаніліся, і развядзенне плантацый абяцала вялікія грошы. Каваль Каршы прадаваў насенне суседзям і ўсім жадаючым. Дрэвы давалі добрыя ўраджаі, і ганцы падумвалі ўжо пра тое, каб неўзабаве адкрыць на сваёй радзіме фабрыку па пераапрацоўцы бобу. Але англійскія каланізатары перашкодзілі гэтаму, яны не былі зацікаўлены ў развіцці прамысловасці Залатога Берагу. Гэту краіну яны зрабілі пастаўшчыком сыравіны для англійскай прамысловасці. Першая партыя какао была вывезена з Залатога Берагу ў 1891 годзе, а праз шэсць гадоў у Йорку англічанін Раўнтры адкрыў шакаладную фабрыку.

Як на дражджах, пачала расці кампанія «Раўнтры энд компані лімітэд». Пад Ньюкаслам быў створан яе філіял, многія яе аднатыповыя прадпрыемствы пусцілі карэнне ў Канадзе, Ірландыі, Аўстраліі, Нідэрландах і іншых краінах. Будаваліся шакаладныя фабрыкі ў ЗША, Германіі, Швейцарыі, Галандыі. У Расіі вырабляць шакалад пачалі ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

Фабрыканты бессаромна ашуквалі жыхароў Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі і іншых краін. Яны амаль задарма вывозілі какао-боб і нажывалі на гэтым мільёны.

Вытворчасцю какао-бобу жывуць ганцы, яна іх корміць і апранае. Але па-ранейшаму амерыканскія і заходнееўрапейскія імперыялісты нажываюць мільёны на працы народнай.

**ГАНСКАЕ ЗОЛАТА І АЛМАЗЫ.** Са старажытных часоў Гана славілася велізарнымі запасамі золата. Каланізатары нездарма назвалі яе Залатым Берагам. Гэты афрыканскі бераг для іх быў сапраўды залатым. Для многіх золатаздабывальных кампаній і па сённяшні дзень гэта краіна з'яўляецца залатым берагам, а праўдзівей—залатым дном, з якога яны чэрпаюць незлічоныя багацці.

Золата... Спачатку яго выменьвалі былыя прышэльцы ў ганскіх правадыроў за цацкі, а калі ўмацавалі сваю палітычную ўладу і эканамічныя пазіцыі, выграбалі яго з чужых нетраў зямлі, як сваё ўласнае. Англійскія каланізатары падманным шляхам або спойваннем правадыроў дабіваліся таго, што атрымлівалі доўгатэрміновую арэнду зямлі. Правадыры, не ўмеючы ні чытаць, ні пісаць на чужой ім мове, не ведаючы, што напісана ў дакументах, «падпісвалі» іх пад націскам прайдзісветаў і грабежнікаў.

Цікава тое, што нават цяпер адна буйная золатапрамысловая кампанія выплачвае аднаму з ганскіх правадыроў за арэнду залатаносных раёнаў 100 фунтаў стэрлінгаў у год, прыбытак жа атрымлівае ад распрацоўкі гэтых зямель мільёны фунтаў. Але ўсё ідзе «правільна», дагавор аб арэндзе падпісаны на 99 год. Да заканчэння яго тэрміну яшчэ вельмі далёка.





Мясцовае насельніцтва да другой палавіны XIX стагоддзя здабывала золата ў асноўным з россыпаў. З 1874 года да 1961 замежныя кампаніі цалкам кантралявалі распрацоўку месцанараджэнняў золата. За 1956—1959 гады здабыча золата ў краіне павялічылася больш чым на 50 працэнтаў. Калі ў 1961 годзе ўрад Ганы адмовіўся субсідыраваць замежныя золатаздабываючыя кампаніі, яны наогул адмовіліся ад здабычы золата, спасылаючыся на страты. Гэтыя кампаніі былі нацыяналізаваны. Але буйныя замежныя кампаніі працвіталі і без субсідыі новага ўрада. Самая буйная з іх—кампанія «Ашанці голдфілдс карпарэйшн», якая дзейнічала ў цэнтры краіны на самых багатых месцанараджэннях золата.

У капіталістычным свеце Гана займае па здабычы золата прыкладна пятае месца. Яна дае штогод каля трыццаці тон яго. Шахты замежных кампаній вельмі добра абсталяваны і моцна разгалінаваны. На іх больш за дваццаць пяць гарызонтаў здабычы.

Ганскія шахцёры жывуць у цяжкіх умовах, туляцца вялікімі сем'ямі ў цесных бараках і хацінах. А ў гэты ж час англійскія адміністратары, інжынеры, майстры жывуць у раскошных, добраўпарадкаваных катэджах з садамі і фантанамі. Прафсаюзы рэспублікі ўсё больш настойліва патрабуюць ад замежных кампаній паляпшэння жыцця гарнякоў, але істотных змен пакуль не відаць. Залатыя ж запасы краіны знаходзяцца ў чужых руках.

Па здабычы алмазаў Гана займае другое месца ў капіталістычным свеце. Яе гадавая здабыча складае каля трох мільёнаў каратаў. У Гане вельмі дробныя алмазы, іх выкарыстоўваюць у прамысловасці для розных мэт. І ўсё ж гранільшчыкі многіх краін свету ведаюць пра ганскія ювелірныя алмазы, якія ў агульнай здабычы складаюць каля дзесяці працэнтаў. На сусветным рынку попыт на алмазы для прамысловасці расце з кожным годам. Калі б не замежныя кампаніі, якім належыць у Гане больш трох чвэрцей здабычы, маладая дзяржава мела б магчымасць палепшыць сваё фінансавае становішча за кошт алмазнай індустрыі.

Упершыню алмазы ў Гане адкрылі ў 1919 годзе ў Абамоса, і адразу ж іх распрацоўку прыбрала англійская кампанія «Акім даймондфілдэ лімітэд». Праз дзесяць гадоў у басейне рэк Бонса і Анкобра быў адкрыты яшчэ адзін алмазны раён, які тут жа прыбрала другая брытанская кампанія. Акрамя іншаземных кампаній, якія здабываюць алмазы прамысловым метадам, здабычай алмазаў займаюцца і афрыканскія старацелі. Яны працуюць невялікімі групамі і ў адзіночку ў найцяжэйшых умовах.

З першага студзеня 1961 года замежным кампаніям забаронены вываз алмазаў за граніцу. Усе алмазы, здабытыя ў Гане, могуць быць прададзены толькі на дзяржаўным алмазным рынку ў горадзе Акры. Гэты крок да ўстанаўлення кантролю над эксплуатацыяй нетраў краіны не збянтэжыў іншаземныя кампаніі і не зменшыў іх гарачага азарту да багаццяў маладой рэспублікі.

Многа і іншых каштоўных выкапняў у Гане. На жаль, і яны знаходзяцца ва ўчэпістых лапах замежнага капіталу.

**МЫ БУДЗЕМ ВАС ЧАКАЦЬ.** Выкарыстаўшы тое, што прэзідэнт рэспублікі Ганы Квамэ Нкрума быў у паездцы за граніцай, рэакцыя з дапамогай ваенных сіл і іншаземных саветнікаў зрабіла пераварот у краіне. Быў распушчаны парламент, партыя Народнага Канвента. Арыштаваны члены парламента і відныя грамадскія дзеячы рэспублікі. У краіне аб'яўлена ваеннае становішча. Большасць ганцаў абураны тым, што здарылася. Яны патрабуюць вызвалення арыштаваных. За гэта і іх забіраюць у паліцэйскія аддзяленні.

Паколькі новыя ўлады не гарантавалі савецкім людзям бяспеку, наш урад адклікаў з Ганы ўсіх спецыялістаў. Рабочыя, докеры, рыбакі, інтэлігенцыя краіны былі вельмі засмучаны, што савецкія людзі, якія так многа зрабілі для іх, ад'язджаюць.

Да адыходу савецкага цеплахода «Латвія», нягледзячы на заслоны паліцыі, прыбылі сотні ганцаў. Яны вельмі цёпла і з вялікім смуткам праводзілі нас. На пірсе сабраліся ўсе ганскія рыбакі. Яны крычалі нам:

— Прыязджайце! Мы вельмі будзем вас чакаць!



# УСПАМІНЫ ВАСІЛЯ СТАШЭЎСКАГА



Васіль Сташэўскі (1925 год).

У адным з фондаў Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР захаваліся ўспаміны ўдзельнікаў партызанскай барацьбы супраць белапалякаў на тэрыторыі Беларусі. Асаблівую цікавасць сярод іх маюць успаміны пад назвай «1920 год». Напісаны яны на беларускай мове, надрукаваны на машынцы, але пад тэкстам няма ні подпісу, ні даты.

Чытаючы ўспаміны, адчуваеш, што пісала іх рука, якая няблага валодала пяром. Хто ж аўтар напісанага? Ці не быў ён пісьменнікам? А магчыма, пазней стаў ім? Ці не памогуць нам устанавіць імя аўтара тыя скупыя звесткі аб сабе, якія ён сам прыводзіць у тэксце? Звернемся да тэксту.

Падзеі, апісаныя ва ўспамінах, адбываліся ў адным з куткоў Капыльшчыны, аўтар нават называў сваю родную вёску—Свінка. З беларускіх пісьменнікаў у вёсцы Свінка нарадзіўся Васіль Сташэўскі. Магчыма, яму належыць напісанае? Тым больш, што В. Сташэўскі прымаў удзел у партызанскім руху супраць белапольскіх акупантаў. І ўсё перажытае паслужыла пазней асновай для п'есы «Прысяга ў лесе». Але ці дастаткова гэтага, каб сцвярджаць, што ўспаміны належаць яму? Ці няма іншых доказаў у тэксце?

У адным месцы ўспамінаў чытаем: «Неяк неўзабаве іду я па вуліцы вёскі, даганяюць мяне два легіянеры і прапануюць ісці ў хату. Зайшлі. Тут яны абвясцілі мяне арыштаваным і пачалі рабіць вобыск. Знайшлі маё студэнцкае пасведчанне (Менскі педагагічны інстытут)...» Значыць, аўтар успамінаў быў студэнтам Мінскага педагагічнага інстытута. Ці займаўся там у 1920 годзе Васіль Сташэўскі? Так, займаўся.

У дакументальных матэрыялах Мінскага педагагічнага інстытута захаваўся спіс студэнтаў, якія займаліся ў ім у 1918—1919 навучальным годзе. Сярод іх знаходзім і Васіля Сташэўскага—студэнта першага курса геаграфічнага цыкла.

І, нарэшце, апошняе.

У канцы ўспамінаў аўтар зазначае, што пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў ён некаторы час працаваў у Нясвіжскім ваенкамаце. Працаваў у гэты час там і В. Сташэўскі. Захаваўся пратакол пасяджэння Нясвіжскага павятовага ваенна-рэвалюцыйнага камітэта ад 16 жніўня 1920 года, на якім Сташэўскі быў прызначаны выконваючым абавязкі павятовага ваенкома.

Такім чынам, ёсць усе падставы сцвярджаць, што ўспаміны належаць

пяру беларускага пісьменніка Васіля Пятровіча Сташэўскага (1895—1938). Мяркуючы па другіх дакументах, яны напісаны не пазней, чым у 1922 годзе. Дарэчы тут зазначыць, што першыя вершы і п'еса «На другі дзень» з'явіліся ў «Аршанскім Маладняку» толькі ў 1925 годзе, калі за плячыма аўтара былі дарогі першай імперыялістычнай вайны і партызаншчына, настаўнічанне ў уздзенскай сямігодцы і вучоба ў оперна-драматычнай студыі ў Маскве і на Вышэйшых курсах беларусазнаўства ў Мінску. А потым— праца выкладчыка гісторыі і літаратуры на аршанскім рабфаку і грамадская работа: Сташэўскі быў выбраны дэпутатам Аршанскага гарсавета.

У жніўні 1926 года пісьменнік пераязджае на сталае жыхарства ў Мінск і аддаецца літаратурнай працы. У гэты час выходзіць з друку некалькі зборнікаў яго п'ес і празаічных твораў. Дарэчы, напісаная ў 1930 годзе п'еса «Прысяга ў лесе» ў значнай ступені пераклікаецца з успамінамі. Падзеі, апісаныя ў ёй, адбываюцца ў 1919—1920 гадах.

У 1963 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве Беларусі выйшла кніга Васіля Сташэўскага «Шуміць бярэзінка». У ёй сабрана ўсё лепшае, напісанае пісьменнікам больш чым за дзесяць год: аповесць «Пад местачковым месяцам», нарысы «Па сонечнаму шляху», аповесць «Шуміць бярэзінка» і іншае.

Успаміны, якія прапануюцца ўвазе чытача, маюць цікавасць не толькі для даследчыкаў гісторыі і літаратуры. Яны знаёмяць нас з малавядомай і гераічнай старонкай біяграфіі пісьменніка-партызана Васіля Сташэўскага.

**Уладзімір ГРАМОВІЧ.**

# 1920 ГОД

## Успаміны аб партызанскім руху

Кулацкая частка вёскі недавольна была бальшавіцкай «продразвёрсткай», уздымам беднаты ў 1919 годзе. Вось чаму, калі з'явіўся ў вёску Свінку Капыльскага раёна атрад легіянераў Пілсудскага, дык кулацкая тройка вынесла стол з хлебам-соллю.

Мне не давялося бачыць гэтае «ўрачыстасці», я быў на полі, як і наогул большая частка мужчын.

Пад вечар у канцы вёскі амаль усе сабраліся і абгаворвалі «международное положение». Тут жа стаяла двое з тых, хто сустракаў высокіх гасцей.

— А што жа яны ўсё-такі казалі вам?—задавалі пытанні адны.

— Можа пра зямлю што-небудзь?—з усмешкай пыталіся другія.

— «Вось прагонім бальшавікоў, і ўсё будзе добра»,—вось што казалі «высокія госці». Вядома, далікатна развіталіся і паехалі далей,—адказаў адзін з тых двух.

— О, паны заўсёды далікатныя!..—з лёгенькаю ўсмешкаю кінуў нехта.

— Але часам чалавеку дух вымае гэтае далікацтва...

— Нічога не вымае, усё будзе добра, спакойна, не так, як з гэтымі абадранцамі-бальшавікамі!

— Ну, дай жа божа...

— Будзем бачыць...

— Не было добрага і не будзе...

— Зямлі не будзе... трасца будзе...

— А хто гэта можа знаць, што будзе?..

Так гаварылі людзі ў той надвячорак.

Прайшло некалькі дзён, становішча прасвятлялася. У аколічныя маёнткі вярнуліся паны, аканомы. Склікалі людзей, прымушалі вярнуць маёмасць, хто захапіў. Так было ў маёнтках Над-Нёман, Аталова і іншых. З мястэчка Пясочнае, з вёсак Касцяшы і Яршы некалькі чалавек пагналі ў баранавіцкую турму. Мая вёска Свінка адчувала сябе больш-менш спакойна, бо блізка маёнтка не было, дзе б сяляне маглі зачапіцца, і здавалася, што ўсё абыдзецца без прэтэнзій.

Праз некаторы час атрымоўваю запіску ад лясного стоража з фальварка графіні Красінскай—Мар'янава.

Справа ў тым, што перад прыходам палякаў пад маім кіраўніцтвам наладжан быў у гумне гэтага фальварка спектакль і для пабудовы сцэны былі скарыстаны засекі з свірна.

У запісцы прапанавалася прывесці ўсё ў парадак, бо інакш справа пойдзе вышэй. Добрыя людзі памаглі мне, і справа вышэй не пайшла.

Неяк неўзабаве іду я па вуліцы вёскі, даганяюць мяне два легіянеры і прапануюць ісці ў хату. Зайшлі. Тут яны абвясцілі мяне арыштаваным і пачалі рабіць вобыск. Знайшлі маё студэнцкае пасведчанне (Менскі педагагічны інстытут) і пячатку культасветнага гуртка. Адзін з іх назваў сябе студэнтам Львоўскага інстытута і зазначыў, што вобыск яны павінны былі зрабіць, паколькі нас рэкамендавалі як бальшавікоў гэтае вёскі.

Гэтым часам да вёскі даходзілі чуткі аб панскім «далікацтве» пад назваю: «двадзесьце пеньць».

Вобыскі, якія адбываліся па іншых вёсках з мэтай вышуку зброі, не мінулі і мае вёскі.

Першага кастрычніка ад магільнянскага пастарунка з'явіліся два жандары, выклікалі па імені і прозвішчу трох хлопцаў і прымусілі лезці на старую ліпу, дзе было вялізнае буславае гняздо.

Там былі схаваны вінтоўкі, і, як мы пасля дагадваліся, дазналіся яны аб гэтым ад старасты нашае вёскі. Забралі вінтоўкі, арыштавалі гэтых трох хлопцаў і павялі ў мястэчка Магільна.

Першага кастрычніка заўсёды ў мястэчку Пясочнае бывае фэст. Этап спыніўся тут, каля варот цвінтару. Старшы жандар пайшоў да былога ўрадніка Зарамбоўскага, а другі застаўся з арыштаванымі. Дазнаўшыся аб гэтым здарэнні, я прапанаваў сыну Зарамбоўскага, настаўніку, запрасіць мяне на абед да сябе, каб там, можа за чаркаю, вызваліць хлопцаў.

Праз некаторы час я смела адчыніў дзверы, і мяне пазнаёмілі са «старшым».

Сям'я Зарамбоўскіх спаткала мяне далікатна, і гэта, мабыць, выклікала далікацтва з боку «старшога». Яго ўгаварылі. Праз некалькі хвілін хлопцы стаялі перад ім і слухалі яго грозную прамову: «Сёння з прычыны набажэнства, фэсту, адпускаю, а прыеду праз тыдзень». Хутка на стале стаяў гарнец гарэлкі, дасталі скрыпачку, і праз некалькі хвілін наш музыка даваў жандару ўрокі музыкі. Жандар старанна выводзіў бальшавіцкі гімн («Інтэрнацыянал»).

На гэты час абышлося добра.

Аж з'яўляюцца праз некаторы час новыя «госці». Нейкія два плюгавенькія легіянерчыкі жывуць у вёсцы некалькі дзён. Ходзяць чуткі, што гэта тайная паліцыя.

Аднаго разу выклікаюць яны двух хлопцаў-падросткаў, распытваюць пра бальшавікоў, зладзеяў, б'юць шампаламі.

Гэта зрабіла цяжкае ўражанне ў вёсцы, асабліва на моладзь.

Была вечарынка, прыйшлі і легіянерчыкі. Мы рашылі даць ім гарэлкі, але запытаць, за што яны білі хлопцаў.

Кончылася вечарынка, засталося дзесяць хлопцаў і два легіянеры. Некаторыя хлопцы трымалі сябе па-ваяцку, прыходзілася стрымоўваць іх. Легіянерчыкі адчувалі сябе дрэнна. Спуджаны іх выгляд выклікаў асаблівую смеласць у хлопцаў, і яны гатовы былі разарваць «гасцей» у шматкі.

— Пажар!—крыкнуў нехта, убягаючы ў хату.

Усе выскачылі на вуліцу. Гарэла гумно майго брата (у якога я жыў). Была гадзіна ночы. Хто падпаліў, невядома. Праз дзень-два легіянеры выехалі.

— Што гэта будзе? Што будзе? Ці доўга так будзе?—вось запытанні, якія прыходзілася чуць часцей і часцей.

У маёй вёсцы амаль з першых дзён вызначылася група адважных хлопцаў. Была і зброя. Была ўзброеная група і ў мястэчку Пясочнае. Сувязь была наладжана з двума пунктамі: Слуцкам і Мінскам. Мы ўпэўнены былі, што ў кожнай вёсцы знойдзецца некалькі ўзброеных чалавек.

Асаблівай сімпатыяй карысталіся тыя, якія не маглі жыць легальна, а прымушаны былі туляцца па лясах. Жыццё было трывожнае. Мне, напрыклад, удавалася даставаць у часовае карыстанне ад сялян дакументы і даваць іх нелегальнікам пры адпраўцы ў далёкую дарогу. Гэта сведчыць, што сяляне спачувалі партызанскаму руху. Сувязь перадавой моладзі вёсак, і нават суседніх валасцей, была наладжана вельмі добра. Звычайна мы рыхтаваліся да пастаноўкі спектакля. Артысты былі за дзесяць—пятнаццаць вёрст. Рэпетыцыі адбываліся ў маёй вёсцы. Тут, на рэпетыцыях, мы атрымоўвалі інфармацыі з розных куткоў.

Раз рыхтавалі п'есу «Апошняе спатканне»*. Ведаючы, што могуць не дазволіць такую пастаноўку, мы прапанавалі пясочанскаму каменданту быць адказным гаспадаром. Ён з вялікім гонарам прыняў гэтае званне і, не пачытаўшы п'есы, атрымаў ад уздзенскага раённага начальніка дазвол. На спектакль прыехала камендатура з мястэчка Магільна. Паглядзеўшы п'есу, у якой сяляне б'юць царскіх жандараў, «госці засталіся незадаволенымі». Намылілі шыю адказнаму гаспадару, і мне, як рэжысёру, прапанавалі: трагедый больш не паказваць.

Пасля гэтага неяк часцей пачалі яны наведваць маю вёску і наогул усілілі нагляд за моладдзю. Насіліся чуткі аб тым, што многіх збіраюцца арыштаваць. Прыходзілася кожнага вечара шукаць новага начлегу. На сходках свінкаўскай і пясочанскай груп абгаворваліся пытанні аб узброеным нападзенні на магільнянскі пастарунак, на маёнтак Іодкі, каб затым канчаткова пайсці ў лес і вербаваць у вялікі атрад. Пытанне аб фармаванні ў раёне Свінка—Пясочнае вялікага атрада было вырашана. З паведамленнем аб гэтым пасланец быў накіраваны ў Слуцк, але ў гэты час слуцкая група была арыштавана, сувязь парвалася. Узброеныя групы былі гатовы, але трэба сказаць, што адступленне было некалькі раптоўным, яго чакалі крыху пазней.

І вось у нейкі святочны дзень ці нядзелю праз Свінку праскочыў аўтамабіль з польскімі афіцэрамі. Напрамак яго быў на маёнтак Іодкі і далей—на Магільна. Гэта было пад вечар. А ў гэты вечар назначана было спатканне каля рэчкі Лоша ўзброеных груп пясочанскай і свінкаўскай. Пясочанская група сядзела ў гумне, і калі аўтамабіль уехаў у мястэчка, яна з гумна дала залп па ім. Аўтамабіль вярнуўся ў Свінку. К гэтаму часу абозы раскінуліся па ўсяму выгану, затым пад'ехала артылерыя. Уся вёска была акружана на працягу ўсяе ночы. Яшчэ з вечара было вядома, што ў Пясочнае накіроўваецца эскадрон кавалерыі, каб абкружыць і спаліць мястэчка. Прабрацца ў Пясочнае не было ніякай магчымасці. На раніцу, чуць золак, мне ўдалося з некалькімі хлопцамі, адкраўшы ў абозе некалькі скрынак з патронамі і вінтовак (калі «героі» ламалі куфры, пілі «млека»), перабегчы на Магільнае і затым у лясок.

Пясочнае гарэла ўвесь дзень.

З'явілася чырвонаармейская разведка. Сеўшы на фурманку з трыма чырвонаармейцамі, я паехаў уперад на фальваркі. У адным фальварку ўдалося выкрыць аднаго легіянера, які пераапрануўся ў гаспадарскае адзенне і выйшаў працаваць. З адным чырвонаармейцам гэты палонны накіраваны быў да начальніка палкавой разведкі.

З вёскі Восава з запіскаю камісара палка я накіраваўся ў Магільна і прыняў удзел у арганізацыі рэўкома.

Пры дапамозе камісара (здаецца, 8-й дывізіі) рэўком быў сфармаваны, і на мяне ўскладзены былі абавязкі загадчыка аддзела народнай асветы і валаснога ваенкома.

---

* «Апошняе спатканне» — п'еса Уладзіслава Галубка.



Сурёзнае — Курёзнае

# ІМГНЕННЕ, СПЫНІСЯ!

**Упершыню ўбачыўшы гэтую фотапласцінку, можна здзівіцца: мешаніна плям, штрыхоў, акружын, і ніякага падабенства да шахматнай дошкі. Здзіўленне будзе яшчэ большым, калі зірнуць на яе ў промнях кагерэнтнай крыніцы святла — лазера. Пласцінка нібы знікае, а на яе месца з'яўляецца акенца, праз якое ў натуральную велічыню бачна дошка з расстаўленымі на ёй фігурамі. Эфект настолькі моцны, што ні хвіліны не сумняваешся: перад табою — рэальна існуючы прадмет...**

**Паварочваючы галаву ўправа, улева, уверх, уніз, лёгка заўважыць, што фігуры перамяшчаюцца адна адносна другой. Калі адна фігура засланяе другую, дык, змяніўшы пункт назірання, яе можна ўсё ж разгледзець. Пярэднія прадметы можна вывучаць да некаторай ступені з розных бакоў.**

**Пласцінка сапраўды дзівосная. Але гэта яшчэ не ўсё. Давайце зробім на ёй некалькі рысак, часткова знімем эмульсію. Адлюстраванне амаль не зменіцца, усе яго дэталі захаваюцца. Больш таго, разаб'ём пласцінку на некалькі частак. І якую з іх мы ні ўзялі б,— нават самую маленькую,— яна зноў жа дае адлюстраванне ўсёй шахматнай дошкі. Праўда, яркасць і дакладнасць адлюстравання значна змяняюцца ў залежнасці ад памераў асколка пласцінкі.**

**Лёгка здагадацца, што мы маем справу не са звычайнай пласцінкай, а з чымсьці невядомым раней у фатаграфіі. Гэта галаграма. Пра галаграфію — адно з дасягненняў нашага стагоддзя — і пойдзе тут размова.**

**Першымі фатаграфічнымі апаратамі былі камеры-абскуры, што азначае «цёмныя камеры». Падрабязнае апісанне камеры і яе дзеяння даў Леанарда да Вінчы ў 1500 годзе. Гэта была светанепранікальная скрыня, у адной са сценак якой вастрыём іголкі рабілася маленькая адтуліна. Супрацьлеглая сценка была з матавага шкла, або з прамасленай паперы. Паварочваючы камеру адтулінай да свецячых або добра асветленых прадметаў, на матавым шкле можна ўбачыць зменшаны і перавернуты адлюстровак.**

**Незалежна ад вынаходства фотаапарата, узбагачаліся навуковыя веды аб светаадчувальнасці некаторых хімічных злучэнняў. У 1725 годзе рускі хімік-аматар А. П. Бестужаў-Румін адкрыў светаадчувальнасць солей жалеза.**

**Аднак днём нараджэння фатаграфіі лічыцца сёмае студзеня 1839 года. Тады вядомы французскі вучоны Францауа Араго далажыў у Парыжскай акадэміі навук аб дзівосным адкрыцці: мастак Дагер вынайшаў спосаб без пэндзаля і фарбаў, з дапамогай толькі святла, атрымліваць і замацоўваць на срэбраных пласцінках адлюстраванне любых прадметаў. Сваё вынаходніцтва ён назваў уласным імем — дагератыпіяй.**

**Хутка дагератыпія стала модай. Газеты таго часу пісалі, што свет дзеліцца на дзве часткі: людзей, якія займаюцца дагератыпіяй, і людзей, якія пацярпелі ад яе. Што датычыць мастакоў, дык ім нічога не заставалася рабіць, як павесіцца.**

**Вялікай падзеяй у фатаграфіі было вынаходніцтва гнуткай плёнкі замест фотапласцінак і стварэнне плёначнага фотаапарата ў 1877 годзе. Адкрыліся шляхі для стварэння кінематаграфіі. Усе поспехі сучаснага кіно — адначасова і поспехі фатаграфіі. Дружныя пошукі хімікаў і оптыкаў прывялі да адкрыцця каляровай фатаграфіі.**

**За гады свайго існавання фатаграфія дасягнула велізарных поспехаў. Але якімі вялікімі ні былі яе дасягненні, якімі дасканалымі ні рабіліся фотаапараты**

і фотаматэрыялы, фізічныя прынцыпы фатаграфавання засталіся, практычна, нязменнымі.

У 1947 годзе англійскі фізік Дэніс Габар зрабіў адкрыццё, якое паклала прынцыпова новыя асновы фіксавання адлюстравання прадметаў на фотапласцінцы з дапамогай галаграм. Для атрымання галаграм неабходны крыніцы кагерэнтнага святла. Паколькі ў тыя гады такія крыніцы было цяжка стварыць, вынаходніцтва Габара некаторы час лічылася малапрактычным і не прыцягвала належнай увагі вучоных.

Аднак калі ў 1960 годзе з'явіліся квантавыя генератары святла, асабліва газавыя лазеры, якія служаць магутнай крыніцай кагерэнтнага святла, цікавасць да адкрыцця Габара зноў узрасла, і за кароткі час галаграфія дасягнула значных поспехаў.

Што ж уяўляе сабой галаграма? Як яе атрымаць?

Само гэтае слова складаецца з дзвюх частак «гала», што азначае «ўвесь», «цэлы», і «грама» — «знак, запіс». У літаральным перакладзе — гэта поўны запіс усёй інфармацыі, якая ўтрымліваецца ў светлавой хвалі. У паўнаце інфармацыі і заключаецца адно з карэнных адрозненняў галаграмы ад звычайных фатаграфій.

Фотахімічныя рэакцыі на пласцінцы адчувальныя толькі да амплітуды (энергіі) хвалі, другая ж важная іх характарыстыка — светлафаза — ніяк не фіксуецца. Таму пры звычайным фатаграфаванні пачарненне на фотапласцінцы вызначаецца выключна інтэнсіўнасцю святла.

Каб неяк зафіксаваць фазы хваляў пры атрыманні галаграм, выкарыстоўваецца з'ява інтэрферэнцыі.

Адбываецца гэта так. Прамень святла, звычайна ад няспынна дзеючага газавага лазера, трапляе на паўпразрыстае люстэрка, часткова адбіваецца ад яго, а часткова праходзіць, як у люстраных акулярах. Адбіты прамень асвятляе аб'ект. Які прайшоў — трапляе на другое люстэрка, адбіваецца ад яго і ў якасці апорнага промня асвятляе фотапласцінку. Уся пласцінка асвятляецца як рассеяным, так і апорнымі промнямі. Перад пласцінкай няма ніякіх факусіруючых прыстасаванняў, таму на любы ўчастак яе паверхні пападае выпраменьванне ад усяго аб'екта, і, наадварот, любая кропка аб'екта пасылае рассеяныя праменні на ўсю пласцінку.

Апорны і рассеяны праменні ўзаемадзейнічаюць паміж сабой, прычым, калі хістанні адбываюцца на фазе, сумарная амплітуда павялічваецца, калі ў процівафазе — аслабляецца. Галаграма, па сутнасці, і з'яўляецца фатаграфіяй малюнка светлавых хваляў.

Пазіраючы на плансцінку, можна ўбачыць аб'ёмны ўяўны адлюстровак аб'екта; факусіруючы прайшоўшае святло, можна атрымаць яго сапраўдны адлюстровак. Усё адбываецца так, нібы ёсць не галаграма, а на сваім месцы знаходзіцца прадмет. Ні вокам, ні якім-небудзь з існуючых прыбораў немагчыма адрозніць адноўленыя галаграмай хвалі ад хваляў, што выходзілі з аб'екта. Атрымліваецца як у казцы: імгненне, спыніся! Замірае самы хуткі ў свеце рух — светлавыя хвалі. Потым, праз даволі вялікі адрэзак часу, яны працягваюць свой шлях як ні ў чым не бывала, быццам і не было ніякага прыпынку.



Аднаўленне адлюстроўка пры асвятленні празрыстай галаграмы лазерным пучком. У выніку дыфракцыі ўзнікае: у промнях, якія сходзяцца, сапраўдны адлюстровак; у промнях, якія расходзяцца, уяўны адлюстровак.

Характэрна, што кантраснасць адлюстравання зусім не залежыць ад кантраснасці фотапласцінкі, і няма негатыўных галаграм. Можна перазняць галаграму з адной пласцінкі на другую, пры гэтым чорнае стане белым і наадварот, але абедзве пласцінкі будуць аднаўляць адно і тое ж адлюстраванне.

Дзе і як можна скарыстаць галаграфію? Ці нельга стварыць аб'ёмнае кіно і тэлебачанне?

Галаграфія яшчэ не выйшла за межы навуковых лабараторый. Каб атрымаць добрыя вынікі пры экспанаванні на працягу некалькіх хвілін, усе часткі ўстаноўкі трэба замацаваць на цяжкіх масіўных падстаўках і зрабіць іх нерухомымі.

Аднак нельга забываць, што галаграфія робіць толькі першыя крокі, і шматлікія цяжкасці будуць паспяхова пераадолены пры яе далейшым развіцці. Усё больш вучоных уключаюцца ў працу над гэтым вынаходніцтвам. Пачынаюцца даследаванні па галаграфіі і ў Інстытуце фізікі Беларускай акадэміі навук.

З дапамогай галаграм лёгка атрымаць моцна павялічаныя адлюстраванні прадметаў. Галаграмы можна выкарыстаць замест мікраскопаў, што значна пашырае магчымасці даследавання нябачных для вока аб'ектаў. Пры гэтым галаграма можа быць знята ў рэнтгенаўскіх праменнях з недаступнай цяпер ступенню вырашэння, а адлюстраванне паказваецца ў бачным святле.

Замежны папулярны друк паведамляе, што чалавецтва знаходзіцца напярэдадні адкрыцця аб'ёмнага тэлебачання. Спецыялісты лічаць аб'ёмнае кіно і тэлебачанне зусім рэальнай справай, але песімістычна адносяцца да тэрмінаў яго ажыццяўлення. У прыватнасці, аўтар адкрыцця галаграм Д. Габар у мінулым годзе заявіў на канферэнцыі, што аб'ёмнае тэлебачанне атрымае распаўсюджанне толькі ў наступным стагоддзі.

Тым не менш, першыя галаграмныя фільмы ўжо зняты. Адзін з такіх фільмаў складаецца з шасцідзесяці кадраў, а яго дэманстрацыя цягнецца тры секунды. На працягу гэтага часу глядач бачыць аб'ёмнае адлюстраванне шара, які круціцца.

Далейшае развіццё лазернай тэхнікі, выкарыстанне лазерных праменняў замест радыёхваль для перадачы інфармацыі будзе садзейнічаць шырокаму ўкараненню галаграфіі ў розныя галіны навукі і тэхнікі і наблізіць дзень аб'ёмнага кіно і тэлебачання.

**Віктар ГРЫБКОЎСКІ,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук.**

# ПРА КАГО НІКОЛІ НЕ ЗАБЫЦЬ

**Шторм бушаваў так, што, здавалася, для нас ужо няма ратунку, нам не вырвацца з абдымкаў звар'яцелага акіяна. Хвалі, нібы зыбучыя белагрывыя горы, адна за адной абвальваліся на карабель, то ўздымаючы яго на страшэнную вышыню, то кідаючы ў белапенную бездань, дзе на імгненне наставала аглушальная цішыня. У гэтыя хвіліны зноў чуўся хрыпаты, як быццам увесь ён са шчылін, голас нарвежскага лоцмана, які вось ужо больш за суткі паўтараў адны і тыя ж словы:**

**— Трымаць у разрэзе хваль!..**

**Ногі ўвесь час слізгалі па палубе. Рукі дранцвелі на драўляных рагульках штурвала. Цела, даўно страціўшы гнуткасць, зрабілася чужым і непаслухмяным. І толькі ў адурманенай гойданкаю галаве засела адно: «Трымаць у разрэзе хваль!..»**

**Не ўтрымаеш, і — канцы: хвалі ўдараць у борт судна, нахіляць, потым перакуляць яго... Нам ніхто не здолее памагчы... На марской карце ў параходстве з'явіцца яшчэ адзін маленечкі кружок, які пакажа прыблізнае, а не дакладнае месца, дзе загінуў наш карабель... Вось чаму ўжо больш за суткі не пакідаюць мосціка нарвежскі лоцман і наш капітан, а мы з матросам Лёнем Антонавым, праз кожную гадзіну змяняючы адзін другога ля штурвала, трымаем, трымаем і трымаем судна толькі вострым носам уразрэз хвалям, што імчацца на яго.**


Аляксандр Міронаў.

**Недзе ў канцы другіх сутак Лёня не здолеў змяніць мяне ля штурвала: гэты моцны, жылісты хлопец зусім страціў сілы. «Каторая зараз**

гадзіна?» Але ці не ўсё роўна, колькі прайшло часу, калі ніхто больш не здолее мяне змяніць? Трэба... трымаць... у разрэз... І калі раптам усё скончылася, калі чорны скалісты мыс прыкрыў нас сваімі грудзьмі ад таго пекла, што засталося ззаду, я, здаецца, так і не пачуў голас лоцмана, які прагрымеў над самым вухам:

— Аддаць якар!..

...Ён ад'язджаў ад нас на золку, гэты прыземісты, шыракаплечы і хрыпатагалосы чалавек з перакрэслены зморшчынамі чырвоным тварам. Ён вельмі моцна паціснуў руку спачатку капітану, потым вахценнаму штурману, потым боцману. А маю, апухлую і бездапаможную, пашкадаваў і замест гэтага раптам выцягнуў з зубоў люльку, што дымілася пахучым, прыемным «кэптэнам», і, хутка абцёршы пальцамі яе цыбук, сунуў мне ў рот.

— Дзякуй,—сказаў ён і па штормтрапе саслізнуў уніз, у лоцманскі кацер, што чакаў яго.

Я не зразумеў, за што атрымаў падзяку. І не мог зразумець, чаму з таго часу наш зусім не ўсмешлівы капітан стаў звяртацца да мяне, хлапчука-рулявога, з такой павагаю на «Вы»...

А люлька нарвежскага лоцмана і цяпер жыве ў мяне: галава адважнага мушкецёра, магчыма Атоса, на ледзь выгнутым касцяным цыбуку... І з ёю жывуць іншыя люлькі: незвычайна прыгожая жаночая галоўка з французскага Гаўра; прамая, як удар баксёрскага кулака, з Лондана; фарфоравая, з чуйна застылымі аленямі, з Ратэрдама і таксама з аленямі, але якія бягуць, выразаная па дрэве, з Гамбурга. Іх шмат у мяне, люлек і муштукоў. І сябры называюць чамусьці гэта калекцыяй. *Але слова «калекцыя» — мёртвае слова*: не назавеш жа калекцыяй акварыум з рыбкамі розных парод ці вальер з птушкамі, колькі б іх там ні было. А люлькі, што жывуць у мяне, кожная з іх, і гады, і дзесяцігоддзі, хаваюць на сабе адбіткі пальцаў і на кончыках цыбукоў цеплыню губ ранейшых сваіх гаспадароў. І, час ад часу перабіраючы іх, *я зноў і зноў моўчкі вяду гутарку з* тымі, каго ніколі не забыць: з прысадзістым, шыракаплечым і чырванатварым нарвежскім лоцманам; з докерам Рэнэ Віньє з Гаўра; з лонданскім «кокні», які загінуў у баі пад Мадрыдам, Джымам Лаўрэнсам; з вясёлым барменам з матроскага шынка ў Ратэрдаме; з маладзенькім матросам Гансам Цыгенгетам, якога неўзабаве пасля нашай сустрэчы гітлераўскія штурмавікі забілі на прычале ў Гамбургскім порце...

І яшчэ ў мяне жывуць кактэбельскія камені. Кактэбельскія таму, што яны з аднайменнай бухты на Чорным моры, адзінай на ўсіх узбярэжжах нашай краіны і адной з дзвюх бухт на зямным шары, дзе мора выкідае на бераг сердалікі, агаты, тапазы, нефрыты і распісныя яшмы. А жывуць таму, што з кожным з іх абавязкова звязаны ўспамін пра сустрэчу, ці сустрэчы з людзьмі, якія могуць і яшчэ паўтарыцца, і не паўтарыцца больш ніколі... Пра нашу апошнюю сустрэчу з Міхаілам Святловым, калі мы амаль адначасова ўбачылі вось гэты сонечна-ружовы, увесь у пунсовых прожылках сердалік на залаціста-пясчаным беразе... Пра тое, як мы з Леанідам Мартынавым яшчэ і яшчэ раз ныралі ў халаднаватае мора, дзе, амаль не захлынуўшыся ад радасці, я падняў са дна вось гэты напоўнены таямнічым блакітам тапаз... І як разам з Платонам Варанькбм знайшлі гэты агат, што распісаны фантастычнымі ўзорамі, хоць ні ён, ні я ў той дзень не збіраліся шукаць камені.

«Калекцыя»—мёртвае, я сказаў бы, музейнае слова. А люлькі жывуць. І жывуць камені. І як жа хораша, што яны ніколі не дазволяць згаснуць памяці пра тых, без каго жыццё было б бяднейшае і сушэйшае, чым яно ёсць.

Аляксандр МІРОНАЎ.

# ГІСТОРЫЯ РУБЛЁЎ

Манеты — гэта гісторыя. Нумізмат — калекцыянер манет — калі па-сапраўдному захапляецца, вывучае і гісторыю. З кожнай манетай звязана тая ці іншая падзея, і, такім чынам, у нумізмата ёсць яшчэ адна калекцыя, калекцыя гістарычных фактаў і падрабязнасцей.

Старажытныя рымляне верылі ў мноства багоў, сярод якіх самымі галоўнымі былі Юпітэр і яго жонка Юнона Манета (настаўніца). Каб заслужыць міласць багоў і дабіцца поспехаў у вайне, трэба было прыносіць ім ахвяры. І рымляне не скупіліся. На самым высокім, Капіталійскім, узвышшы ў цэнтры Рыма быў збудаван храм у гонар Юноны Манеты. У гэты час старажытны Рым вёў доўгую вайну з царом Эпіра Пірам. У апошняй жорсткай сутычцы Пір быў пераможан. Усе трафеі, адабраныя ў ворага, ахвяравалі Юноне. Самыя лепшыя вершы напісалі паэты ў яе гонар. Рашэннем закону пастанавілі чаканіць грошы толькі ў храме Юноны Манеты. З тае пары ў Рыме і іншых краінах металічныя грошы называюць манетамі.

Аб манетах Расіі можна пісаць цэлыя кнігі. Вялікае шчасце звалiцца на таго, хто знойдзе старажытныя літыя манеты часоў Кіеўскай Русі. Праўда, і на тэрыторыі нашай рэспублікі іх знаходзілі (толькі не калекцыянеры). А яшчэ больш раннімі плацёжнымі знакамі з'яўляліся грыўні. Грыўнямі называліся прыгожыя жаночыя ўпрыгожанні на шыю, «на загрыву». Нагадвалі яны сабой няпоўны абруч. Различваючыся за тавар, іх рубілі на кавалкі, а канцы кляймілі асобнымі меткамі, для страхоўкі ад прапажы.

Першыя літыя круглыя манеты — срэбранікі і златнікі — стаў выпускаць кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч. Надпіс на крузе: «Владимир, а се его серебро» (ці золата). Гэтыя манеты нагадваюць сабой візантыйскія. З Візантыяй, як вядома, старажытная Русь мела культурную і эканамічную сувязь. Манет тых часоў засталося вельмі мала.

Нашэсце манголаў надоўга затрымала развіццё культуры. Большая частка рускіх княстваў ляжала ў руінах. Амаль увесь гэты перыяд лічыцца безманетным. І толькі пасля перамогі Дзмітрыя Данскога над татарамі на Куліковым полі ў 1380 годзе аднаўляецца чаканка рускіх манет, якія па сваяму знешняму выгляду заставаліся нязменнымі на працягу наступных трох стагоддзяў. Пры Пятры І, калі Расія стала адной з вядучых дзяржаў у Еўропе, узнікла пытанне аб грашовай рэформе. Дробныя грошы было марудна лічыць. Пры невялікіх мясцовых разліках даводзілася разразаць на часткі вельмі малую «дзеньгу», ці капейку. У 1700 годзе выйшлі медныя грошы вартасцю ў адну «дзеньгу», палушку ($^1/_2$ дзеньгі) і паўпалушкі ($^1/_4$ дзеньгі). Срэбраныя ж капейкі выпускаліся і далей. Да іх прывыкла насельніцтва. Каб больш падняць давер да медных грошай, у 1701 годзе пачалі рэгулярна чаканіць срэбраныя паўрублі (палціны), паўпалціны (25 кап.), грыўні (10 кап.) і дзесяць дзенег (5 кап.). У 1704 годзе былі выпушчаны першыя срэбраныя рублі і алтыны (3 кап.) разам з меднымі капейкамі. З 1710 года пачаўся выпуск круглых срэбраных капеек. Так паступова медныя грошы ўвайшлі ў быт. Дзесяцічная грашовая сістэма з'явілася самай зручнай сістэмай, і многім дзяржавам значна пазней прыйшлося яе параймаць.



Павел Казей.

Пятру І належыць і ідэя ўвядзення ў Расіі Юліянскага календара. Да гэтага часу летазлічэнне вялося «ад стварэння свету». Вам, напрыклад, трапілася манета, на якой год пазначан славянскімі літарамі. Які ж гэта год? Трэба ведаць, што кожная літара азначае лічбу. Пераўёўшы літары алфавіту ў лічбы, атрымаем, напрыклад, 205. Як тут зразумець? Справа ў тым, што лічбы, якія азначаюць стагоддзе, не пісаліся, а чытаць трэба 7205. Каб перавесці на сённяшняе летазлічэнне, трэба ад 7205 аднясць 5508. Выйдзе, што манета чаканілася ў 1697 годзе. На працягу амаль дваццаці гадоў паперамена рабілі надпіс то арабскімі лічбамі, то славянскімі літарамі, а то і ўперамешку, каб народ зразумеў сэнс упершыню ўведзеных лічбаў.

У той час у Еўропе вялікія і малыя дзяржавы, самастойныя гарады рабілі на сваіх манетах надпісы на лацінскай мове. Расія на гэта не пайшла. На пытанне іншаземца, «Як жа будуць чытаць рускі надпіс за мяжой?», Пётр І адказаў: «Я б хацеў, каб за мяжой зусім не бачылі рускіх грошай». Разумны быў гаспадар.

Пасля смерці Пятра І засталося вельмі многа рублёвых манет з яго адлюстраваннем (больш за 200 раз-

навіднасцей), якія сёння не так часта сустракаюцца. На першых грошах ён выглядае маладым хлопцам, пазней — дзецюком, яшчэ пазней — ужо больш сталым мужчынам. Пры ім з'явіліся надпісы: «манета добрая» або «манета новая цана рубель». Для непісьменных разам з усялякімі надпісамі былі адбіты кропкі, якія адразу ж кідаліся ў вочы. На грыўні 10 кропак, на пятаку — 5, на алтыне — 3, на капейцы — адна.

У канцы царавання Пятра І медныя капейкі зменшыліся памерам, «дзеньгі» таксама, на палушках ужо не хапала месца пісаць поўныя словы — пісалі толькі першыя літары слоў. Фальшываманетчыкі пачалі падрабляць грошы. Пры Анне Іаанаўне «дзеньгі» былі ўдвая большыя за пятiроўскія капейкі. Былі выпадкі, калі капейкі раптам павялічваліся ў 5 разоў, а пры Мікалаі І на медных манетах нават зрабілі надпіс: «3 капейкі срэбрам». Усё гэта няцяжка ведаць, пазнаёміўшыся з гістарычнымі падзеямі тых часоў.

Сёння рэдка дзе сустрэнеш грыўні часоў Кацярыны І, бо князь Меншыкаў прыдумаў такую «кампазіцыю» з металу, што на складзе манеты ператвараліся ў вадкае месіва. Разбіўшы Фрыдрыха, рускія войскі ў 1760 годзе занялі былі першы раз Берлін і ўстанавілі для Прусіі асабныя манеты. Розныя наміналы гэтых грошай былі адчаканены на працягу двух год. Пазней былі спецыяльныя грошы для Прыбалтыкі, Малдавіі, Сібіры, Грузіі, Польшчы і Фінляндыі.

З 1828 года па 1845 год толькі ў Расіі чаканіліся плацінавыя трох-, шасці-і дванаццацірублёвыя манеты, якія так і не знайшлі шырокага карыстання. Выпускаліся ў розны час юбілейныя рублі, якія з'яўляюцца ўнікальнымі. Апошні раз рублёвыя манеты — 600 штук — чаканіліся ў 1915 годзе.

Пасля перамогі Кастрычніка прыйшлі новыя манеты — грошы новай дзяржавы. Савецкі рубель сёння з'яўляецца самай стойкай і гарантаванай манетай ва ўсім свеце.

Павел КАЗЕЙ,
мастак.

# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ СКАРБЫ

Так ці інакш, хто жартам, а хто ўсур'ёз, людзі захапляюцца збіраннем, сістэматызацыяй цікавых рэчаў. Калі іх пытаюць, для чаго яны гэта робяць, яны разгублена разводзяць рукамі; «Проста так. Цікава...» Ды яшчэ дададуць: «Гэта маё захапленне».

Вось захапленне кандыдата медыцынскіх навук хірурга Васіля Іванавіча Калядзы. На думку спецыялістаў, ён стварыў найцікавейшую калекцыю гузікаў, значкоў, іголак, костачак, манет, куль і іншых, як яны кажуць, «іншародных» рэчаў, вынятых ім са страваводаў і дыхальных органаў людзей з дапамогай створаных ім жа самім інструментаў. Гэтыя прадметы складаюць ужо калекцыю не «для сябе» — яны з'яўляюцца каштоўным дапаможнікам, які выкарыстоўваецца інстытутам удасканалення ўрачоў.

А збіранне фотаздымкаў Мінска — гэта ўжо сапраўднае захапленне. Калекцыя гэта старанна сістэматызавана, усе фатаграфіі маюць дакладныя апісанні і даты. Большасць здымкаў Васіль Каляда рэпрадуцыраваў, а негатывы перадаў у Дзяржаўны архіў.



Васіль Каляда яшчэ хлапчуком прачытаў нейкую кнігу аб гісторыі асобных старых кварталаў Мінска і захапіўся «гістарычным пошукам». Спачатку гэта было зусім наіўна. Хадзіў па Нямізе, па Ніжнім базары, па Замкавай вуліцы, прыглядаўся да ўсяго. У цёмных закутках пры святле ліхтарыка на тынкоўцы шукаў «таямнічыя знакі», уважліва разглядаў тратуарныя пліты, адпаліраваныя нагамі пешаходаў «усіх часоў». Падабаліся вежы — званіцы, гадзіннік на ратушы. Здавалася, што яны, «пазіраючы зверху на горад, усё помняць»... Калі трапляла ў рукі паштоўка з відам аблюбаваных будынкаў — разлучыцца з ёй ужо не мог. Стаў збіраць кнігі з малюнкамі пра Мінск. Захапіўся ўсур'ёз гісторыяй роднага горада.

Пра захапленне Васіля Іванавіча многія добра ведаюць, стараюцца памагчы яму. Калекцыя магла б расці хутка, але іменна цяпер для яе амаль не застаецца часу. Лячэбная работа ў клініцы, заняткі, якімі ён кіруе ў інстытуце, дапамога калегам з другіх лячэбных устаноў, часта тэрміновыя аперацыі — вось далёка не поўны пералік штодзённых клопатаў.

Для захаплення застаецца вечар. Калекцыянер сядзіць за сталом, заваленым кнігамі, папкамі і канвертамі з фатаграфіямі, з негатывамі. Сёння яго скарб папоўніўся рэдкімі фатаграфіямі. Сярод іх — некалькі здымкаў Мінска, разбуранага вайной: панарама руін на месцы новага будынка музея Гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, будынак Дома афіцэраў у агні, груды цэглы, пагнутыя жалезныя бэлькі, нейкая расліна, што вырасла на камені...

Яшчэ здымкі. Ім больш за шэсцьдзесят год. Серыя, зробленая рознымі людзьмі, але яна складае адзінае цэлае — рэпартаж пра падзеі аднаго дня.

1905 год. Натоўп на цяперашняй плошчы Свабоды перад домам губернатара. Мінчане сабраліся, каб выслухаць паведамленне аб лютаўскім маніфесце. Мінчане яго не проста выслухалі. Яны патрабавалі вызваліць з турмы палітычных зняволеных.

На наступнай фатаграфіі — людзі імкліва рухаюцца па вуліцы, якая цяпер называецца Інтэрнацыянальнай, да турмы. Губернатар вымушаны быў выказаць патрабаванне народа.

І зноў мы становімся як бы сведкамі тых падзей. Бачым натоўп перад турэмнымі варотамі. Змагары за свабоду хутка будуць на волі. Вызваліўшыся, яны ўзначаляць мітынг. Гэта палітычная дэманстрацыя адбылася на прывакзальнай плошчы і выклікала перапалох сярод мінскай буржуазіі. Царскі паслугач губернатар Курлоў загадаў расстраляць натоўп.

Перад намі фатаграфія: група перабінтаваных мужчын і жанчын. Гэта тыя, хто яшчэ змог пакінуць плошчу. А многія засталіся ляжаць на бруку.

І ў заключэнне — фатаграфія помніка ахвярам курлоўскага расстрэлу: маленькі абеліск, які стаяў да вайны перад вакзалам...

Яшчэ здымкі. Больш далёкіх год. Аднапавярховыя домікі ў цэнтры горада, капліцы, прытулкі, рамізнікі, якія пазяхаюць без справы, абрысы сасновага лесу на цяперашнім скрыжаванні Ленінскага праспекта з Даўгабродскай вуліцай...

Потым быццам уключаецца машына часу. Перад намі ўзнікаюць здымкі аднаго і таго ж месца, зробленыя з прамежкамі ў два-тры дзесяцігоддзі.

Там, дзе цяпер Цэнтральная плошча, стаяць «даходныя дамы» губернскай знаці. Тут жа будынак кінатэатра «Пралетарый», перад ім трамвайныя рэйкі; сярод пешаходаў — студэнцкая моладзь.

Поле, на якім дзеці збіраюць васількі. На тым жа месцы — мікрараён «Зялёны луг».

Многія здымкі зроблены самім гаспадаром калекцыі. Так, ён выступае не толькі ў ролі збіральніка, але і сучаснага летапісца. У дні святкавання 900-годдзя Мінска многія экспанаты яго калекцыі вялікімі тыражамі размножаны ў лабараторыях Дзяржаўнага архіва кінафотадакументаў і фотахронікі БелТА.

Цяпер Васіль Іванавіч рыхтуе новую серыю рэпрадукцый, якія з цікавасцю будуць сустрэты супрацоўнікамі рэдакцый, клубаў, бібліятэк у сувязі з 50-годдзем Вялікага Кастрычніка.

Здаецца ўсё?

Не, пра калекцыянера Каляду, уладальніка незвычайных скарбаў, хочацца сказаць яшчэ некалькі слоў. Васіль Іванавіч вельмі сціплы чалавек і толькі зусім выпадкова прагаварыўся аб тым, што паціху збірае яшчэ і значкі, медалі, старажытныя ордэны. У яго, напрыклад, захоўваецца медаль, прысвечаны вызваленню сялян ад прыгоннага права, а таксама адзін з першых медалёў з эмблемай 50-годдзя Савецкай улады. Ён быў зроблены ў сакавіку ў лабараторыі парашковай металургіі політэхнічнага інстытута для ўдзельнікаў Усесаюзнай канферэнцыі студэнцкіх навукова-тэхнічных таварыстваў, якая праходзіла ў Мінску.

Навошта хірургу і гісторыку збіраць значкі і медалі?

Ён разводзіць рукамі, быццам просячы прабачэння, чырванее і гаворыць:

— Проста так... для сябе. Усё ж, цікава...

**Аляксандр ДЗІТЛАЎ.**

Фота аўтара.

## НАДЗЕЙНАЯ КРЫНІЦА ВАЛЮТЫ

**Для насельніцтва Індыі такой крыніцай з'яўляюцца... валасы. Адзін амерыканскі канцэрн закупіў з Маямі па кантракту на 22,7 мільёна долараў парыкоў. Каля Мадраса будуецца спецыяльная фабрыка для выпуску парыкоў. 50 тон валасоў у год будзе паступаць сюды з індыйскіх храмаў: адзін з абрадаў рэлігіі хінду прадугледжвае брыццё галавы.**

**Некаторыя рэлігійныя абшчыны, напрыклад, брамінь і садху, брыюць галаву нагала або пакідаюць касіцу. Перш чым аддаць пашану памёршаму бацьку, старэйшы сын таксама брые галаву. Студэнты робяць гэта пасля здачы экзаменаў, некаторыя — калі сваяк вылечыцца ад цяжкай хваробы.**

**У індыйскіх жанчын валасы бываюць часам да кален або да зямлі. Доўгія валасы — галоўнае іх багацце і самая вялікая ахвяра богу.**

**Ужо цяпер Індыя пастаўляе валасоў заходняй Еўропе на суму 1,3 мільёна долараў у год.**



*Старты* і фінішы

# ДУЭЛЬ

Пасля гэтай дуэлі не бывае ахвяр. Праціўнікаў раздзяляюць дваццаць пяць метраў. З аднаго боку чалавек, які паволі ўзнімае пісталет. З другога — пяць чорных амаль у чалавечы рост сілуэтаў. Ім не зазірнеш у вочы, бо яны павернуты да стралка рубам. А той стаіць моўчкі. Хто ведае, пра што ён думае ў гэтыя хвіліны. Самога яго пра гэта не спытаеш: яму не да размоў. Ён будзе стаяць так, пакуль не адчуе, што ўся яго ўвага сканцэнтравалася ў адным промні, нібы народжаным фантастычным гіпербалоідам. Гэты прамень праходзіць праз руку, праз ствол пісталета, праз мушку і ўпіраецца ў тую адну-адзіную кропку, дзе праз кароткае імгненне акажацца цэнтр сілуэта. Тады чалавек кідае коратка, нібы пальчатку, адно слова:

— Гатоў!

Дзесьці збоку націснута на пульце кнопка. Пяць сілуэтаў аднагасова паварочваюцца. Цяпер яны прыцэліліся адзін у аднаго, пяць чорных мёртвых вачніц і два жывыя вокі чалавека. Дакладней, нават адно чалавечае вока: другое ён прыжмурыў. Але спяшацца чалавеку нельга. Калі хоць адна выпушчаная ім куля прасвішча міма мішэні, ён будзе перамножаны. У гэтым увесь сэнс: не страціць ніводнай долі секунды! Меткасць павінна быць самай дакладнай, і ў той жа час нельга страціць ні імгнення з адведзенага тэрміну.

Нібы кароткая кулямётная чарга, гучаць пяць стрэлаў. У цэнтры кожнага сілуэта ўзнікае адтуліна. Мішэні зноў паварочваюцца рубам да стралка. Аднак дуэль не скончана. Адбылася самая лёгкая яе частка. Надыходзіць час, і зноў пачынаецца паядынак чалавека з сілуэтамі. Ён працягваецца ўсяго шэсць секунд. Але і гэта яшчэ не ўсё. Застаецца апошняя сутычка — чатырохсекундная. Удумайцеся — менш секунды на стрэл! А патрабаванні тыя ж — ніводнага промаху, і чым бліжэй прабоіна да цэнтра мішэні, тым даражэй расцэньваецца стрэл.



Ігар Бакалаў на трэніроўцы.
Фота **Д. Церахава.**

Заўтра паўторыцца ўсё спачатку.

72 секунды, 60 стрэлаў — такая кароткая формула бою, праграма гэтай дуэлі, што доўжыцца два дні. Афіцыйная яе назва: скарасная стральба па сілуэтах. Спартсмены ж завуць яе карацей і нават крыху па-панібрацку: «алімпійка».

Аднойчы майго даўняга сябра Ігара Бакалава, чэмпіёна свету і рэкардсмена Савецкага Саюза, спыталі, як трэба страляць «алімпійку». Ігара не адразу зразумееш, гаворыць ён сур'ёзна ці жартуе, таму што ў кожную сур'ёзную размову ён абавязкова дасць некалькі кропляў гумару. Ігар адказаў:

— У васьмісекунднай серыі абавязкова трэба выбіць сто ачкоў са ста магчымых...— Тут ён на хвіліну задумаўся.— У шасцісекунднай лепш таксама сто са ста... Ну а ў чатырохсекунднай — як атрымаецца.

Нядаўна на спаборніцтвах з кубінскімі сябрамі ў Гаване ў Ігара атрымалася 599 ачкоў з 600. Вынік амаль немагчымы! Толькі незахаванне нейкіх фармальнасцей не дазволіла зарэгістраваць яго як сусветны рэкорд.

Давайце паспрабуем уявіць сабе, а што ж гэта такое — 599 ачкоў у «алімпійцы»? Крыху зоймемся матэматыкай, хоць электронна-вылічальная машына нам не спатрэбіцца. Хопіць ведаў, скажам, за восем класаў.

599 ачкоў. Значыць — страчана толькі адно... Выконваючы параду Ігара, васьмісекундныя і шасцісекундныя серыі адкінем. Там можа быць толькі максімум — адны суцэльныя «дзесяткі». Страта прыпадае на чатырохсекундныя серыі. Але і там дваццаць стрэлаў. Значыць, і з іх дзевятнаццаць прыйшліся на «дзесяткі». Супаставім яшчэ раз усе лічбы: за 72 секунды 59 разоў папасці ў цэнтр мішэні і толькі аднойчы — крыху у баку ад цэлі! Гэта нават не адразу ўцяміш, але іменна так усё і было. Чалавек, якому пад сілу здзейсніць такое, павінен быць надзелены нейкімі звышякасцямі. Але ў тым і ўся справа, што Ігар Бакалаў ніякі не звышчалавек. Праўда, у яго многа якасцей, не зусім звычайных.

Меткасць і бездакорнае валоданне зброяй. Гэта для стралка аксіёма. Кім бы ён ні быў, «стандарцістам» ці «аленебоем»: у кулявой стральбе практыкаванняў і спецыяльнасцей не пералічыш! Якой бы зброяй стралок ні карыстаўся, баявою вінтоўкай ці рэвальверам, ён абавязаны валодаць імі бездакорна.

Майстры зброі паклапаціліся пра спартсмена. Пісталет Ігара не падобны ні на славуты трафейны «вальтэр», за якім так ганяліся нашы разведчыкі ў мінулую вайну, ні на той злашчасны інструмент, з якога некалі Анегін паставіў апошнюю кропку ў жыццяпісе Ленскага. У гэтага — масіўная драўляная рукаятка, падагнаная да рукі стралка самым дасканалым чынам, бо з кісці рукі нават здымалі гіпсавы злепак. Зброя надзейна прыстраляная. Не падвядуць і спецыяльныя спартыўныя патроны. Справа за табой, стралок: трэніруйся, даводзь свае навыкі да аўтаматызму!

Што яшчэ трэба мець стралку? Абвостранае адчуванне рытму. Пісталетчыку няма калі пазіраць на хранометр. Ён абавязаны без усялякіх прыбораў адчуваць зусім дакладна, колькі гэта будзе восем секунд, шэсць, чатыры, і размяркоўваць гэтыя секунды па-гаспадарску. Паспяшаешся — у спешцы ўздрыгне рука. Ледзь спознішся — сілуэты павернуцца ўжо рубам, і тады хоць у паветра страляй.

Гэтае адчуванне не даравана прыродай. Яно фармуецца, выпрацоўваецца настойлівымі практыкаваннямі, што паўтараюцца сотні, а то і тысячы разоў... Магчыма, усё гэта выглядае аднатонна, сумна. Але ж затое якія вынікі!

Мне ўспамінаецца гісторыя з кінанарысам, які выпусціла пра Ігара студыя тэлебачання. У «нямой» стужцы былі кадры, знятыя шырокім планам: у руцэ пісталет, палец націскае на спуск, вылятаюць пустыя гільзы. На тэлебачанні задумалі «агучыць» кадры, каб гукі стрэлаў дакладна супадалі з рухамі стралка на экране. Пасля працяглых пошукаў вырашылі ўсё проста: у дзень перадачы запрасілі Ігара на студыю, далі яму ў руку стартавы пісталет, і, калі паплылі кінакадры — загучалі стрэлы. А пасля нават самы прыдзірлівы тэлеглядач не здагадаўся, што яго крышачку падманулі — гук і рухі на экране супадалі бездакорна. Ігар дубліраваў сам сябе.

У кожнага спартсмена бываюць нейкія імгненні, нейкія хвіліны асаблівага душэўнага і фізічнага ўздыму. Тады спрынтэр развівае рэкордную хуткасць, баскетбаліст без промаху паражае кольца, а варатар парыруе «гарматныя» ўдары, скіраваныя ў верхнія вуглы варот. Магчыма, гэткае пачуццё знаёма і стралку, але ён, як ніхто іншы, вымушаны кантраляваць сваё натхненне. Можа ўсё кіпець унутры, нараджаючы нейкую дадатковую энергію, а дзеянні павінны заставацца такімі ж: дакладнымі, упэўненымі, спакойнымі. Бо ў ціры ўсё застаецца ранейшым: тая ж мішэнь, тая ж адлегласць, тая ж зброя, тыя ж секунды. Вынікі заўсёды аднолькавыя: «дзесятка», «дзесятка», «дзесятка». Лепш не бывае. Вось чаму стралок павінен быць заўсёды спакойны і заўсёды кантраляваць сябе. Тым больш той, хто выбраў «алімпійку», з яе «рваным» рытмам, які ўвесь час паскараецца.

Ігара Бакалава часта на спаборніцтвах у перапынку паміж двума серыямі стральбы бачылі з падручнікам у руках. Ні перадстартавыя хваляванні, ні гукі стрэлаў яму не перашкаджалі. Інакш ён не мог. Каб паспяхова займацца стральбою і вывучаць радыётэхніку, патрэбна знаходзіць час: для вучобы ў прамежках паміж выклікамі на агнявы рубеж, для трэніровак — адрываючыся ад стала, заваленага падручнікамі.

Неяк дома ў Ігара я заўважыў ціка-

вую рэч: гэткія ж сілуэты, што і ў ціры, толькі зусім малюсенькія.

— Цацкі, ці што?

— Якія тут цацкі! — усміхнуўся Ігар.— Самая сапраўдная трэніровачная ўстаноўка. Прыдумаў яе Рэнат Сулейманаў — трохразовы чэмпіён СССР на «алімпійцы» і кандыдат матэматычных навук. Кажа, што тут, як у элементарнай тэарэме, падабенства: меншая дыстанцыя, адпаведна паменшаныя і сілуэты. Толькі ў Рэната меншы брат сілуэты за вяровачку тузаў, каб паварочваліся, а я ўсё крыху ўдасканаліў.

І стралок паказаў заціснуты ў далоні кнопачны выключальнік, ад якога да сілуэтаў цягнуўся провад. Ігар сам сабе скамандаваў, і пяць разоў запар націснуў на спуск, ледзь прыкметна пераводзячы руку справа налева. Толькі стрэлаў, вядома, у пакоі не было. Вось гэткая трэніроўка ўлегцы замяняе Ігару адпачынак. І карысна і зручна.

Сёлета Бакалава чакаюць дзве сесіі — адна звычайная, студэнцкая, другая — спартыўная, юбілейная Спартакіяда народаў СССР. Яго трэнер — двухразовы чэмпіён другой Спартакіяды народаў — Георгі Валынскі гаворыць:

— Калі Ігар здолее на спартакіядзе паўтарыць свой кубінскі вынік, можам смела ехаць на алімпіяду ў Мехіка па золата...

...Мы сядзім з Ігарам Бакалавым на траве ў ляску каля стрэльбішча спартыўнага клуба. Звычайны трэніровачны дзень. Я пытаюся:

— Як ты думаеш, здолее хто-небудзь калі-небудзь выбіць шэсцьсот з шасцісот?

Ігар усміхаецца:

— А як ты думаеш, скокнуць вышэй за Брумеля?

— Напэўна, скокнуць.

— А паднімаць больш за Жабацінскага будуць?

— Таксама будуць.

— Дык чым жа стралкі горшыя?

Некалькі хвілін маўчым. Пасля я зноў пытаюся:

— Што ж тады — смерць «алімпійцы»?

Ігар рашуча круціць галавой:

— Чаму ж? Можна сілуэты зрабіць меншыя. Можна іх аддаліць ад стралка. Шмат чаго можна прыдумаць, каб «алімпійка» жыла.

Так, напэўна, у гэтым сутнасць спорту і яго вабнай сілы, што межаў удасканалення не існуе...

Міхаіл СУПАНЕЎ.

# У БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ

**вершы Марыі БАРАВІК, Івана ЛЕТКІ, Уладзіслава НЯДЗВЕДСКАГА, Рыгора СЕМАШКЕВІЧА.**




# НАСУСТРАЧ СПАРТАКІЯДЗЕ

На III Спартакіядзе народаў СССР беларускія шахматысты дасягнулі вялікага і нечаканага поспеху, заваяваўшы трэцяе прызавое месца і пакінуўшы за сабою моцныя калектывы Ленінграда, Украіны, Латвіі, Эстоніі.

На IV юбілейнай Спартакіядзе народаў СССР у каманду Беларусі ўвойдуць, здаецца, тыя ж майстры. У спіс кандыдатаў уключаны — гросмайстры Ісак Баляслаўскі і аўтар гэтых радкоў, міжнародныя майстры Гаўрыла Верасаў і Кіра Зварыкіна, майстры Абрам Ройзман і Аба Шагаловіч. Дастаткова месц атрымаюць у камандзе і маладыя шахматысты рэспублікі, не гаворачы, вядома, пра дошкі юнакоў і дзяўчат. У лік лепшых увайшлі мінчанкі — майстар Тамара Галавей і першаразрадніца Галіна Арчакова, майстар Альберт Капенгут, здольныя кандыдаты ў майстры Рыгор Крупскі (Гомель), Уладзімір Літвінаў, Фелікс Пятруша (Магілёў).

Як і раней, большасць кандыдатаў у зборную — мінчане. Бо, як і раней, у некаторых абласцях няма шахматных клубаў. Толькі Гомель і Гродна маюць добрыя клубы. Зусім нядаўна свой клуб атрымалі шахматысты Віцебска. А вось у Брэсце і Магілёве ніяк не ўдаецца адкрыць клубы, і гэта адмоўна ўплывае на шахматнае жыццё абласцей.

Прайшло амаль чатыры гады з часу III Спартакіяды народаў СССР. На жаль, камандных сустрэч за гэты час было зусім недастаткова. Як ні парадаксальна, ні разу не было арганізавана першынство краіны паміж рэспубліканскімі камандамі, недастаткова было і таварыскіх камандных сустрэч. Праўда, тройчы сустракалася беларуская каманда з камандай ГДР і ў выніку атрымала значную агульную перамогу, хоць апошняя сустрэча ў Мінску закончылася пройгрышам (з невялікай розніцай ачкоў).

Такім чынам, для ацэнкі спартыўнай формы нашай каманды асноўным трэба лічыць асабістыя вынікі ў тых ці іншых сустрэчах, і перш за ўсё ў спаборніцтвах усесаюзнага ўзроўню. І стан трэніраванасці мужчынскага складу каманды (а мужчын — большасць у ёй) выклікае законны неспакой. Так, у паўфіналах першынства краіны за гэтыя чатыры гады колькасць беларускіх майстроў была вельмі малая, два разы прымаў у іх удзел Капенгут (пры гэтым у якасці прадстаўніка Латвіі) і па адным разе Верасаў, Ройзман і Шагаловіч. І гэта тады, калі штогод, апрача гросмайстраў, Беларусі давалася, як мінімум, два месцы. Зрабілася звычкай адмаўляцца ад адказных спаборніцтваў.

На жаночых дошках у гэтых адносінах становішча лепшае. Здаецца нават, што тут мы маем амаль што некаторыя рэзервы кадраў. Што ж, гэта нядрэнна! Добрыя рэзервы заўсёды добрая рэч. Апрача вопытнейшага ігрока Кіры Зварыкінай, ёсць Тамара Галавей і Галіна Арчакова, фіналісткі двух апошніх год.

Як заўсёды, цяжка гаварыць пра перспектывы юных шахматыстаў. Асабліва пра дошкі дзяўчат. Магіляўчанка Л. Стольнікава, бясспрэчна, здольная шахматыстка, але яна адарвана ад сталічнага шахматнага жыцця, і ёй, вядома, не хапае практыкі. Іншая справа з Віктарам Купрэйчыкам. Ён — адзін з самых здольных юных майстроў краіны наогул. Званне майстра атрымаў, калі яму было пятнаццаць год. Цяпер Купрэйчык — студэнт першага курса факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Можна з упэўненасцю сказаць, што

**ён добра будзе абараняць гонар рэспублікі на юнацкіх дошках. І таму зусім незразумела абмежаванне, прынятае камісіяй, каб удзел у юнацкай зборнай прымалі толькі тыя, хто нарадзіўся ў 1947—1948 гадах. Такім чынам атрымліваецца, што Купрэйчык, які нарадзіўся ў 1949 годзе, яшчэ «не дарос» да юначага ўзросту!.. Дарэчы, у гэтых адносінах нам літаральна не шанцуе: і другі па сіле юнак Беларусі — Уладзімір Дыдышка — не падыходзіць, бо нарадзіўся таксама ў 1949 годзе... Трэба спадзявацца, што Федэрацыя шахмат СССР скасуе такое недарэчнае абмежаванне, тым больш, што цяпер па ўсёй краіне з'явілася цэлая плеяда здольных шахматыстаў семнаццаці-, васемнаццацігадовага ўзросту. Дарэчы, і Нона Александрыя таксама 1949 года нараджэння.**

**Федэрацыя шахмат Беларусі, улічваючы неабходнасць практычнай трэніроўкі зборнай каманды, прызначыла шэраг камандных сустрэч у адпаведнасці з праграмай Спартакіяды народаў СССР. Адбыліся матчы з шахматыстамі Ленінграда і Арменіі. Склад каманд быў вызначаны з улікам выступлення на спартакіядзе— шэсць мужчын, дзве жанчыны, юнак і дзяўчына. Першы з гэтых матчаў адбыўся ў Ленінградзе з 18 па 20 сакавіка. На жаль, з каманды Беларусі не прысутнічалі гросмайстар І. Баляслаўскі і юны майстар В. Купрэйчык. І ўсё ж ленінградцы атрымалі перамогу не без цяжкасцей. Больш таго, першы дзень быў пераможным для беларускай каманды з лікам 6 : 4, і толькі другі дзень прынёс поспех, і значны, ленінградцам, якія выйгралі з агульным лікам 11,5 : 8,5.**

**Адразу ж пасля матча з ленінградцамі ў Мінску мы прымалі прадстаўнікоў Арменіі. На гэты раз перамога была за намі. Матч быў выйграны ўжо ў першы дзень сустрэчы, калі мы атрымалі 8,5 ачка супраць 1,5. На другі дзень армянская каманда гуляла з вялікай упартасцю, і лік гэтага дня быў 5 : 5. Агульны лік 13,5 : 6,5 замацаваў нашу перамогу.**

**Цяпер на чарзе традыцыйная камандная сустрэча з шахматыстамі ГДР. У плане падрыхтоўкі да IV Спартакіяды народаў СССР — наш візіт да ўкраінскіх шахматыстаў.**

**Існуе думка, што ў спорце значна цяжэй утрымацца на дасягнутых пазіцыях, чым атрымаць перамогу. Гэта думка вельмі і вельмі стасуецца да каманды Беларусі, якая ўлічвае ўсе цяжкасці, што стаяць на яе шляху да спартакіяды і могуць ўзнікнуць на самой спартакіядзе. Мы поўныя рашучасці зрабіць усё, каб выйсці ў фінальны турнір.**

**Старшыня шахматнай федэрацыі Беларусі,**
**міжнародны гросмайстар,**
**Аляксей СУЭЦІН.**

# У ГОМЕЛЬСКІХ ШАХМАТЫСТАЎ

Вельмі прыемна наведваць Гомельскі шахматны клуб. Невялікае, але ўтульнае памяшканне прываблівае аматараў шахмат, якіх кожны вечар тут многа. Клуб вядзе арганізацыйную работу. Вынікі яе суцяшальныя—у самім Гомелі і ў вобласці налічваецца звыш трох тысяч шахматыстаў другога і трэцяга разрадаў. Ёсць і шахматысты вышэйшай кваліфікацыі: 16 кандыдатаў у майстры і 200 першаразраднікаў. Гэта заслуга старшыні Гомельскай федэрацыі шахмат Расціслава Лазучэнкі, які працуе інжынерам аблвыканкома, і дырэктара шахматнага клуба, інваліда Вялікай Айчыннай вайны Аркадзя Іофэ.

Клуб налічвае 298 пастаянных членаў. У яго актыве вядучыя кандыдаты ў майстры: Рыгор Крупскі, Аркадзь Палікарпаў, Абрам Шумахер, Міхаіл Царанкоў. Разам з імі шчыра працуюць такія заўзятыя аматары, як ветэран жаночых шахмат Гомеля Вера Мікалаеўна Ільіна—нязменны суддзя гарадскіх і абласных спаборніцтваў, першаразрадніца Галіна Іванаўна Хахлова—інжынер завода электраапаратуры, дэпутат Гомельскага гарадскога Савета.

Нельга не спыніць увагу і яшчэ на двух актыўных прапагандыстах шахматнай справы. Рабочы-друкар Майсей Бабіцкі, які сорак год правёў каля станка, быў удзельнікам міжнароднага рабочага турніру ў Ленінградзе ў 1928 годзе. Летась ён атрымаў першы разрад. Рудольф Ядруханскі адначасова майстар спорту па штанзе, бронзавы прызёр рэспублікі 1966 года, і майстар-шахматыст.

Гомельскі шахматны клуб не адзіны ў вобласці. Актыўна працуюць клубы ў Мазыры і Калінкавічах. Апошні быў нядаўна арэнай шахматных баёў Усесаюзнага турніру сельскіх шахматыстаў, і гасцінная шахматная арганізацыя Калінкавіцкага раёна з гонарам вытрымала першы экзамен па арганізацыі турніру такога вялікага маштабу.

Масавае развіццё шахмат на Гомельшчыне паспрыяла з'яўленню шэрагу шахматыстаў, якія атрымалі прызнанне на рэспубліканскіх спаборніцтвах.

Зборная абласная каманда заваявала другое месца на Спартакіядзе прафсаюзаў 1965 года, першае месца ў першынстве таварыства «Ураджай» 1966 года, падзяліла другое-трэцяе месцы на спартакіядзе школьнікаў 1967 года.

Найбольш буйных поспехаў, бясспрэчна, дамогся на рэспубліканскіх спаборніцтвах у апошнія гады гомельскі кандыдат у майстры Рыгор Крупскі, які стаў трэцім прызёрам мінулагодняга першынства БССР. Летась ён выйшаў пераможцам сярод майстроў Прыбалтыкі і Беларусі, пакінуўшы ззаду дзесяць майстроў.

На абласных турнірах за апошнія гады з найбольшым поспехам выступае кандыдат у майстры Аркадзь Палікарпаў, які два гады запар заваёўвае званне чэмпіёна вобласці. Працуючы метадыстам у гомельскім Палацы піянераў, ён перадае свой вопыт юным шахматыстам. Сярод іх добрыя поспехі ў вобласці маюць браты Міхаіл і Навум Добкіны, абодва гамяльчане, Вольга Вароніна-Палікарпава, адна з самых моцных першаразрадніц Беларусі, і сельскі ўрач Аляксей Жукаў, які не аднойчы дамагаўся поспеху ва ўсесаюзных спаборніцтвах сельскіх шахматыстаў.

Вядучыя кандыдаты зусім блізка падышлі да майстарскага рубікону, і зусім рэальнае жаданне гомельскіх шахматыстаў—мецць сваіх майстроў.

Прыклад, які прыводзіцца ніжэй, доказ актыўнай і вынаходлівай гульні аднаго з мацнейшых кандыдатаў у майстры Р. Крупскага.

**Р. Крупскі—А. Кобленц (Рыга).** Турнір майстроў Прыбалтыкі 1966 года.

Новаіндыйская абарона: 1. d4 Kf6, 2. c4 e6, 3. Kf3 b6, 4. e3 Cb7, 5. Ce2 Cb7, 6. 0—0 Ke4, 7. Kfd2! f5, 8. K : e4, fe, 9. Kc3.

Выкарыстаўшы несвоечасовы паспешлівы выпад каралеўскага каня чорных, белыя зрабілі выгадны размен і стварылі чорным небяспеку ў пункце e4, атрымаўшы самі выгадную стратэгічную сітуацыю.

9. ...Cf6, 10. f3 ef, 11. C : f3 d5, 12. Фa4+ Cc6, 13. fb3 dc, 14. Ф : c4 Фd7, 15. d5!

Белыя гуляюць дынамічна. Разгортваючы гульню, яны развіваюць імклівую атаку на караля чорных, які засеў у цэнтры.

15. ...ed, 16. K : d5 C : d5, 17. C : d5 c6, 18. Ce6 Фd6, 19. Фg4 Kpe7, 20. Cb3 Kd7, 21. Лd1 Ke5, 22. Фf5 Фc7, 23. Cd2.

Гомельскі шахматыст гуляе вельмі прадпрыймальна і ўпарта дамагаецца свайго. Увядзенне ў бой «рэзерваў» ферзевага фланга хутка вырашае канец змагання.

23. ...Фc8, 24. Фc2 Фg4, 25. Cc3 Фg6, 26. Cb4+! Kpe8, 27. e4 Ce7, 28. Фc3 Фg5, 29. Cd6!, і чорныя здаліся.

Пасля 29. ...C : d6, 30. Л : d6 няма абароны ад пагрозы 31. Лe6+! З другога боку, конь e5 не можа схавацца з-за ўдару Ф : c6+.

# Усмешкі маладосці

**Станіслаў МРОЖАК**

# НА ВЫШЭЙШЫ ЎЗРОВЕНЬ

**Гумарэска**

Мал. **А. Волкава**

Сабраліся мы на нараду з мэтай узняць нашу мясцовасць на вышэйшы ўзровень цывілізацыі, і старшыня пачаў:

— Кожнае дзіця ведае з тэлевізійных перадач, што сёння ва ўсім культурным свеце ёсць вельмі элегантныя злачынцы. А ў нас што? Ёсць у нас, праўда, мясцовы злодзей-рэцыдывіст, але дзе яму дацягнуць да прыстойнага злодзея-джэнтльмена! Часам якую-небудзь курыцу ўкрадзе, ходзіць абшарпаны, па-англійску — ані ў зуб. Шчыра кажучы, сорамна такога людзям паказаць. Блізіцца турысцкі сезон, з хвіліны на хвіліну да нас можа завітаць замежны госць, і нельга дапусціць, каб яго абакраў злодзей з такім нізкім культурным узроўнем.



Параіўшыся, запрасілі мы нашага мясцовага злодзея, і так да яго прыступілі:

— З сённяшняга дня ты курыцу выкінь з галавы. Толькі дыяменты або каштоўныя паперы бяры. І апранацца павінен інакш: белая кашуля з гальштукам і модны касцюм. Таксама галіся штодня. Не чаўкай, калі ясі. А з заўтрашняга дня будзеш вучыць англійскую мову.

На гэта ён:

— Добра, але адкуль мне ўзяць грошы на ўсё гэта? Курэй мне ледзьве хапае на жыццё.

Выйсце мы знайшлі. Устанавілі новы падатак з насельніцтва, арганізавалі збор грошай па нядзелях у касцёле.

Злодзею мы ўзялі абанемент у цырульні і пільна сачылі, каб у яго штодзённа была чыстая кашуля і каб ён не гаварыў грубых слоў.

Усё было добра, пакуль не ўбачылі чарговую тэлевізійную перадачу. Убачылі і зразумелі, што трэба з нашым злодзеем шмат яшчэ працаваць. Усё трэба было яму тлумачыць:

— Пакінь чухаць сябе ў розных месцах. І пры людзях не плюй на падлогу. Дык апроч таго, калі п'еш гарэлку, пі толькі з содай, як пішуць у культурных амерыканскіх аповесцях. Не менш кіло соды на чацвярцінку, ані грама меней... Соду будзеш атрымліваць у кааператыве за наш кошт.

— Олрайт! — кажа ён на гэта і цывілізуецца далей.

Ну проста на нашых вачах цывілізуецца! Нават капрызіць пачаў:

— Я б часам паслухаў... Моцарта,— гаворыць.

— Дзе мы табе Моцарта возьмем, калі ўсе штаты ўжо запоўнены? Можаш паслухаць што іншае,— адказвае старшыня.— А то ў карты пагуляй...

Вельмі мы цешыліся з яго і ганарыліся ім. А ён аднойчы знік. Толькі пісульку пакінуў: «Выязджаю. Я з такімі некультурнымі людзьмі, як вы, не магу больш трываць: на падлогу плююце, ходзіце абшарпаныя, а пра замежныя мовы ці галенне і гаварыць не варта. Сорам і паскудства... Гудбай».

І так засталіся мы наогул без злодзея. Загубіў нас снабізм і захапленне заходнімі ўзорамі. Гэта нам навука — трэба задавальняцца тым, што ёсць.

На шчасце, растуць новыя кадры...

З польскай мовы пераклаў
**Віктар ЛЯШЭВІЧ.**

**Васіль Маеўскі**

## ДВОЙЧЫ ДЫПЛАМАВАНЫ



**Два дыпломы, два значкі —**
**Інстытуты два ён скончыў.**
**Працаваць жа спец такі**
**І не можа, і не хоча.**

**Дзе б ён толькі не рабіў —**
**Адусюль мятлою тураць...**
**Не бядуе: паступіў**
**Сёлета ў аспірантуру.**

## М А Р Л Е Н

**Калі расла — была Марынай,**
**А падрасла — заві Марлен!**
**Марлен на матчынай пярыне**
**Ляжыць да вечара ўвесь дзень.**
**Слугуе маці ёй заўзята:**
**— Марлен не бачыла жыцця.**
**Дарма, што з школьным атэстатам,**
**Яна шчэ горкае дзіця...**
**Ёй працаваць яшчэ зарана:**
**Хай пагуляе — жыць жа раз...**



**І ў позні вечар к рэстарану**
**Марлен выходзіць на паказ.**

## Нашы аўтары

● **КАРЖАНЕЎСКАЯ Галіна** нарадзілася ў вёсцы Лясішча на Случчыне. Ёй семнаццаць гадоў. Цяпер жыве ў Лагойскім раёне і вучыцца ў дзевятым класе Янушкавіцкай сярэдняй школы.

● **БАРАДУЛІН Рыгор** нарадзіўся ў 1935 годзе на Ушаччыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Аўтар зборнікаў «Маладзік над стэпам», «Рунець, красавацць, налівацца», «Нагбом», «Красавік», «Дойны конь», «Цалінаград», «Неруш» і іншых.

● **ЯЎМЕНАЎ Леанід** нарадзіўся ў 1932 годзе на Магілёўшчыне. Скончыў аддзяленне філасофіі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна і аспірантуру ў Маскве. Некаторы час быў на камсамольскай рабоце. Цяпер дацэнт кафедры філасофіі і палітэканоміі Мінскага дзяржаўнага інстытута замежных моваў.

**ДАРАГІЯ СЯБРЫ!**
**Шмат цікавых сустрэч чакае вас на старонках нашага часопіса.**
**Падпісацца на «Маладосць» — ніколі не позна.**

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 6**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі рэдактар **Янна РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Ігар КРАЎЧАНКА.**
Карэктар **Лідзія ТАУЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **Б-93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **Б-93-592** — аддзелы паэзіі і прозы. **Б-93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **Б-93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 29/IV-67 г. Падпісана да друку 29/V-67 г.
АТ 00709. Тыраж 10338 экз. Зак. 253. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 16.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праcп. 79.**



Наталля Паплаўская. Памочніца. Лінагравюра.